Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 29 (4573) 23 ліпеня 2010 г.

## У нумары:







# Светласць беларускіх мадоннаў



Аляксей Кузьміч — знаны беларускі мастак, акадэмік Міжнароднай Кірыла-Мяфодзіеўскай акадэміі славянскай асветы. Шырокае прызнанне да яго прыйшло пры канцы 1980-х гадоў, у перыяд, калі яго работы экспанаваліся ў Маскве, у выставачнай зале Саюза мастакоў. З творчасцю Аляксея Васільевіча знаёмы не толькі ў Беларусі і Расіі, але і ў краінах далёкага замежжа. Мабыць, зусім невыпадкова равеснік Вялікай Перамогі, а нарадзіўся мастак у 1945 годзе, абраў асноўнай тэмай сваіх работ самы мірны вобраз — вобраз мадонны. Тэматыка твораў Аляксея Кузьміча напоўненая вялікім філасофскім сэнсам: місія чалавека на зямлі, пра маральны доўг, прызначэнне жанчыны-маці.

Універсальны вобраз жанчыны, які ўвабраў у сябе зямное і ўзнёслае, — мадонна Аляксея Кузьміча. Сотні яе абліччаў адлюстроўваюць і зямную жанчыну-маці, і маці роду чалавечага, і боскасць Сусвету. Мастак стварыў больш як 700 палотнаў з выявай мадонны, і на кожным з іх адна і тая ж адухоўленая выява паўстае ў самых розных іпастасях.

Днямі ў галерэі "Панарама" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё персанальнай выстаўкі жывапісу Аляксея Кузьміча. Сваімі прачулымі словамі творцу віншавалі дырэктар бібліятэкі Раман Матульскі, старшыня беларускага аддзялення Міжнароднай Кірыла-Мяфодзіеўскай акадэміі славянскай асветы прафесар Любоў Шумская, галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка, першы намеснік Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, мастацтвазнаўца Галія Фатыхава, паэт Андрэй Скарынкін...

Творчасць Аляксея Кузьміча многія характарызуюць адным словам — "святланоснасць". Ён — аўтар такіх серый работ, як "Залатыя Мадонны", "Сярэбраныя Мадонны", "Палыхаючая Русь"... Творы мастака маюць філасофскае гучанне, акрэсліваюць духоўнае ўдасканаленне асобы і высокае прадвызначэнне жанчыны-маці. Яны лучаць нібы фізічна адчувальную чысціню, святло і лагоду. Ды і самі назвы сведчаць пра гэта: "Лік", "У нябесным зззянні", "Мацярынства", "Мадонна ў смутку", "Чырвоная Мадонна", "Сонечны вецер", "Чысціня", "Натхненне", "Старасць", "Плач Еўфрасінні Полацкай", "Партрэт манахіні", "Пакровы", "Восень"...

Таксама на выстаўцы прадстаўлены партрэтны жанр: "Партрэт народнага артыста СССР М. І. Яроменкі", "Партрэт Інесы", "Партрэт народнага артыста Беларусі, рэжысёра Б. І. Луцэнкі", "Партрэт журналіста Пятра Сабіны", "Партрэт паэта Анатоля Аўруціна".

Аляксей Кузьміч імкнецца спалучыць часам неспалучальныя рэчы: сакральнае і свецкае. Ён працягвае эстафету вялікіх майстроў, якія стваралі вобразы мадоннаў, — Рафаэля, Леанарда да Вінчы, Рэмбранта, Бацічэлі, Рубенса, Рэнуара... Творчасць Аляксея Васільевіча, як і яго асноўная тэма, —вечная, духоўная, радасная, вельмі патрэбная ў наш час, калі размываюцца, падмяняюцца маральныя каштоўнасці.

Як кажа сам творца, мадонна — боскасць Сусвету, аснова светабудовы. Яна — гонар, годнасць і сумленне роду чалавечага. Аляксей Васільевіч не перастае захапляцца прыгажосцю і дасканаласцю, веліччу духу і ахвярнасцю нашых зямных Мадоннаў. Жанчыны-маці-мадонны на яго палотнах і плачуць, і сумуюць, і засмучаюцца, яны адчуваюць трывогу, недасканаласць свету. У іх далікатных і надзейных руках вера, надзея і збавенне чалавечай цывілізацыі — дзеці. Для Аляксея Кузьміча як мастака сцвярджэнне прыгажосці, боскасці ў чалавеку — сэнс яго жыцця і творчасці.

Як вядомы пісьменнік пазнавальны па почырку, а выбітны спявак — па голасе, Кузьміч-мастак заўважны па сваёй манеры пісання. Ён верны вечным каштоўнасцям: дабрыні, гуманізму, прыгажосці, мацярынству, стварыўшы абагульнены вобраз беларускай жанчыны-маці. Яго турбуюць праблемы духоўнага ўдасканалення чалавека. А яшчэ ў мастака ёсць даўняя мара — стварыць у Беларусі галерэю мадоннаў.

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота аўтара







## Пунктірам

• Як паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджванні, згодна з якім за высокае прафесійнае майстэрства, значны асабісты ўклад у развіццё дарожнага будаўніцтва, прамысловасці, адукацыі, аховы здароўя, навукі і культуры 33 чалавекі ўдастоены ордэнаў, медалёў і ганаровых званняў.

У прыватнасці, ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны мастак-жывапісец, член Беларускага саюза мастакоў Мікалай Казакевіч, медалём Францыска Скарыны — дацэнт кафедры інтэр'ера і абсталявання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Віктар Барабанцаў. Медаля "За працоўныя заслугі" ўдастоена дырэктар выдавецтва "Пачатковая школа" Наталля Ваніна.

Ганаровае званне "Народны мастак Беларусі" прысвоена загадчыку кафедры малюнка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзіміру Тоўсціку, ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь" — вядучаму праграмы дырэкцыі інфармацыйнага вяшчання ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал" Аляксандру Авернаву, дырэктару Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Наталлі Бярозкінай, мастаку-скульптару, члену Беларускага саюза мастакоў Уладзіміру Слінчанку.

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народных артыстаў Расіі: Васіля Ліванава — з 75-годдзем, Давіда Тухманава — з 70-годдзем, Аляксея Рыбнікава — з 65-годдзем.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванні родным і блізкім вядомага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі Ігара Дабралюбава ў сувязі з яго смерцю.

• Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" начальніка Стаўбцоўскага ўчастка рознічнага гандлю гандлёвага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Мінабласаюздрук" Людмілу Каробку.

• Свята-конкурс драўлянай лыжкі сабрала ў мінулую суботу ў Беразіно 50 майстроў з 9 рэгіёнаў Мінскай вобласці. Такое мерапрыемства праводзілася тут упершыню.

• Водная экспедыцыя "З Уладзімірам Караткевічам ад Оршы да Рагачова", прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння знакамітага пісьменніка, стартавала 20 ліпеня ў Оршы. На працягу шасці дзён яе ўдзельнікі пройдуць на катамаранах 230 кіламетраў і завітаюць у Ляўкі, Магілёў, Бархалабава, Быхаў і Рагачоў.

• Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 6 ліпеня 2010 года за высокія дасягненні ў галіне тэатральнага мастацтва і значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры прафесійнаму калектыву мастацкай творчасці "Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі" прысвоена званне "Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь".

• Галерэя TUT.BY запрашае ўсіх жадаючых наведаць выстаўку "Неонавая прастора". Экспазіцыя прадстаўлена работамі графікі, жывапісу, скульптуры творчага аб'яднання "Неонавая галава". Мастакі гэтай суполкі займаюцца пошукам неардынарных форм у мастацтве і лічаць сваёй асноўнай мэтай аб'яднаць людзей, якія неабыякавыя да яго, а таксама да беларускай культуры і гісторыі.

Падрыхтавалі
Бажэна СТРОК і Віктар ЗАЯЦ

## Юбілеі

# Купалаўскаму тэатру — 90!

**Яшчэ ў далёкім 1888 годзе пачалі ўзводзіць будынак, дзе сёння месціцца Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы — вядучы драматычны калектыў краіны, колішні БДТ-1. Сёлета Купалаўскі тэатр адзначае сваё 90-годдзе і 120-годдзе свайго гістарычнага будынка. Знамянальную дату купалаўцаў тэатральная грамадскасць адзначыць неўзабаве імпрэзай "Нясумны юбілей".**



Дзвюм яркім датам у жыцці купалаўцаў будзе прысвечана прэс-канферэнцыя, якая пройдзе 28 ліпеня. Мяркуецца, што ўдзел у ёй возьмуць дырэктар тэатра Павел Палякоў, мастацкі кіраўнік Мікалай Пінігін, архітэктар Людміла Іванова, а таксама артысты Раман Падаляка і Святлана Зелянкоўская. Размова пойдзе пра вынікі тэатральнага сезона 2009 — 2010 гадоў і праблемы рэканструкцыі будынка, пра перспектывы дзейнасці тэатра падчас рэканструкцыі, будучыя гастролі і ўдзел купалаўцаў у фестывалях.

Так, тэатру давядзецца перажыць каласальныя змены. У выніку распачатай рэканструкцыі будынак набудзе выгляд, адпаведны распрацоўкам канца XIX стагоддзя, а шляхам капітальных работ мяркуецца павялічыць плошчу тэатральных памяшканняў. Мадэрнізуецца абсталяванне сцэны. Мяркуецца поўнасцю аднавіць галоўны фасад і, часткова, бакавыя — паводле гістарычных архітэктурных праектаў. А вось колькасць месцаў у зале паменшыцца амаль на сто, бо давядзецца ўлічыць патрабаванні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Усе пераўтварэнні не перашкодзяць тэатральнаму працэсу. Як і планавалася, асноўнымі пляцоўкамі для артыстаў і гледачоў стануць Палац культуры прафсаюзаў, а таксама Клуб імя Ф. Дзяржынскага. Словам, творчы працэс не спыніцца. І два гады, адведзеныя на рэканструкцыю будынка, будуць насычаны прэм'ерамі, гастролямі і юбілеямі.

Карына ЦІМАФЕЕВА

На здымку: колішні Мінскі губернскі тэатр на малюнку.

## Фестывалі

**Калі лета ў зеніце, канцэртна-тэатральнае жыццё зацiхае амаль па ўсёй Беларусі — да пачатку новага сезона. Вось толькі Віцебск, парушаючы завядзёнку вакацый, традыцыйных і для нашых артыстаў, і для гледачоў, штогод скілікае ў разгар ліпеня гасцей на вялікае міжнароднае свята мастацтваў. І водгулле гэтага свята яшчэ як мінімум тыдзень лунае над берагамі Дзвіны і дасягае ўсіх гарадоў, краін, кантынентаў, адкуль прымаў гасцей "Славянскі базар у Віцебску".**



# Рэха гарачага тыдня

Сёлета, хаця зусім не характэрная для нашай паўночнай фестывальнай сталіцы гарачыня біла ўсе ранейшыя тэмпературныя рэкорды, зафіксаваныя беларускімі сіноптыкамі, на "Славянскім базары ў Віцебску" быў аншлаг. Вядома, ад спякотнага сляпучага сонца пакуталі і арганізатары імпрэз, і журналісты, і зычліва-сентыментальная публіка, і самавітыя гаспадары "Горада майстроў", і спевакі-канкурсанты, і ўдзельнікі канцэртных праграм (асабліва падчас дзённых выступленняў ды рэпетыцый), — але агульны фестывальны клімат здаваўся камфортным для ўсіх. Разнажанравыя праграмы, творчыя сустрэчы, кінапаказы, вернісажы збіралі сваіх прыхільнікаў і праходзілі "на ўра". Між іншым, адчуванне 30-градуснай спёкі не змянала мастакам-кавалям чараваць над распаленым металам, а публіцы — назіраць за гэтым захапляльным вулічным шоу. Вечаровая задуха не спыняла энергію маладых людзей, якія прыйшлі на выступленне зорак "Еўрабачання" і ператварылі самую вялікую плошчу краіны — віцебскую плошчу Перамогі — у гіганцкі святочны танцпол.

Спраўна працавалі фестывальны штаб і прэс-цэнтр, нашым увішным калегам з рэпарцёрскімі мікрафонамі ды тэлекамерамі ўдавалася, на зайздрасць газетчыкам з масавых выданняў, ахапіць неахопнае, суправаджаючы зорак у кулуарах Летняга амфітэатра, падчас выбару пакупак на гаманкім кірмашы народных рамёстваў, у шпацыры па вернісажах, нават на рачным пляжы. Дарэчы, тыдзень таму, за некалькі гадзін да афіцыйнага закрыцця XIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", адбылася кранальная цырымонія закрыцця фестывальнага прэс-цэнтра, дзе былі акрэдытаваныя каля 500 журналістаў з 20 дзяржаў. Намеснік міністра інфармацыі Беларусі Аляксандр Слабадчук, выказаўшы словы падзякі на адрас айчынных СМІ, асабліва адзначыў аператыўную працу журналістаў Белтэлерадыёкампаніі.



У дні "Славянскага базару..." беларуская медыяпрастора, дзякуючы шматлікім рэпартажам, бліц-паведамленням, інтэрв'ю і карэспандэнцыям, нагадвала вялізнае люстэрка, у якім адбівалася стракатае віцебскае жыццё: падзеі, уражанні, эмоцыі, твары, імёны, асобы... Таму здзівіць зараз нашых чытачоў нейкай значнай фестывальнай інфармацыяй наўрад ці магчыма. Проста прыгадаем некаторыя факты — у дадатак да сказанага ў ранейшых публікацыях "ЛіМа".

На 16 канцэртных пляцоўках фестывалю адбылося 70 творчых праектаў, відавочцамі якіх стала каля 150 тысяч гледачоў. Апроч буйных масавых імпрэз — гала-канцэртаў і сольных праграм у Летнім амфітэатры, ладзіліся сустрэчы з мастацтвам у іншых залах Віцебска. Прыклады? Спектаклі маскоўскага "Театра на Юго-Западе" і санкт-пецярбургскага "Молодёжного театра на Фонтанке"; творчыя сустрэчы з народнай артысткай Расіі Святланай Крučковай і расійскім кінарэжысёрам, актрысай Верай Глаголевай. Сеанс кінематаграфістаў Украіны. Канцэрты грузінскай спявачкі Ніно Катамадзе; беларускага этнатрыо "Троіца"; нямецкіх музыкантаў-інструменталістаў, харыстаў і арганісткі Імке Маркс; ізраільскіх оперных спевакоў і "Аркестра ўражлівага палёту". Фотавыстаўкі з Германіі — горада Нінбурга, пабрацiма Віцебска, і з Літвы — вядомых падарожнікаў Юргі ды Рычардаса Анусаўскасаў. Вернісаж латышскай мастачкі Сільвы Лінартэ "Гульня светлацені"...

Як мы паведамлялі, кіраўнік нашай краіны Аляксандр Лукашэнка ўручыў на "Славянскім базары ў Віцебску" традыцыйныя ўзнагароды лаўрэатам прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва, а таксама спецыяльную прэмію Прэзідэнта Беларусі "Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення"; ордэнам Францыска Скарыны быў узнагароджаны спявак Юрый Антонаў. А Дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін у адзін з фестывальных дзён вітаў уладальнікаў спецыяльных дыпломаў і прызоў яе Пастаяннага камітэта "За творчае ўвасабленне ідэй дружбы народаў Беларусі і Расіі". Узнагароды атрымалі прадстаўнікі Беларусі кампазітар, прадзюсер Алег Елісеенкаў і член аргкамітэта фестывалю на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў, ініцыятар арыгінальных творчых беларуска-расійскіх праектаў Уладзімір Рылатка, знаныя расіянкі Вера Глаголева і Ларыса Доліна.

Галоўная інтрыга фестывалю разгортвалася вакол міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2010", чые выступленні ацэньвала журы на чале з народнай артысткай Украіны Таісіяй Павалій. Вось яго вынікі. Гран-пры конкурсу (адпаведны дыплом, 10 тыс. долараў, спецыяльны прыз "Ліра") атрымаў Дамір Кеджа з Харватыі, які паводле вынікаў двух тураў набраў 172 балы са 180 магчымых. Толькі на два балы адстаў ад яго ўлюбёнец публікі Лаша Рамішвілі з Грузіі. У яго — 1-я прэмія. А яшчэ — спецыяльны прыз імя Уладзіміра Мулявіна, што прысуджаецца за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы, вобразнасць і эмацыянальнасць у адлюстраванні аўтарскай тэмы выканаўца твора: на другім конкурсным туры Лаша Рамішвілі выканаў у суправаджэнні Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга песню І. Лучанка на верш Г. Бураўкіна "Зачараваная", уразіўшы не толькі яркім вакалам, артыстызмам, тэмпераментам, але і выдатным беларускім вымаўленнем.

Журы падзяліла 2-ю прэмію паміж Анаіт Шахбазян з Арменіі ды ўкраінкай Інай Воранавай, а 3-ю — паміж Дзінарай Султангалievай з Казахстана і прадстаўніком Беларусі Дзянісам Вяршэнкам ды македонцам Ёца Панавым. Спецпрызы Парламенцкага сходу Саюзнай дзяржавы атрымалі Дзяніс Вяршэнка і расіянка Ганна Малышава; Міждзяржаўны фонд супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД узнагародзіў Дзінару Султангаліеву і Анаіт Шахбазян сертыфікатамі на права запісу сольнага альбома. Іншыя канкурсанты атрымалі званні дыпламантаў гэтага конкурсу і прызы ад спонсараў. Новыя зорачкі запаліліся і пасля правядзення восьмага міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу "Віцебск-2010", сярод іх — уладальнік Гран-пры Марыё, юны спявак з Румыніі, ды наша Злата Ларчанка, ганараваная трэцяй прэміяй.

Год праміне хутка, і наступным летам зноў з'едуцца госці з усяго свету на "Славянскі базар у Віцебску" — дваццаты, юбілейны.

Лана ІВАНОВА

На здымках: артысты Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" падчас закладкі на "Алеі зорак" імяннай пліты Уладзіміра Мулявіна і стваральніка ім калектыву; народны артыст СССР кампазітар Раймонд Паўлс падчас свайго творчага вечара ў Летнім амфітэатры.

## Літ-абсягі

# Сонечныя казкі Караткевіча

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла прэзентацыя кнігі казак Уладзіміра Караткевіча "Лебядзіны скіт", што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Упершыню пад адной вокладкай у цудоўным афармленні мастака Міколы Купавы сабраны і выдадзены казкі класіка нашай літаратуры. Да таго ж, прэзентацыя сталася адной з першых акцый, прысвечаных 80-гадоваму юбілею Уладзіміра Сямёнавіча.

Як заўважыў галоўны рэдактар "Мастацкай літаратуры" Віктар Шніп, творы Уладзіміра Караткевіча ў гэтым выдавецтве выходзяць даўно і паспяхова, бо яны маюць свайго чытача. У серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" была выдадзена кніга "Быў. Ёсць. Буду", якая разышлася хутчэй за іншыя выданні такога ж кшталту. Бо У. Караткевіча любяць, паважаюць, ён наш сапраўдны класік. Але дзякуючы гэтай кнізе Уладзімір Сямёнавіч становіцца нам вядомы не толькі як паэт, празаік, драматург, але і як цудоўны казачнік, які ведае народныя характары і з'яўляецца сапраўдным майстрам мастацкага слова. Пашанавала выдавецтву і на мастака, які ўзяўся за гэту адказную працу.

Мастак Мікола Купава падзяліўся ўражаннямі ад працы: "У кнізе казак ілюстрацыі — вельмі важны фактар. Трэба, каб чытач заглыбляўся не толькі ў тэкст, але і ў мастацкую вобразнасць твора. Для мяне праца над гэтай кнігай — вялікі гонар, бо мы з Уладзімірам Караткевічам землякі. І таму я імкнуўся, каб ілюстрацыі дапамаглі не толькі ўспрыняць творчасць пісьменніка, але напоўніць выяўленчы шэраг яшчэ і рэмінісцэнцыямі з гісторыі Беларусі. Гэта і Аршанскі замак (якгога не існуе ўжо год трыста) і рамантычны вобраз рыцара. Я не ўсё зрабіў так, як хацеў, але, тым не менш, кніга для мяне вельмі дарагая па ўсіх крытэрыях, бо казка — мой любімы жанр. Гэта выданне — не падсумаванне, а толькі пачатак, і мне як мастаку хацелася б больш раскрыцца і яшчэ папрацаваць з казкамі Уладзіміра Караткевіча".



На прэзентацыі кнігі прысутнічала пляменніца Уладзіміра Сямёнавіча Алена Сінкевіч, якая заўважыла: "Я вельмі люблю гэтыя казкі, яны сонечныя, напісаныя з вялікай любоўю да кожнай жывёліны, кожнага чалавека, да роднага краю, але ў той жа час для мяне яны і шчымлівыя. З кожнай старонкі я чую голас свайго дзядзькі".

Падчас імпрэзы гучалі і самі казкі, іх прачытала актрыса і пісьменніца Вера Буланда, а даследчык творчасці Уладзіміра Сямёнавіча Анатоль Верабей пазнаёміў прысутных з некаторымі цікавымі фактамі творчага шляху класіка.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: пляменніца Уладзіміра Караткевіча Алена Сінкевіч.

Фота Сашы Дорскай

## Арт-лінія

# Пра сям'ю і шчасце

"Няшчасце, якое скончылася шчаслівай", — менавіта такі эпіграф адлюстроўвае праблематыку спектакля "Эсфір" паводле п'есы Людмілы Уліцкай, прэм'ера якога адбудзецца сёння, 23 ліпеня, у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горкага. Напярэдадні прэм'еры ў сценах тэатра прайшла прэс-канферэнцыя з удзелам амаль усіх артыстаў спектакля, рэжысёра-пастаноўшчыка Валянціны Еранькоўай і кампазітара Аляксея Еранькова.

"Калі я азнаёмілася з п'есай Людмілы Уліцкай, — расказвае Валянціна Еранькова, — адразу зразумела: гэта маё. Кожнае слова лёгка ўспрымаецца пры чытанні, а галоўнае — п'еса адлюстроўвае сучасныя праблемы канкрэтнай сям'і. А сёння вельмі цяжка знайсці такіх драматургаў, якія апісвалі б сучаснасць класічным стылем".



Прадстаўляючы артыстаў занятых у спектаклі, Валянціна Еранькова падкрэсліла, што працуюць яны ў нялёгкіх умовах: "Яны павінны апранацца ў цёплае адзенне, калі за акном амаль +35, бо дзеянне п'есы разгортваецца восенню і вясной. Але ж нашы артысты не звяртаюць на гэта ніякай увагі. Галоўнае, каб пастаноўка здзівіла гледача. Сапраўды, я шчаслівая, што працую з такім артыстамі, як Вольга Клебановіч, Людміла Былінская, Юлія Кадушкевіч, Алена Стацэнка, Аляксей Сянчыла, Сяргей Чакярэс, Віталь Краўчанка. Менавіта іх досвед і талент дапаможа гледачу пранікнуцца глыбінёй п'есы, зразумець духоўны стан галоўных герояў.

"Насамрэч наш спектакль грунтуецца на каханні, — дадае кампазітар Аляксей Еранькоў. — З пачуццяў і акалічнасцяў нараджаецца асноўны канфлікт п'есы. Пастаноўка насычаная музыкай, якая перадае інтымнасць, нават нейкую эратычнасць атмасферы як артыстам, так і гледачам. Музыка ж і ёсць каханне. Са сцэны прагучаць кантарскія спевы, якія нададуць спектаклю яўрэйскі каларыт, бо паводле п'есы Людмілы Уліцкай сям'я галоўных герояў мае яўрэйскія карані. Спадзяёмся, прэм'ера зацікавіць гледачоў, а мы ў сваю чаргу абяцаем зрабіць кожны эпізод відовішча дзівосным і непаўторным".

Тэатр імя Максіма Горкага запрашае ўсіх ахвочых на прэм'еру спектакля "Эсфір". А тыя, хто не патрапіць на яе ў ліпені, могуць настроіцца на ўрачысты пачатак новага тэатральнага сезона: пачнецца ён у верасні менавіта спектаклем "Эсфір".

Карына ЦІМАФЕЕВА

На здымку: будынак Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага.

## Повязі

# Калі ласка, на кастынг!

Кім Брэйтбург, паспяховы расійскі кампазітар-песеннік, спанатраны ў шоу-бізнесе прадзюсер, які пачынаў кар'еру са сваёй, калісьці культавай, групай "Дыялог", не толькі напісаў больш як 500 песень, але і працуе ў буйных формах г. зв. лёгкага жанру: эстрадная сюіта, рок-опера, мюзікл. Адзін са сваіх новых мюзіклаў "Блакітная камея", які ўжо раскручваецца "до самых до окраин" Расійскай Федэрацыіі (напрыклад, ва Уфе, Краснаярску і яшчэ далей), Кім Аляксандравіч прапанаваў паставіць за яе межамі — у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.



Пасля канцэрта "Дзве сястры — Беларусь і Расія", які адбыўся ў Дзень Саюзнай дзяржавы на "Славянскім базары ў Віцебску" і стаўся, па сутнасці, аўтарскім праектам кампазітара Кіма Брэйтбурга, ён завітаў у Мінск. Прыехаў разам са сваёй творчай камандай, каб узгадніць з дырэктарам БДАМТ Аляксандрам Пятровічам арганізацыйныя моманты супрацоўніцтва і падпісаць адпаведную дамову. З нагоды гэтага візіту тэатр запрасіў журналістаў на інфармацыйную сустрэчу з расійскімі гасцямі.

Хто ж уваходзіць у каманду Кіма Брэйтбурга? Карэн Кавалеран — вядомы расійскі хітмейкер, паэт, драматург, аўтар тэкстаў больш як 700 песень, паўтары сотні з якіх знаходзяцца ў пастаяннай ратацыі на радыёстанцыях Расіі; сем песень з яго тэкстамі ўдзельнічала ў міжнародных тэлевізійных конкурсах "Еўрабачанне" (адна з іх гучала ў выкананні беларуса Дзмітрыя Калдуна). Заслужаны дзеяч мастацтваў Расійскай Федэрацыі харэограф і рэжысёр Мікалай Амосаў, які мае і свой калектыў — танцавальны ансамбль "Русскія сезоны". Валерыя Брэйтбург, жонка Кіма Аляксандравіча, — старшы выкладчык Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, адна з вядучых маскоўскіх спецыялістаў у галіне эстраднага вакалу.

Сюжэт мюзікла "Блакітная камея" на лібрэта К. Каваляранa высноўваецца з экзатычных для нас эпізодаў гісторыі Расійскай імперыі, звязаных з князёўнай Тараканавай, імператрыцай Кацярынай ІІ... Прапануецца нечаканы для стацыянарнай акадэмічнай тэатральнай сцэны прынцып самой пастаноўкі: перш чым атрымаць у ёй ролю, прэтэндэнты пройдуць кастынг, прычым стваральнікі спектакля правядуць яго на неверагодна дэмакратычных умовах: прайсці выпрабаванне можа кожны чалавек "з вуліцы", неабавязкова мець дыплом пра музычную, акцёрскую ці харэаграфічную адукацыю. Каманда Брэйтбурга абяцае разгледзець у прэтэндэнтах адпаведныя здольнасці, навучыць асновам прафесіі, памагчы раскрыцца на сцэне, паказаць дарогу да творчага развіцця. Яшчэ адзін праект "Народны артыст"? Падабенства ёсць. Але ў адрозненне ад колішняга тэлешоу, пасля якога разам са святлом у студыі згасала і ўзнёсласць новаспечаных "зорак", тэатральны праект, разлічаны не на адзін сезон, дазволіць яго непрафесійным удзельнікам з кожным спектаклем перажываць дзівоснае пачуццё, якое дае сцэна і жывы кантакт з публікай.

Нашы госці пазнаёміліся з магчымасцямі прафесійнай трупы БДАМТ, але размеркавання роляў не рабілі. Праўда, маладой салістцы Ілоне Казакевіч ужо давялося выканаць раманс князёўны Тараканавай на віцебскім фестывальным канцэрце "Дзве сястры...". Але толькі ў верасні, пасля "ўсеагульнага" кастынга, будзе зроблены канчатковы адбор выканаўцаў на рознаўзроставыя ролі гэтага шматнаселенага маладзёжнага па музыцы і харэаграфіі "касцюмнага" мюзікла. Прэм'ера "Блакітнай камеі" — у лютым 2011 года.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: Валерыя і Кім Брэйтбургі.

Фота Віктара Кавалёва

## З-пад пяра

Прыемнай падзеяй у культурным жыцці Гомельскага раёна стаў выхад з друку першага калектыўнага зборніка твораў членаў літаратурнага аб'яднання "Пралеска", якое мае багатую 50-гадовую гісторыю. На пачатку існавання літаб'яднанне дзейнічала пры раённай газеце "Маяк". Ля яго вытокаў стаялі такія знакамітасці, як Анатоль Грачанікаў, Іван Сяркоў, Дзмітрый Кавалёў, Міхась Башлакоў, Юрый Фатнеў ды іншыя. Менавіта іх творы можна пабачыць на першых старонках зборніка, які таксама займеў назву "Пралеска". Цяперашняя літаратурнае аб'яднанне працуе пры Гомельскай раённай бібліятэцы. Кніга выдадзена намаганнямі ўсіх творцаў, якія наведваюць літаб'яднанне, але ў першую чаргу — кіраўніка "Пралескі" пісьменніцы Евы Дударгі. Яна — укладальнік выдання і аўтар трэцяга раздзела, дзе пададзена гісторыя літаб'яднання.

Галіна РАГАВАЯ

У Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту апошнія чатыры дні ліпеня будзе праводзіцца рэспубліканскае свята рэзчыкаў па дрэве — фэст разьбяроў. У ім прымуць удзел народныя майстры з Гомеля і Брэстчыны. На спецыяльна адведзеных пляцоўках мастакі будуць ствараць манументальныя скульптуры на тэму "Беларуская міфалогія". Іх творы застануцца ў музеі, упрыгожаць яго тэрыторыю. Галоўныя падзеі свята адбудуцца напрыканцы фэста разьбяроў — 31 ліпеня. На тэрыторыі музея будзе святкавацца Дзень украінскай народнай культуры ў Мінску. З канцэртам выступяць госці з Украіны — народныя фальклорна-этнаграфічныя ансамблі "Берагіня", "Червона калина", "Калина". Будуць разгорнуты выстаўкі пісанак з Гуцульшчыны і Покуцця, украінскай народнай цацкі "Лялька-Матанка", гуцульскай разьбы па дрэве, украінскага ручніка, праведзены майстар-класы па напісанні пісанак і вырабу лялькі-матанкі. Прывабіць удзельнікаў свята і выстаўка-дэгустацыя "Украінскі каравай".

Ларыса САЛОДКІНА

Мінская арганізацыя ветэранаў журналістыкі адзначыла сваё 45-годдзе. Яна налічвае больш як 300 чалавек, 39 з іх — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Вось ужо 15 гадоў ветэранскую арганізацыю ўзначальвае заслужаны журналіст Беларускага саюза журналістаў Аляксандра В'юнова, якая разам з мужам, ваенным лётчыкам, аб'ездзіла ўвесь Саюз і пасля вярнулася на Радзіму. Кожны год Аляксандра Еўдакімаўна арганізоўвае конкурсы на лепшую публікацыю. У гэтым годзе на конкурс паступіла больш 500 друкаваных твораў. Энтузіязм ветэранаў невычарпальны, яны стараюцца і сёння быць патрэбныя сваёй Радзіме, людзям. Рэгулярна бываюць у тэатрах і музеях, кінатэатрах, а самае галоўнае не забываюць пра тых, хто ўжо не можа прыйсці на гэтыя мерапрыемствы — іх наведваюць дома.

Галія ФАТЫХАВА

Бібліятэкары аддзела абслугоўвання і інфармацыі Быхаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі арганізавалі творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым, аўтарам 26 кніг паэзіі і прозы для дзяцей і дарослых, шматлікіх перакладаў, навуковых прац. Радкі, што ішлі з душы Міхаіла Паўлавіча ў час сустрэчы, выклікалі самыя светлыя пачуцці. Вершы пісьменніка, перакладзеныя на музыку кампазітарам Іванам Раманчуком, у выкананні саліста ансамбля народнай музыкі "Свята" Вячаслава Статкевіча ўсхвалявалі прысутных. Сястра пісьменніка Ганна Паўлаўна, вядучы рэдактар Мінскай фабрыкі каляровага друку, з замілаваннем успамінала аб дзіцячых і юнацкіх гадах брата ў роднай вёсцы Заброддзе, аб станаўленні яго як пісьменніка. Прысутныя мелі магчымасць набыць апошнія выданні М. Пазнякова з аўтографам аўтара. Камплект кніг Міхаіл Паўлавіч падараваў цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Тацяна КАРЖОВА

№ 29 23 ліпеня 2010 г. ЛіМ

# Эфектна ці эфектыўна?

У апошні час актуальнасць набываюць пытанні развіцця і распаўсюджання дзіцячай літаратуры. У значнай ступені гэта датычыцца п’есы для дзяцей — жанру, не запатрабаванага ў чытача. Але творы гэтага жанру маюць сваю адметную і цікавую гісторыю, свае традыцыі. Пра асаблівасці станаўлення беларускай п’есы для дзяцей нам расказаў даследчык літаратуры Анатоль Трафімчык, чалавек, які знаёмы з усімі дзіцячымі п’есамі беларускіх аўтараў.



— Анатоль Віктаравіч, вы аналізуеце п’есы для дзяцей, што ствараліся цягам стагоддзя. Ці ёсць розніца паміж дзіцячымі п’есамі, напісанымі ў пачатку XX ст. і ў нашы дні?

— Адказ, здавалася б, мог быць адназначным: няма. Але… Справа ў тым, што ўсё перажытае нашай літаратурай адбілася не ў меншай ступені і на без двух гадоў векавой гісторыі існавання беларускай дзіцячай п’есы. А пачатак быў, скажам так, і п’есы К. Лейкі, З. Бядулі, Ф. Аляхновіча выявілі гуманізм вышэйшай маркі. Ды кожная эпоха шукае свой ідэал. І ў перыяд “сталінскага сацыялізму” тыя пошукі былі радыкалізаваны. Спробы стварэння новага героя і духоўнага знішчэння рэтраградаў, якія не прынялі ці не зразумелі новых павеваў і каштоўнасцей, фактычна вялі да змяншэння мастацкіх вартасцей драматургіі (п’есы В. Сташэўскага, І. Гурскага, М. Блісцінава). Аднак змена некаторых сацыяльных акалічнасцей спрычынілася да паступовага вяртання мастацтва на “кругі свая”, пакінуўшы ў гісторыі літаратуры даніну палітычнай рэгламентацыі толькі фармальна. З 1950-х гуманістычныя лейтматывы ў п’есах для дзяцей гучаць больш выразна, хоць і тут быў збой пад уплывам так званай тэорыі бесканфліктнасці. Бадай, ніводзін з характараў беларускіх п’ес для дзяцей, спароджаных сацыяльна-палітычнай кан’юнктурай, не ўдаўся і не адбыўся як мастацкі феномен — у адрозненне, напрыклад, ад нечаканых выключэнняў канца 1930-х у выглядзе п’ес-казак В. Вольскага (да іх казкі ў нашай драматургіі з дзесятак гадоў не публікаваліся зусім, бо, як палічылі савецкія ідэолагі, былі варожымі сацрэалізму і таталітарнай сістэме, — дарэчы, справядліва). Вяртанне да гуманістычных каштоўнасцей непарыўна звязана якраз з развіццём казкі, якая на сучасным этапе і ў колькасным, і ў якасным плане выразна дамінуе над рэалістычнай дзіцячай п’есай.

— А якія каштоўнасці прапагандуе сучасная беларуская дзіцячая драматургія?

— Банальна кажучы, агульначалавечыя каштоўнасці forever. Канфлікт у дзіцячых п’есах, як правіла, рэпрэзентуецца ў выглядзе супрацьстаяння добрых і кепскіх сілаў. Зразумела, у адлюстраванні гэтага канфлікту назіраецца шырокая тэматычная і сюжэтная варыянтнасць. Апошнім часам набыла моц яшчэ адна тэндэнцыя — да мадэрнізацыі п’есы для дзяцей у цэлым. Нават у казцы, якая ў сваім развіцці мае схільнасць да кансерватыўнасці, з’явіліся творы на сучасную тэматыку і ў жанры фантастыкі (такія п’есы ёсць у Р. Баравіковай, М. Арахоўскага, Г. Каржанеўскай і інш.). У некаторых п’есах для дзяцей можна заўважыць элементы постмадэрнісцкіх творчых метадаў (“Новы калабок” П. Васючэнкі, “Як казкі пераблыталіся” Г. Аўласенкі). Адзінае, што застаецца непарушным, — аснова чалавечнасці як маральны арыенцір для любога характару. Такія падыходы толькі пашыраюць жанрава-тэматычнае кола драматургіі для дзяцей, кожным разам больш грунтоўна сцвярджаючы яе гуманістычны пафас.

— Сёння шмат гаворыцца і пішацца пра слабую зацікаўленасць крытыкі творамі для дзяцей…

— Сапраўды, на дзіцячую літаратуру, нягледзячы на яе важнасць для грамадства, літаратуразнаўчая навука і крытыка звяртае ўвагі мала. А п’есы тут зусім абдзеленыя. Дастаткова сказаць, што першая крытычная нататка пра п’еску для дзяцей з’явілася толькі праз 15 гадоў пасля выхаду яе дэбютнага для беларускай літаратуры твора — у 1927 годзе. Не абышлося і без абсурду — барацьбы супраць казкі і за камуністычнае выхаванне дзіцяці, падрыхтоўку яго да вайны (“Надыдзе дзень, калі дзіця вырасце, яму будзе пэўная колькасць гадоў, і яму давядзецца ваяваць. І вось трэба, каб яно ведала загадзя, што гэта абавязковая для яго справа не толькі цікавая, але і цяжкая. Трэба, каб яно само хацела ваяваць”, — казаў напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны А. Гайдар).

З сярэдзіны 1950-х крытыка і літаратуразнаўчая навука перажывалі працэс дэідэалагізацыі, пазбаўлення ад сацыяльна-вульгарызатарскіх прынцыпаў, дый сам метад сацыялістычнага рэалізму, які заставаўся дамінуючым і “адзіна правільным”, стаў больш “гнуткім”, а літаратурнае жыццё больш ліберальным. Не надаючы належнай увагі стварэнню сінтэтычных прац па дзіцячай драматургіі, беларускія літаратары (і не толькі) друкавалі шмат невялікіх артыкулаў, рэцэнзій пра п’есы для дзяцей, абмяркоўвалі іх праблемы на з’ездах, арганізоўвалі дыскусіі па пытаннях дзіцячай літаратуры на старонках газет і часопісаў (лідэрам у гэтым сэнсе была газета “Літаратура і мастацтва”).

У наш час дзіцячай п’есе прысвячаюць свае развагі С. Лаўшук, П. Васючэнка, Л. Пятрова, В. Козел, В. Яцухна, А. Марціновіч і інш. Але кола іх інтарэсаў толькі “перасякаецца” з драматургіяй для дзяцей, не перарастаючы ў цэласнае даследаванне. Звычайна дзіцячая п’еса фігуруе ў шырэйшым кантэксце. Мала хто звяртае ўвагу непасрэдна на яе. Бадай, выключэннямі глядзяцца невялікія публікацыі А. Сабалеўскага, С. Лаўшука, С. Юрчанкі, В. Жыбуль (Бурлак), Ф. Драбені. Два апошніх аўтары — прадстаўнікі маладзейшага пакалення крытыкаў, што не можа не радаваць.

Аналізуючы развіццё літаратуразнаўства і крытыкі п’ес для дзяцей, хацелася б адзначыць больш глыбокую і шматвектарную аналітыку сучасных даследчыкаў адносна праблемы характару ды канфлікту, ключавой для драматургіі. Пільная ўвага ў такім ракурсе павінна забяспечыць вышэйшую якасць п’ес для дзяцей і так важны сёння розгалас пра лепшых з іх, бо малады чытач вельмі патрабавальны і адчувальны да нізкапробнасці і фальшу.

У цэлым жа колькасць і якасць крытыкі п’ес для дзяцей па-ранейшаму недастатковыя.

— На якія п’есы для дзяцей вы параілі б звярнуць увагу і патэнцыйным чытачам, і настаўнікам?

— Відаць, лепей будзе не пералічваць творы, а адзначыць наступнае. У кожным перыядзе знойдуцца такія, што могуць зацікавіць, хоць большасць з п’ес застануцца невядомымі нават літаратуразнаўцам. А вось “Несцерка” В. Вольскага — твор несмяротны. І гэта заслужана. Супрацьлеглы выпадак. Паэма М. Багдановіча “Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык” стала асновай для стварэння М. Міцкевічам сцэнічнай казкі, нібы раствäрыўшыся ў ёй. Захаваўшы агульны каларыт паэтычнага твора, М. Міцкевіч даў разгуляцца творчай фантазіі, што прывяло да адрозненняў і кампазіцыйных, і фабульных, не кажучы ўжо пра большую падзейную насычанасць. Такі падыход робіць п’есу вельмі сцэнічнай і прыдатнай таксама да чытання без пастаноўкі. Гэта п’еса нарадзілася напярэдадні ганенняў на казку — у 1926 г., мусіць, таму так і не была апублікаванай.

Пасляваенныя п’есы-казкі (М. Алтухова, А. Вольскага, П. Макаля, А. Вярцінскага, В. Лукшы і інш.) характарызуюцца высокім мастацкім узроўнем. Чаго не скажаш пра рэалістычную драматургію для дзяцей, хоць і тут ёсць вартыя і цікавыя творы, напрыклад, у І. Шамякіна і А. Махнача. А вось аднаактоўкі, аўтарамі якіх былі В. Зуб, Х. Мальцінскі, М. Алтухоў, М. Скрыпка (яны складаюць, мабыць, больш за палову ўсіх дзіцячых п’ес 1950-х — 1980-х). Калі і здараліся яны па-мастацку ўдалымі, то — з-за сваёй кан’юнктурнасці (неабавязкова палітычнай) — сёння дэактуалізаваліся.

На сучасным этапе многія маюць шмат добрых драматургічных казак. З. Дудзюк, І. Сідарук, Г. Марчук, Г. Каржанеўская, Л. Рублеўская, Р. Баравікова, С. Кавалёў, П. Васючэнка — бадай, асноўныя аўтары. Але вось дзіцячыя п’есы менавіта двух апошніх з шэрага названых, як думаецца, чытач успрыняў бы з найбольшым задавальненнем і нават захапленнем. Іх творы не толькі эфектыўныя, але і эфектныя.

Рэалістычных п’ес для дзяцей, на жаль, цяпер мала. Дый тыя, што ёсць, адрасаваны як мінімум старшакласнікам (успрыманне драматургіі становіцца найбольш асэнсаваным толькі ў старэйшых класах, гадоў з 14-і). Але гэта не значыць, што не павінна быць такіх п’ес для малодшых школьнікаў. Гэты ўзрост вельмі спецыфічны, патрабуе кангеніяльнага мастацкага падыходу, больш гульнявых момантаў, прычым нельга забываць і пра выхаваўчую функцыю (таму казкам тут прасцей). Тонкая работа. Відаць, не рашаюцца аўтары брацца за яе.

Такім чынам, працаваць ёсць над чым. Бо нават патэнцыйна паспяховыя п’есы для дзяцей у нас часта застаюцца на перыферыі ўвагі — і літаратуразнаўчай крытыкі, і тэатраў, і, што галоўнае, чытачоў.

Гутарыла
Марына ВЕСЯЛУХА

Фота аўтара

# Кавалерчык — прозвішча вядомае

Амаль кожны дзень Барыс Кавалерчык нетаропка прыходзіць у цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. Герцэна. Немітуслівы, разважлівы, сціплы, ён падоўгу сядзіць за сталом у чытальнай зале — гартае апошнія нумары газет і часопісаў. Раней, прызнаецца, ён сам шмат выпісваў розных перыядычных выданняў. Сёння ж — не той час… Ратуе бібліятэка. Дамоў жа паштальён дастаўляе яму тыднёвік “Літаратура і мастацтва” і часопіс “Вожык ”. Барыс Лазаравіч і сам друкуецца ў шмат якіх выданнях. Нават у маскоўскіх. Дакладней сказаць — друкаваўся… Сёння ж ён скардзіцца: “Усё менш і менш адпускаюць, на жаль, газеты і часопісы месца для гумару. Але дасылаю. Спадзяюся, што некалі будзе нададзена ўсё ж адпаведная ўвага мініяцюрам і афарызмам. Чаму яны цяпер менш цікавяць рэдакцыі, не зразумела… Ахвотнікаў да гумару хапае”.

Прозвішча Кавалерчык, пагадзіцеся, вядомае аматарам гумару. Я і сам раней ахвотна чытаў яго творы, сустракаючы іх на старонках перыядычных выданняў. Думаў, што жыве ён у Мінску, а калі высветлілася, што мы — гамяльчане, сустрэліся раз, другі, трэці… І так паступова нашы сустрэчы перайшлі ў сяброўскія адносіны.

Барыса Кавалерчыка справядліва называюць майстрам кароткай фразы. Уявіце толькі: ён надрукаваў больш трох тысяч афарызмаў!

Шмат месца зойме пералік тых выданняў, дзе друкаваўся Барыс Лазаравіч. Назаву толькі некаторыя: часопісы “Вожык”, “Крокодил”, “Беларусь”, “Наука и религия”, “Вокруг смеха”, газеты “Советская Белоруссия”, “Звязда”, “Рэспубліка”, “Труд”, “Аргументы и факты”, “Литературная газета”. Прадстаўлены яго творы таксама ў калектыўных зборніках “Магістраль”, “Жывое слова запішу...”, у кнізе “Смех и вода нужны нам всегда”, у трох апошніх альманахах “Літаратурная Гомельшчына”.

А тры гады таму Б. Кавалерчык выдаў свае афарызмы, мініяцюры і гумарэскі асобнай кніжкай – “Игра мыслей”. Кніга атрымалася чытэльная, вартая ўвагі. Творы на беларускай і рускай мовах.

Б. Кавалерчык нарадзіўся ў 1935 годзе. У гады Вялікай Айчыннай вайны з маці знаходзіўся ў эвакуацыі. Бацька загінуў на фронце. У 1952 годзе скончыў сярэднюю школу, паступіў у Гомельскі педінстытут ім. В. П. Чкалава, атрымаў спецыяльнасць выкладчыка хіміі і біялогіі. Пяць гадоў працаваў дырэктарам няпоўнай сярэдняй школы ў Маладзечанскім раёне, затым вярнуўся ў родны горад, дзе быў і дырэктарам шахматна-шашачнага клуба, і старшынёй прафсаюзнага камітэта трэста № 2 “Саюзгазпрамбуд”,



доўгі час працаваў у абласным аб’яднанні прафсаюзаў, быў намеснікам начальніка аддзела ў абласным упраўленні Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

…У гарадскім скверыку мы прыселі на лаўку. Барыс Лазаравіч на маё пытанне, ці былі якія кур’ёзы з яго прозвішчам, ахвотна адказвае: “А няўжо ж! Былі. Неяк у Брэсце пасялілі мяне ў нумары на дваіх. Прыходжу, распранаюся, а з-пад коўдры выглядвае жанчына і спалоханымі вачыма глядзіць на мяне… Гэта што, калі я Кавалерчык, дык мне і нявесту?!.. Разабраліся потым, што да чаго. У адміністрацыі гасцініцы палічылі, што Кавалерчык — жаночае прозвішча… Дзіўна, ці не так? Кавалерчык — жаночае?.. Пасмяяліся, і тое добра. Я наогул, калі працаваў, шмат ездзіў па камандзіроўках. Адпраўляючыся ва Унечу, што на Браншчыне, вёз заўсёды бохан хлеба — як прэзент… Не таму, што там свайго хлеба не было, не: проста наш, гомельскі, ім падабаўся больш. Ён — смачны, гомельскі хлеб...”

Але ў той дзень мы больш гаварылі пра пісьменніцкі хлеб.

Барыс Кавалерчык на развітанне падараваў мне некалькі новых сваіх афарызмаў. Я пастараўся іх запомніць, каб падзяліцца з вамі: у школе жыцця на паўторны курс не пакідаюць; наседжаныя месцы не толькі курам падабаюцца; месца пад сонцам хапае ўсім толькі на пляжы; пры духоўнай слепаце акуляры не дапамогуць; у жыцці, як і ў тэатры, не ва ўсіх галоўныя ролі…

Васіль ТКАЧОЎ



Калектыў музея народнай творчасці "Бездзежскі фартушок" Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці, які быў адкрыты адзінаццаць гадоў таму, у 1999 годзе, стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года за стварэнне унікальнай калекцыі аўтэнтычных узораў народнай творчасці, значны ўклад у захаванне і папулярызацыю мясцовых рамёстваў, абрадаў і дыялектаў.

# Бездзежскіх жанчын відаць здалёк



— Менавіта бездзежскія фартушкі адрозніваюцца ад іншых па сваёй выбеленасці, — распавяла дырэктар музея Марыя Астаповіч. — Ёсць прыгожае беларускае слова "выбеленасць". Вось вам і вытанчанасць вырабаў. Шылі ж іх з палатна, якое складалася з трохсот льняных нітачак, якія свабодна праходзілі праз пярсцёнак. Гэтыя фартушкі, можна сказаць, свецяцца. Але не з-за таго, што ім шмат гадоў, а з-за таго, што так тонка спрадзены ніткі. На жаль, сёння ніхто такое ўжо не зробіць, бо гэтае філіграннае майстэрства не захавалася, страчана.

Самаму старэйшаму фартушку — 130 гадоў. Ён даволі просценькі, але які вытанчаны! Можна ўбачыць нямала паўсядзённых фартушкоў. Звычайна іх гаспадыні завязвалі раніцай паверх спадніцы. Святочныя — значна прыгажэйшыя і карацейшыя.

— Вышыць выраб пры жаданні змогуць яшчэ многія нашыя жанчыны (адна з экспазіцый якраз і прысвечана сучаснай творчасці мясцовых майстрых), але выткаць менавіта такія фартушкі — ужо не, — зноў з горыччу ў голасе заўважае дырэктар музея. — Хаця я нарадзілася і жыву ў гэтых мясцінах, сама ўмею ткаць і ў вольны час з задавальненнем гэтым займаюся, усё роўна, падчас кожнай экскурсіі, сама здзіўляюся, як маглі непісьменныя жанчыны выткаць такія шэдэўры. Фартушок шылі з двух палавінак. Таму майстрысе трэба было дакладна вылічыць колькасць тканых радкоў, каб узоры супалі, не "разбегліся"! І заўсёды выраб завяршалі карункі — "крамныя" ці самаробныя.

У бездзежскім краі, які ўключае ў сябе не толькі Бездзеж (цяпер аграгарадок, дзе пражывае 1200 чалавек), але і іншыя навакольныя вёскі, у фартушках пераважаюць чорны і чырвоны колеры. Не таму, што не было іншых нітак. У народзе лічылі, што чорны і чырвоны засцерагаюць ад нячыстай сілы. На белым палатне яны вельмі прыгожа глядзяцца. А як чаргуюцца палоскі! Вось ідзе тканы каляровы радок, потым вышыўка, ды такім малюсенькім крыжыкам, што дзіву даешся, як яго наогул вылічвалі. Таму бездзежскіх жанчын можна было пазнаць здалёк. Ідучы на вяселле, проста ў госці, у царкву ці ў цэнтр вёскі, які тутэйшыя жыхары называлі "місто", кабеты абавязкова завязвалі фартушкі.

І такая традыцыя захоўвалася яшчэ тры дзесяцігоддзі таму. Пасля васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя гэтая мода знікла. Цяпер жа ўбачыць фартушкі можна толькі ва ўборах пажылых жанчын, калі яны падчас рэлігійных



святаў ідуць у царкву. І як прыгожа глядзяцца бабулі ў гэтым адзенні! Прынамсі, у кожнай дома, у куфры, фартушкі ўсё яшчэ захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне. І ніхто нават думкі не дапускае, каб выкінуць іх з хаты.

— Дарэчы, што вельмі цікава, у кожнай гаспадыні было больш дванаццаці фартушкоў — па колькасці найважнейшых рэлігійных святаў. На Каляды насілі адзін, на Стары Новы год — іншы і гэтак далей. Таму трэба было кожны аздабляць па-новаму, ствараць новыя ўзоры. Васількі, ружы, рамонкі — усё, што расце на тутэйшай зямлі, трапляла ў выглядзе вышыўкі на палатно.

Міжволі вока спыняецца на трох фартушках, якія вельмі адрозніваюцца вышыўкай ад сваіх "сабратоў". Чаму? Аказваецца, дзяўчына з іншай вёскі выйшла замуж у Бездзеж. Убачыўшы, што мясцовыя кабеты ходзяць штодзень у прыгожых фартушках, пачала сама іх ткаць і вышываць. Але выбрала свой шлях у майстэрстве: вось па палатне скачуць зайчыкі, ляцяць сняжынкі, а тут стаяць гарлачыкі з кветкамі. Свае, без перабольшання, шэдэўры жанчына падарыла музею.

Вясельны ўбор тутэйшай маладой таксама не абыходзіўся без фартушка, які дзяўчына сама сабе рыхтавала доўгімі зімовымі вечарамі. На яе галаве быў своеасаблівы вяночак, які называўся ў народзе "пава". Можа, адсюль і нарадзіўся выраз "Пайшла, як пава". Такі вяночак надзявалі ва ўсіх навакольных вёсках як Драгічынскага раёна, так і суседняга — Іванаўскага. Майстравалі паву з папяровых кветак, пераплятаючы барвінкам. Зімою нават адкопвалі расліну з-пад снегу.

У мінулыя часы з ільнянога палатна вяскоўцы шылі ўсё адзенне — кашулі, спадніцы, нагавіцы, паясы, якія таксама прадстаўлены ў музеі. Бездзеж мае шэраг асаблівасцей у назвах і спосабах нашэння, характары аздаблення традыцыйнага сялянскага адзення, што і падкрэслена ў экспазіцыі. Нельга не звярнуць увагу на дзіцячую кашулю, якую бабуля Марыі Міхаўлаўны сшыла яшчэ для яе маці — Ніны Міхайлаўны, калі той споўніўся годзік. Кашулі семдзесят гадоў, але і сёння яна выглядае вельмі хораша.

— Да адзінаццаці гадоў як дзяўчынкі, так і хлопчыкі, хадзілі ў такіх кашулях і, абавязкова, з павязанаю галавою, — тлумачыць Марыя Міхайлаўна. – Толькі пасля хлопчыкам шылі штаны. Было гэта яшчэ да Другой сусветнай вайны.

На ганаровым месцы ў экспазіцыі — ткацкі станок, на якім і ствараліся адмысловыя ўзоры. Ткуць у Бездзежы і навакольных вёсках і сёння, асабліва зімой, у піліпаўскі пост. З-пад рук майстрых выходзяць навалачкі, прасціны, пакрывалы-"вясёлкі", але, зразумела, не так масава, як раней. Да гэтага часу людзі ў тутэйшых вёсках спяць на дамаатканай бялізне, якая захоўвае цяпло рук майстрых. Тутэйшыя гаспадыні ўжо на практыцы праверылі, што іх ільняныя вырабы вельмі добра мыюцца ў сучасных машынах-аўтаматах.

Фонды музея народнай творчасці "Бездзежскі фартушок" налічваюць больш як тысячу экспанатаў. У сямі прасторных залах шырока прадстаўлены адметнасці побыту мясцовага насельніцтва, пачынаючы з XIX стагоддзя. Адсюль вынікаюць і назвы экспазіцый: "Падворак", "Ручнікі", "Сялянская хата"... Але сэрца ўсяго гэтага багацця — зала "Царства фартушка". Бо музей у вёсцы Бездзеж — адзіны ў свеце, у якім сабрана унікальная калекцыя фартушкоў, што налічвае больш як дзве сотні прадметаў. Пры тым двух аднолькавых няма.

— Але садзяцца за ткацкі станок звычайна жанчыны ва ўзросце больш сарака гадоў, — распавядае далей Марыя Астаповіч. — Маладзейшыя, на жаль, не спяшаюцца дакрануцца да самабытнага майстэрства. Можа, з часам і вернецца мода на гэты занятак, бо кожная майстрыха стараецца перадаць свае навыкі дзецям, унукам, калі ў тых ёсць жаданне сесці за станок і тварыць. Інакш гэтае рамяство і не пазначыш: паўтораў і перайманняў узораў у вырабах амаль не сустракаецца.

Многія пытаюцца, чаму не стварылі ў Драгічыне звычайны краязнаўчы музей. Калі пачалі збіраць экспанаты, убачылі, што ў бездзежскім краі маюцца шматлікія ўзоры вышыўкі і ткацтва. Само сабой узнікла пытанне: навошта ўсё везці ў райцэнтр? Можна ж стварыць музей на месцы. Амаль закінуты будынак былой школы адрамантавалі і адкрылі музей. Як жа нарадзілася яго назва? – часта цікавяцца наведвальнікі. Адказ просты: спачатку была сабрана ўнушальная калекцыя фартушкоў. Вось адсюль і назва. На мой погляд, вельмі ўдалая. І гучыць як сапраўдны брэнд.

Марыя Астаповіч — ужо трэці дырэктар музея (з 2008 года). Першым была Галіна Абрамовіч, другім — Лідзія Шыльпук. Нельга не ўспомніць гэтых кіраўнікоў, бо яны таксама прыклалі шмат намаганняў для таго, каб музей "загучаў" і займеў высокі ўзровень.

Музей аказвае і платныя паслугі. Сёлета пачалі праводзіць урачысты роспіс маладых у зале "Сучаснае ткацтва і вышыўка". Тут жа, па папярэдняй дамоўленасці з турыстычнымі групамі, часта выступаюць удзельнікі мясцовага ансамбля народнай песні і музыкі "Сваякі" і народны фальклорны калектыў "Купалінка". Госці могуць, пры жаданні, пачаставацца традыцыйнымі стравамі мясцовай кухні: хлебам з печы, салам, макухай. Дарэчы, мала хто ведае, што гэта за ежа. Макуха, як высветлілася, — падсушанае, здробненае і падсоленае льняное семя, у якое прынята было макаць хлеб, бульбу, агуркі — потым доўга не хацелася есці. Яшчэ гэта вельмі смачная прыправа да таго ж сала.

У супрацоўнікаў музея шмат цікавых задумак на бліжэйшую будучыню. Напрыклад, прэзідэнцкую прэмію вырашылі адразу пусціць у справу: побач з музеем купілі хату з гаспадарчымі пабудовамі і ўжо ствараюць сялянскі падворак у старадаўнім стылі. Палову зойме кухня з печчу, у якой будзе гатавацца ежа для турыстаў, а ў другой частцы размесціцца гасцінічны нумар з камінам і ўсімі выгодамі. Саму хату вырашылі накрыць чаротам, як гэта прынята было калісьці. Вырасце штат супрацоўнікаў музея — з трох да пяці, бо на "Сялянскім падворку" з'явяцца Гаспадар з Гаспадыняй. Іх задача — весці ўсе хатнія справы і ствараць камфортныя ўмовы для гасцей, якія едуць сюды як з многіх куткоў Беларусі, так і з Расіі, Польшчы, Галандыі...

Раіса МАРЧУК





На здымках: дырэктар "Бездзежскага фартушка" Марыя Астаповіч каля ткацкага станка; экскурсію вядзе навуковы супрацоўнік музея Галіна Філіповіч; каскад фартушкоў; вясельныя ўборы маладых; такія ручнікі можна ўбачыць амаль у кожнай тутэйшай хаце.

Фота аўтара

№ 29 23 ліпеня 2010 г. ЛіМ

## Два погляды

Тэкст Сяргея Грышкевіча прыйшоў на электронную пошту рэдакцыі і не выклікаў асаблівага захаплення ў супрацоўнікаў "ЛіМа". Толькі ўмоўна яго можна лічыць артыкулам пра стан сучаснай крытыкі, хутчэй жа гэта — адкрыты ліст, у адказ на які згаданыя ў тэксце асобы могуць адгукнуцца не менш рэзкімі допісамі. З іншага боку, магчыма, мэта Сяргея Грышкевіча — правакаваць літаратараў на няспынныя дыскусіі аб тым, якой павінна быць сучасная крытыка, каб даць магчымасць паразважаць на гэтую тэму тым, хто яшчэ не паспеў выказацца. На гэты раз Сяргею Грышкевічу адказвае Алеся Лапіцкая, разглядаючы такую лагічную памылку сучасных крытыкаў, як злоўжыванне аргументацыяй ad hominem.

# Жаночая крытыка

Людзі любяць крытыкаваць іншых. Асабліва жанчыны. Ім чамусьці здаецца, што яны маюць эксклюзіўнае права на гэты занятак, у якім нібыта дасканала разбіраюцца і ведаюць, у чым сапраўдная існіна быцця. Таму сёння ў айчыннай літаратурнай крытыцы так шмат спецыялістаў у спадніцах і сукенках, гатовых з выглядам заўзятых прафі павучаць, даваць парады, выпісваць рэцэпты, ставіць дыягназы...

Глядзіш, бывае, на мілыя, прыгожыя тварыкі дзяўчат-крытыкаў, што пазіраюць з партрэцікаў, зробленых падчас чарговай фотасесіі, і няўцямна пытаешся ў самога сябе: няўжо гэтыя гламурныя лэдзі насамрэч разбіраюцца ў літаратуры? Ім бы адзенне рэкламаваць якое на подыумах ці парфуму (у мадэльнай сферы задзейнічаная, напрыклад, Маргарыта Аляшкевіч), а не над кніжкамі сядзець, вышукваючы аўтарскія агрэхі. Разумею, нада-кучыла. Хочацца нарэшце даказаць мужчынам, што і жанчыны маюць інтэлектуальныя здольнасці. Безумоўна, маюць. Як, дарэчы, і амбіцыі, не падмацаваныя нічым канкрэтным, акрамя бульварна-шчабятлівай балбатні на розныя тэмы.

У гэтым плане вялікую дапамогу тым, каго распірае, нібы жабу-рапуху, аказвае інтэрнэт-прастора, дзе на шматлікіх форумах і ў прыватных блогах перамываюцца косці калегам па творчасці, прычым у своеасаблівай манеры. Па-мойму, калі не можаш сказаць чалавеку адкрыта ў вочы ўсё, што пра яго думаеш, хавацца за абразамі ў віртуальным свеце непрымальна і агідна. Нават з мілым, прыгожым тварыкам... Хаця, будзьма шчырымі, і некаторыя мужчыны-пісьменнікі не вылучаюцца ў інтэрнэтзносінах прыстойнасцю і культурай мовы.

Апошнім часам стала надзвычай модна папракаць сяготага з крытыкаў у вульгарызатарстве, безапеляцыйна заліцваючы ў ідэйныя паслядоўнікі такіх вядомых майстроў гэтай справы, як Кучар і Бэндэ. Калі сам у чымсьці не разбіраешся, інтуітыўна імкнешся перакласці ўласную некампетэнтнасць на іншага, абвінавацiўшы яго ў чым заўгодна: маўляў, няхай даказвае, што не вінаваты. Крыўдаваць на тых, хто не даганяе, не разумее відавочных рэчаў, непрадуктыўна.

Так, Лада Алейнік лічыць празаіка Андрэя Федарэнку жывым класікам і нацгенiем і разам з Ірынай Шаўляковай у эмацыйным экстазе ўзносіць бытапісальніка-хранікёра Уладзіміра Сцяпана. Ала Брадзіхіна захапляецца філасофскімі азарэннямі прозы Алеся Паплаўскага з агіднымі эгаістычнымі персанажамі-вычварэнцамі, народжанымі крыўдамі і комплексамі аўтарскага Я. Марыйка Мартысевіч, захлёбваючыся метафарамі, абараняе гонар неспасцігальнай дзявочай паэзіі, створанай Ярынай Дашынай. Ася Паплаўская марыць перакрыць кісларод у друку "вульгарнаму, разбэшчанаму дзіцёнку і крытыкану" Сяргею Грышкевічу, дзякуючы якому "брыдка трымаць у руках "ЛіМ" з ягонымі пісулькамі". Пералік крытыкаў жаночага полу, якія ўхваляюць і прапагандуюць літаратурную прадукцыю сумніўнай якасці, можна доўжыць і далей, але, думаю, і гэтага піяру ім дастаткова.

Значна больш цікава іншае: як гламурныя крытыкі рэагуюць на крытычныя ацэнкі іх рэцэнзійных высілкаў. Калі, скажам, "правінцыйны няўдачнік" (па вызначэнні "сучаснага ўвасаблення Мапасана і Чэхава" Андрэя Федарэнкі) Сяргей Грышкевіч у бескампрамісна-катэгарычнай форме заклікае творцаў да большай стараннасці і не прымае халтуры і дылетанцтва, ён ніхто іншы, як звычайны... вульгарызатар, які беспакарана абражае несумленных мэтраў, выконвае загады "адтуль, невядома адкуль" і мае яўныя паталагічныя адхіленні ў псіхіцы.

Не ўмеюць, на жаль, у айчынным літбамондзе паважліва ставіцца да іншай думкі. Абавязкова прышпіляць ярлык контрыка, залічаць у ідэйнага шкодніка-сабатажніка і ададудзь анафеме. Прыкра, што ў гэтай справе найбольш імпэтнымі аказваюцца якраз прадстаўніцы прыгожай паловы. Мужчыны мудра не ўмешваюцца: базарныя законы невынішчальныя. Аб прафесіяналізме сведчыць не глянцавае пустазвонства, а здольнасць да напісання грунтоўных артыкулаў з пераканаўчай фактурай.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ
E-mail:sgrish@mail.ru

# Ad hominem

Галоўным чынам, артыкул "Жаночая крытыка" ёсць сведчаннем і вынікам злоўжывання аргументацыяй ad hominem. Пад гэтым відам аргументацыі разумеюць напакі на асобу апанента замест аспрэчвання яго тэзісаў. Так, доказам прафесійнай некампетэнтнасці літаратурнага крытыка з'яўляюцца альбо яго канкрэтныя памылкі, альбо вялікая колькасць незаўважанага. Таму, каб упэўніць чытачоў у некампетэнтнасці калег, варта паказаць, што вось гэты крытык разглядаў вось гэты вобраз як гіпербалізаваны, хаця мела справу з відавочным гратэскам. Альбо што вунь той крытык палічыла кампазіцыю вунь таго твора няўдалай, хаця насамрэч усё было вельмі ладна і дзякуючы менавіта такой кампазіцыі аўтар дасягнуў выключнага эфекту... Сяргей Грышкевіч, на жаль, не прыводзіць такіх прыкладаў, а засяроджваецца на вельмі суб'ектыўных абвінавачваннях.

Так, аб няздольнасці разабрацца ў літаратуры чамусьці сведчыць прывабнасць і дагледжанасць (няўжо Байран, Пушкін ды Уэлс, якія вельмі клапаціліся аб сваёй знешнасці, не былі прафесіяналамі?), а жанчына нібыта а прыёры не можа быць добрым крытыкам, бо літаратура — справа мужчынская (на концы калісьці таксама працавалі толькі мужчыны — але хіба з гэтага вынікае, што сучасная жанчына не здатная нармалёва кіраваць трамваем?).

Прычэпкі да асобы апанента (альбо аўтара-ахвяры, які крытыкуецца) могуць паспрыяць негатыўнаму стаўленню да яго з боку аўдыторыі, але вельмі рэдка будуць каронным доказам на карысць тэзіса, які адстойваецца. Затое прычэпкамі і нядобразычлівасцю вельмі проста пакрыўдзіць — пра што красамоўна сведчыць пералік непрыхільных мянушак і азначэнняў, якімі надзяліілі Сяргея Грышкевіча іншыя літаратары. Разам з тым, "бескампрамісна-катэгарычная" манера гэтага аўтара шматкроць правакавала крытыкаў на адказ і пэўную асабістую рэакцыю, бо ў артыкулах Сяргея Грышкевіча не так шмат літаратурнага аналізу твораў.

Замест таго, каб вызначаць асаблівасці творчага метаду пісьменнікаў, разглядаць уласцівыя пэўнаму аўтару сродкі мастацкай выразнасці, выяўляць адметнасць праблем і герояў, Сяргей Грышкевіч засяроджваецца на чымсьці кшталту псіхалогіі творчасці: імкнецца выявіць тыя комплексы і неўсвядомленыя патрэбы пісьменнікаў, якія абумовілі пэўныя выказванні і ўвогуле жаданне займацца літаратурай. Да таго ж, крытык спрабуе, зыходзячы з поглядаў і характараў герояў, зрабіць пэўныя высновы пра лад жыцця і асабістыя якасці аўтараў. Больш па-сучаснаму было б разглядаць тэкст максімальна адмежавана ад асобы яго стваральніка — прынамсі, як сацыякультурную з'яву, калі ўжо аналіз выключна мастацкага боку падаецца не надта цікавым.



Малюнак Алесі Ісы

"Аб прафесіяналізме сведчыць не глянцавае пустазвонства, а здольнасць да напісання грунтоўных артыкулаў з пераканаўчай фактурай," — пасля гэтай дасціпнай высновы хочацца запляскаць у далоні і крыкнуць Сяргею Грышкевічу: "Брава!". Дзіўна толькі, што, скончыўшы артыкул, аўтар чамусьці не перачытаў яго ад пачатку і не перапрацаваў як мае быць. Бо грунтоўнасць і пераканаўчасць гэтага тэксту насамрэч вельмі адносныя, а абвінавачванне ў "бульварна-шчабятлівай балбатні" ў прынцыпе засталося бяздоказным. Шмат хто з крытыкаў ужо адгукаўся на артыкулы гэтага аўтара — што, як бачым, не засталося беспакараным. У нашым жа выпадку хацелася б разгледзець вышэйзмешчаны тэкст галоўным чынам як сімптаматычную з'яву, што выяўляе цэлы шэраг праблем беларускага літаратурнага асяроддзя.

Прычым, калі Сяргей Грышкевіч абвінавачвае Марыйку Мартысевіч і Ладу Алейнік у захапленні нявартымі таго аўтарамі — то бок, у безгрунтоўнасці (адзіны на ўвесь артыкул больш-менш літаратуразнаўчы аргумент на карысць непрафесійнасці жаночай крытыкі), то сам Грышкевіч увогуле мала да каго з разгледжаных пісьменніц ставіцца прыхільна. Таму й з'яўляецца ўражанне, што Сяргей Грышкевіч лічыць абавязкам крытыка адно абурацца, злавацца, выкрываць, выводзіць на чыстую ваду і выносіць прысуды, таму й згадваюцца некаторым чытачам яго артыкулаў Кучар і Бэндэ з 30-х гадоў мінулага стагоддзя — перыяду, які ў сучасных літаратараў любога ўзросту выклікае інстынктыўны страх. Сапраўды, мець магчымасць вольна выказвацца, а пасля з-за сваіх меркаванняў апынуцца ў лагеры — жудасна і нечакана.

Асацыяцыі з даносамі, расстрэламі, газэнвагенамі выклікаў і артыкул Людмілы Сіньковай "Старая маргінальная беларушчына..." — праўда, пакараннем за непатрыятызм аўтарка прызначыла б хутчэй не ссылку ў Сібір, а ўдзел у рэстаўрацыйных работах дзе-небудзь у Ружанах. І першымі выпраўленымі туды былі б дакладна не беларускамоўныя пісьменнікі... На артыкул Людмілы Сіньковай адгукнуўся ў "ARCHE" № 10, 2009 Аляксей Братачкін і слушна звярнуў увагу на ўзаемасувязь між стаўленнем да беларушчыны і зваротам сучасных аўтараў да "суб'ектыўнасці". Праўда, і гэты крытык не абышоўся без аргументацыі ad hominem, неадночы інкрымінаваўшы Людміле Сіньковай яе "акадэмічны статус", з-за якога яна нібыта імкнецца рабіць "экспертную ацэнку", а яе артыкул "можа разглядацца і ў якасці праявы пэўнай культурнай палітыкі". Але хіба прафесар з-за сваёй пасады ўжо не мае права аналізаваць дыскурс "беларушчыны" ў сучаснай літаратуры? Праўда, Людміла Сінькова ўспрымае дэсакралізацыю беларушчыны надта трагедыйна: дэсакралізацыя робіцца неабходнай, калі на сакральных ідэях пачынаюць спекуляваць, калі пераасэнсаванне сакральнага знаходзіцца пад жорсткім табу. Такую сітуацыю мы й маем сёння з беларушчынай, але пасля "Праклятых гасцей сталіцы" Альгерда Бахарэвіча пісьменнікам значна прасцей пісаць пра нацыяналістычнае фарысейства і неабходнасць перагляду звыклых ідэй ды заклікаў...

Натуральна, роздумы пра сакральнасць варта пакінуць для іншага артыкула, але, спыняючыся, можна заўважыць: дыскусія, распачатая Людмілай Сіньковай, такі атрымалася канструктыўнай, бо яе ўдзельнікі (у "Жывым дзённіку" ў тым ліку) збольшага выказаліся па ўзнятай праблеме, а не распачыналі абстрактныя разважанні пра тое, якой павінна быць крытыка. Тым часам, абарончая прамова Марыйкі Мартысевіч (адказ на артыкул Сяргея Грышкевіча "Паэтычная Камасутра...") толькі на 25 працэнтаў тычыцца паэзіі Ярыны Дашынай, у астатнім гэта — "крытыка крытыкі", як было заўважана ў прадмове рэдакцыі да "Літаратурна-судовага працэса". У самой прадмове, дарэчы, таксама няма ані слова пра творчасць паэткі.

У адказе ж Лады Алейнік на артыкул Сяргея Грышкевіча па творчасці Андрэя Федарэнкі абмяркоўваецца адно аўтарскае вызначэнне жанру, а дзве траціны тэксту прысвечаныя супастаўленню Грышкевіча з Самсонам Самасуем. Адсюль вынік: калі чапляешся да асобы аўтара, то і апаненты не прамінуць зачапіць цябе. А калі спадзяешся на "паважлівае стаўленне" да сваёй думкі, то лепш і пра іншых пісаць ветліва і карэктна. Тым больш, што выкрыццё праблем і недахопаў пісьменнікаў наўрад ці дапаможа ім стаць лепшымі людзьмі, дый не гэта павінна быць мэтай крытыка. Задача крытыка перад творцам — не пасадзіць яго ў лужыну, а дапамагчы ўдасканаліць свае творы. Прычым, чым рэальней парады крытыка, тым больш адэкватна ўспрыме іх аўтар. А такіх вось слушных парад у артыкулах Сяргея Грышкевіча мала.

І апошняе: гартаючы палемічныя артыкулы, здзіўляешся таму, як шмат у іх злапомнасці, з'едлівасці. Здаецца, што літаратары надта часта забываюцца на тое, дзеля чаго яны ўвогуле працуюць. Навошта выдаюцца часопісы, навошта сядзяць над творамі рэдактары, крытыкі і, у першую чаргу, самі пісьменнікі? Сэнс дыскусій, водгукаў ды рэцэнзій, сэнс існавання літаратурнай прасторы ў тым, каб паспрыяць развіццю талентаў, паспрыяць з'яўленню і плённай працы аўтараў, што маглі б годна рэпрэзентаваць беларускую літаратуру як у сучасным свеце, так і ў часавым кантэксце. І ў гэтай справе мы ўсе не апаненты, а калегі...

Алеся ЛАПІЦКАЯ
E-mail:lecsa87@gmail.com

# Залацінкі сярод слоўнай руды



Адкрываецца шосты нумар часопіса драмай Георгія Марчука “Пеўчыя 41 года”. Наогул, драматургія — даволі рэдкая госця на старонках нашых літаратурных перыядычных выданняў. Але, трэба аддаць належнае, “Полымя” імкнецца час ад часу прапаноўваць увазе чытача даволі сур’ёзныя ў прафесійным плане ўзоры аднаго з самых найскладанейшых родаў літаратуры. І чарговым пацвярджэннем гэтаму — дадзены твор.

Нягледзячы на некаторыя недахопы (дзе-нідзе залішняя пафаснасць дыялогаў, схематычнасць характараў), п’еса, несумненна, заслугоўвае чытацкай увагі і, спадзяёмся, далейшага сцэнічнага ўвасаблення. Аўтар распавядае пра падзеі пачатку акупацыі на Беларусі. Паводле законаў жанру, на першым месцы тут — менавіта чалавечыя лёсы, зламаныя і ператрушчаныя фашысцкай навалай. Унутраны канфлікт паміж духоўным пакліканнем і чалавечым, у дадзеным выпадку бацькоўскім і грамадзянскім абавязкам выразна прасочваецца на прыкладзе цэнтральнай дзейнай асобы — айца Вікенція, які стварае ў сваім царкоўным прыходзе хор з ліку ваеннапалонных. Твор прымушае задумацца ў першую чаргу аб немажлівасці адназначнай трактоўкі падзей тых гадоў і, крый Божа, катэгарычнага асуджэння ці апраўдання кагокольвек.

Празаічную частку часопіса адкрывае раман Алеся Рыбака “На раздарожжы”. У гэтым нумары “Полымя” друкуе пачатак твора. З першых старонак твор вызначаецца аўтабіяграфічнасцю, зрэшты, у гэтым і палягае яго каштоўнасць. Чытач мае магчымасць апынуцца ў атмасферы пасляваеннага Мінска, паказана ў рамане і жыццё тагачаснай вёскі. Адна з галоўных тэм, якую, аўтар, безумоўна, не мог абмінуць і якая застаецца актуальнай у любыя часы — супрацьстаянне сістэмы і асобы. Завязка ёсць, пачатак, безумоўна, здольны абудзіць законны чытацкі інтарэс: а што будзе далей? Чакацьмем.

Лірычная частка прадстаўлена ў нумары паэтычнымі падборкамі Валянціна Лукшы, Алега Салтука і Ніны Маеўскай. Яднае аўтараў не толькі прыналежнасць да аднаго літпакалення, але і агульная скіраванасць да традыцыю. З усіх трох падборак найбольш цэльнай і скампанаванай падаецца падборка Ніны Маеўскай, вершам якой уласцівы элегічны, роздумны настрой, але не стае яркіх мастацкіх знаходак і вобразаў. Наадварот, падборкі Валянціна Лукшы і Алега Салтука, нягледзячы на відавочную разбэрсанасць і неўпарадкаванасць, вызначаюцца пэўнымі паэтычнымі ўздымамі, дзе-нідзе сярод слоўнай руды прабліскваюць залацінкі (як прыклад можна прывесці неблагія вершы Алега Салтука “У вянок Аляксею Пысіну” і “Самаіранічнае”). Але ўсё-ткі мусім канстатаваць: паэзія ў гэтым нумары “Полымя”, на жаль, не ходзіць у фаварытках.

Багаты нумар на пераклады — тут змешчаны працяг рамана Сяргея Пясецкага “Пяты этап”, вершы класікаў рускай паэзіі ў перакладах Васіля Зуёнка і апавяданне Анатоля Андрэева “У кожнага свая вайна” ў перакладзе Міхася Кенькі. Калі дзве першыя рэчы не выклікаюць нараканняў, то трэцяя рэч, прашу прабачэння за каламбур, тут зусім не дарэчы. Апавяданне не цягне на сваё жанравае азначэнне, гэта хутчэй замалёўка, дыялог з жыцця, пазбаўлены адметнага зместу, з неапраўданай назвай. Зрэшты, мяркую, чытач сам ува ўсім разбярэцца.

Крытыка-публіцыстычны блок нумара даволі моцны. Алена Карп у сваім артыкуле “Тэма Радзімы ў паэзіі В. Стрыжака і А. Сыса” грунтоўна разглядае творчасць двух выбітных айчынных паэтаў, робіць яскравы паралельны аналіз, знаходзіць агульныя і адрозныя рысы. Нягледзячы на бясспрэчна навуковы характар, праца чытаецца з цікавасцю, бачна, што аўтарка шмат працавала з матэрыялам.

Пад рубрыкай “Постаці” змешчана гутарка з мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча Міхасём Дрынеўскім. Матэрыял падрыхтаваны Зіновіем Прыгодзічам, аздоблены фотаздымкамі і ўспрымаецца з цікавасцю, чым абавязаны, канечне ж, і асобе рэспандэнта.

Матэрыял з “круглага стала” Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прысвечаны Грунвальдскай Бітве 1410 года, 600-годдзе якой адзначаецца сёлета 15 ліпеня. У гутарцы ўдзельнічаюць вядомыя навукоўцы, гісторыкі Вячаслаў Даніловіч, Міхаіл Касцюк, Юрый Бохан, Георгій Галенчанка.

Завяршаюць чэрвеньскі нумар лірычны нарыс-успамін Казіміра Камейшы “Душа прасілася ў Мікольцы” (пра пісьменніка Адольфа Варановіча), рэцэнзія Веры Зарэцкай на кнігу выбранага Міхася Рудкоўскага, Міколы Пракаповіча і Алеся Каско “Трохперсце”, а таксама традыцыйны “Каляндар памятных дат”.



Знакаміты раман Андрэя Федарэнкі “Рэвізія” ў гэтым нумары “Нёмана” загучаў па-руску. Пераклад здзейснілі сам аўтар і Аляксей Чарота. Твор неадназначна быў успрыняты яшчэ пасля першай публікацыі, таму, відаць, і саспела неабходнасць сёе-тое патлумачыць чытачу, што рэдкалегія і зрабіла, змясціўшы паперадзе твора кароткае інтэрв’ю з аўтарам. Што ж, Андрэй Федарэнка даўно ўжо даказаў urbi et orbi, што яго творы чытаць варта. Чытачы “Нёмана” маюць магчымасць ізноў апынуцца на скрыжаванні дзвюх розных эпох, стаць сведкамі незвычайных падзей з удзелам незвычайных людзей, некаторыя з якіх пазнавальныя і маюць рэальных гістарычных прататыпаў. “Нёман” друкуе пачатак рамана.

Услед за “Полымем” і “Нёман” (альбо наадварот) змясціў на сваіх старонках паэтычную падборку Алега Салтука ў перакладзе Генадзя Аўласенкі, а творчасць Ніны Маеўскай тут прадстаўлена апавяданнямі. У адрозненне ад палымянскай публікацыі вершы Алега Салтука больш камерныя, з прэтэнзіяй на хрэстаматыйнасць. Апавяданні ж Ніны Маеўскай, аб’яднаныя агульнай назвай “Намалюй мне вецер” прысвечаны адвечнай тэме ўзаемін мужчыны і жанчыны і вызначаюцца арыгінальным падыходам да адлюстравання псіхалогіі прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва.

Адметнай формай, а таксама сакавітай, трапнай гутарковай мовай вызначаецца апавяданне Навума Цыпіса “Ішоў трамвай дзевяты нумар…”.

Нізка кароткіх апавяданняў Вольгі Пераверзевай пад агульнай назвай “Семнаццаць непражытых гадоў”, нягледзячы на неблагі стыль, пакідае ўражанне штучнасці і незавершанасці некаторых аповедаў.

Апавяданне Алеся Бадака “Па той бок адлюстравання”, надрукаванае ў перакладзе Андрэя Цяўлоўскага, нагадвае кароткую занатоўку, запіс сямейнага падання. Сярод бясспрэчных вартасцей гэтага твора — вобразная мова, чытэльнасць, займальны сюжэт.

Паэзія на старонках гэтага нумара “Нёмана” прадстаўлена вершаванымі падборкамі Людмілы Шадукаевай, Паўла Сіманава, Елізаветы Полеес, а таксама дэбютнай публікацыяй студэнткі Вольгі Злотнікавай. На жаль, ніводзін твор з гэтых падборак не можа прэтэндаваць на званне высокай паэзіі. А некаторыя радкі з нізак, такія як “Мужики уходят по утрам, /Как большие раненые птицы” (Павел Сіманаў), або “Я сижу на асфальте голая” (Вольга Злотнікава) маюць усе шанцы выклікаць паблажлівую ўсмешку на вуснах чытача.

Раздзел “Сусветная літаратура ў “Нёмане” прадстаўлены апавяданнямі малавядомага англійскага пісьменніка Джуліяна Джозефа Макларэна-Роса і яго знакамітага суайчынніка Олдаса Хакслі ў перакладзе Зінаіды Краснеўскай. Як піша ў прадмове да публікацыі сама перакладчыца, “у літаратуры і мастацтве зусім побач вялікае, вядомае сучаснае з не менш вартым невядомым”. І пасля прачытання апавяданняў хочацца падпісацца пад гэтымі словамі.

Творы літоўскіх паэтаў XX стагоддзя Алексіса Хургінаса, Уладаса Мазурунаса, Стасе Вітайтэ, Леанардаса Матузявічуса, Алаізаса Бронаса, Эдуардаса Межэлайціса змешчаны ў перакладзе Алены Свечнікавай.

Пад рубрыкай “Дакументы. Нататкі. Успаміны” друкуюцца мемуарныя запісы сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча “За вас зямлі я памалюся”, прысвечаныя роднаму брату Юрку, які загінуў на фронце.

Рубрыка “Асоба” прэзентуе матэрыялы Аляксандра Зіноўева “След у навуцы, след у лёсах і памяці” — пра вядомага навукоўца, цеплафізіка, акадэміка АН БССР Аляксея Лыкава, а таксама артыкул Маі Гарэцкай пра народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва.

Не абмінуў “Нёман” сваёй увагай і 600-годдзе Грунвальдскай бітвы — чытайце матэрыял з “круглага стала”, што праходзіў у Інстытуце гісторыі з нагоды памятнай даты.

Да 65-годдзя перамогі часопіс змяшчае матэрыял Юрыя Фатнева і Алены Агінай “Жывое неба” — пра лётчыка, Героя Савецкага Саюза Рыгора Дзенісенку, а таксама нарыс Ніны Чайкі пра генерал-маёра чыгуначных войск Анатоля Сцепука.

Напрыканцы нумара — кароткі водгук Зінаіды Краснеўскай на нядаўна выдадзены ў выдавецтве “Літаратура і Мастацтва” пераклад паэмы Халіля Джэбрана “Прарок” і ліст з рэдакцыйнай пошты, у якім Іван Пехцераў узгадвае пра ўраджэнца Клімавічаў, кампазітара, дырыжора Мікалая Клауса.



Нягледзячы на аўтарскае азначэнне “Накіды з жыцця”, празаічныя мініяцюры Арцёма Арашонка пад назвай “Яны не чыталі Булгакава”, ну ніяк не ўпісваюцца ў рэаліі сённяшняга дня. Надзвычайнае папуры з плыні свядомасці, добра прыпраўленае віртуальнымі вандроўкамі па розных краінах і культурах, згадкамі пра Джымі Хендрыкса, Майкла Джэксана, Аляксандра Рыбака і розных іншых асоб можа пераканаць чытача ў арыгінальнасці аўтарскага светабачання. Да сур’ёзнай прозы тут яшчэ далёка. Улічваючы, што спадар Арашонак — знаны ў літаратурным асяродку перакладчык, можна толькі пажадаць маладосцеўскаму дэбютанту не спыніцца на дасягнутым і ўдасканальваць свой літаратурны талент, найперш — перакладчыцкі.

Празаічную частку чэрвеньскага нумара “Маладосці” працягвае аповесць Уладзіміра Цішурова “Светлая”. Твор хутчэй нагадвае навелу, якую аўтар “абцяжарыў” падарожнымі нататкамі, апісаннямі мясцовасцей, людскога побыту, якія, у выніку, і занялі ладную частку тэксту.

Апавяданне Алеся Каско “Прывідная камандзіроўка” і аповесць Васіля Ткачова “Мішэнь”, у адрозненне ад двух папярэдніх твораў, выклікаюць станоўчыя ўражанні. Алесь Каско здолеў са звычайнай падарожнай замалёўкі высноваць глыбокі экзістэнцыйны сэнс, да таго ж сам стыль апавядання, надзвычай вобразны і паэтычны, спрыяе яго больш поўнаму ўспрыманню. Нягледзячы на вонкавую прастасць, апавяданне выклікае шмат думак і пачуццяў. Галоўны герой (лічы, сам аўтар), апынуўшыся на зломе мінулага і сённяшняга, мусіць даць справядлівую ацэнку сваім ранейшым учынкам і падысці да той мяжы, дзе губляецца сувязь з рэальнасцю… Але гэта твор не містычны, уся ягоная “прывідная” тэматыка — не больш як метафара, сродак для адлюстравання рэчаіснасці.

Васіль Ткачоў у аповесці “Мішэнь” узнімае вострую сацыяльную тэму дзяцей з нялепшых сем’яў. На прыкладзе галоўнага героя — надзвычай чулага і датклівага хлопчыка Арцёмкі, пісьменнік паказвае, як жыццё жорстка руйнуе і скалечвае наіўныя дзіцячыя мары і памкненні. Маці і айчым хлопчыка, каб займець сабе сродкі на пітво, прымушаюць яго жабраваць у падземным пераходзе. Арцёмка на заробленыя грошы купляе білет на аўтобус у вёску да дзядулі і бабулі, але перад самым ад’ездам даведваецца ад знаёмых з вёскі, што адзіныя родныя людзі, якія маглі б яшчэ яго чакаць, ляжаць на кладах. Агорнуты адчаем, ён блукае па ваколіцах з новым сябруком — сабачкам Дружком. Назва твора набывае свой сэнс, калі хлопчык знаходзіць кінуты падчас уцёкаў рабаўнікамі пісталет…

Паэзія ў гэтым нумары “Маладосці” прадстаўлена не менш размаіта, чым проза. Упершыню ў часопісе выступае Юрась Шамецька з вершаванай падборкай, якая сведчыць пра імкненне аўтара пашырыць геаграфію сваіх твораў, назвы якіх надзвычай красамоўныя: “Ныраючы глыбей у возера Антарыо”, “Парыж “ і інш. Некаторыя радкі здзіўляюць сваімі параўнаннямі, кшталту: “Газета — гэта вельмі стары інтэрнэт”. Тым не менш, улічваючы сталы ўзрост дэбютанта, такія выказванні падаюцца цалкам абгрунтаванымі. Цікавым падаўся і маладосцеўскі паэтычны дэбют віцебскай студэнткі Таццяны Дубоўскай. Адзначым арыгінальнасць стылю маладой паэткі, але над зместам, трэба яшчэ, відаць, папрацаваць, бо побач з арыгінальнымі высновамі, такімі як “чалавек бяжыць наўздагон самому сабе”, суседнічаюць і зацяганыя, часта ўжывальныя максімы: “чалавечым лёсам кіруе Бог”.

Нізка вершаў Міколы Кандратава пад агульнай назвай “Кроплі дажджу” выглядала б няблага на фоне папярэдніх падборак, калі б не была сапсаваная двума вершамі-прысвячэннямі, якім, калі казаць шчыра, месца ў прыватных хатніх альбомах. Адзін з вершаў, дарэчы, так і называецца — “У залаты альбом”. Ды хоць у драўляны іх запхні, абы паэзія была…

Алег Кацапаў выносіць на суд аматараў паэзіі нізку верлібраў “Час чытання Басё”. Вялікі японскі паэт і тэарэтык верша, несумненна, ухваліў бы некалькі радкоў з падборкі, прынамсі, наступныя радкі наўрад ці з’явіліся на свет пасродкам перайманія, такое магло выліца толькі наўпрост з душы:

Я ўсё пранёс праз сэрца:
і дабро, і зло,
але ні добрым, ні злым
не стаў.

Вершы Ізяслава Катлярова ў перакладзе Соф’і Шах маюць выразны філасофскі пачатак і ў спалучэнні з прыстойным аўтарскім стылем пакідаюць добрае ўражанне.

Працягвае “Маладосць” і публікацыю на сваіх старонках твора Яна Длугаша “Грунвальдская бітва” ў перакладзе Аляксандра Вашчанкі, распачатую яшчэ на пачатку года.

Вера Ляшук публікуе свае ўспаміны пра Уладзіміра Калесніка — фактаграфічны і ў той жа час вельмі асабісты матэрыял, дзе вядомы навуковец паўстае перад намі ў сваім прывабным чалавечым абліччы.

Максім Клімковіч прадстаўляе ўвазе чытача ўспаміны дачок пісьменнікаў Міхася Клімковіча і Кузьмы Чорнага. Чытач даведаецца пра тое, як складваўся лёс сем’яў літаратараў падчас Другой сусветнай вайны.

Матэрыял Ірыны Клімковіч пад назвай “Магістры сваёй справы” прысвечаны гісторыі і дзейнасці Мінскага прафесійна-тэхнічнага каледжа лёгкай прамысловасці. Дар’я Гуштын разважае пра асаблівасці і перспектывы беларускага турызму. Асобе вядомага публіцыста, падарожніка, філамата, удзельніка вызваленчага руху Адама Сузіна прысвечаны гістарычны нарыс Алеся Марціновіча.

На апошніх старонках нумара друкуецца чарговы выпуск краязнаўчага даведніка Дзмітрыя Крывашэя і Адама Мальдзіса “Літаратурныя мясціны Беларусі”, які гэтым разам прысвечаны Капыльскаму раёну.

Янка ЛАЙКОЎ



## Алена КАРП

* * *

Маўчанне – золата, але больш не ратуе.
Я адчуваю ўласнай скурай,
якія нязграбныя нашы словы.
Я навучуся паступова
усведамляць элементарныя рэчы.
Вернасць дарэшты сцячэ ў вечнасць.
Ты баішся страціць мяне. Дарма.
Я даўно згубіла сябе сама.

* * *

Старыя кнігі не рэжуць рукі.
Мне б апынуцца сярод тых вулак,
што на старонках тонкіх, пажоўклых,
на фотаздымках,
рарытэтных паштоўках.
Мне б стаць няісным і знікомай.
Пастаць шляхцянкі здацца знаёмай...

Толькі не лёс. Жыву тут і сёння.
Вострыя аркушы раняць далоні.

### Call back later

Бяру слухаўку.
Раптам пачую што-небудзь,
апрача гудкоў, кароткіх ці доўгіх,
апрача таго, што абанент
па-за сеткай, то бок няўлоўны;
апрача таго,
што набраны вамі нумар не існуе;
апрача «Я ў метро.
Патэлефануй пазней»;
апрача «Нет, Вы не туда попали»;
апрача...
Слухаўкі – страшная рэч.
Таму сумаўляюся з небам, з абразамі,
з тваім фотаздымкам,
у рэшце рэшт.

### Цёмна

Няхай для цябе святло
паходняў, ліхтароў
ці лямпачкі, хоць і звыклае,
хатняе, не згасне.
І будзе табе надзея-вера-любоў-
усё астатняе, карацей, шчасце.
А мне даруй
амаль непрыстойную скруху,
думкі пра закінутасць свету й маю,
даруй, што на гэтым бясконцым,
вар'яцкім, пякельным крузе
спынілася сярод вечнага руху,
стамілася хлусіць,
мо ўпершыню.

* * *

Людзі, пра якіх ты думаеш
перад тым як заснуць,
ці ўспамінаеш у трамваях,
аўтобусах, метрапалітэне
і ўсміхаешся, пакуль не заўважыш
насцярожаных позіркаў,
дык вось, тыя, пра каго
ты ўсміхаешся, жывуць
у некантралюемай,
непадуладнай табе сістэме
каардынат, дзе і ты спрабуеш жыць
навобмацак,
бо не ты, не яны,
а нехта трэці рэгулюе адлегласці
і можа перакуліць усё так,
што блізкія стануць чужымі.
Тут ніхто не гарантуе устойлівасці,
непарушнасці, вернасці,
адпаведна, ніхто нікому
нічога не вінны.

### Арытмія

Хачу дажджу. Хачу дажыць
да сябе інакшай, якая будзе іначай,
якая навучыцца быць
большай за тую, што ёсць,
ці хаця б нешта значыць.
Не баюся ні вышыні, ні глыбіні,
але не ўмею быць ані высокай,
ані глыбокай.
Рэальнасць палохае,
але часціца нібы
супакойвае, кажа, што гэта падман,
і прыносіць палёгку.
Прыцемкі / цемра / святло,
прыадчыніць / прычыніць фортку –
настрой рэгулюецца на паўтонах,
амаль як адносіны,
закрываю двукоссі,
апошнюю кропкай –
пігулка цытрамону.
Ды ўсё адно думкі прачнуцца ўначы,
і я, неспакойная,
бясконца доўга іх закалыхваю.
Праграма-максімум –
навучыцца жыць,
мінімум – зберагчы
тое, чым сёння дыхаю.



## Віктар БУБНАЎ

* * *

Перад табою я, нібы ў даўгу
За тое, што мяне ты палюбіла,
І я тваё каханне берагу,
Хоць ты мяне
аб гэтым не прасіла.

І я ў цябе нічога не прасіў,
Ды лёс, як трэба,
наш распарадзіўся,
І я цябе сустрэў і палюбіў,
І ў сне начным
пра гэта не забыўся.

* * *

Зямля на восі
сваёй круціцца,
Крыніца ад таго
не змуціцца.

Крыніца будзе як крыніца,
Дзе толькі чыстая вадзіца.

Губамі зноўку прападу,
Каб піць
крыштальную ваду.

Пап'ю нагбом
і з гладыша,
Святкуй, засмяглая душа!

* * *

Сышліся хмары,
быццам на парад…
І далечы ўжо
прыцемкам асмуджаны.
Струмені ліўня
б'юцца аб асфальт,
І, шумныя,
расплюшчваюцца ў лужыны.

Дажджу не хутка
скончыцца трыумф,
А вось душа мая
нібыта ў верадзе…
І працінае
невыносны сум,
І што яшчэ,
не ведаю, наперадзе.

* * *

Няма канца, няма пачатку,
І зораў столькі,
нібы лёсаў…
А поўня —
срэбная пячатка
На ціхім аркушы нябёсаў.



## Міхась ЮЖЫК

* * *

Кім мы станем пасля,
як закрыем павекі
не на міг, не на ноч,
а ў магільнай цішы?
Проста трупам,
дзе высахлі кроўныя рэкі,
проста памяццю, той,
што каштуе грашы?

Мне адказвалі многія,
толькі пытанне,
перажыўшы адказы, нанова ўстае:
кім мы станем пасля,
як суцішым дыханне,
як дадзім угнаенне пароспай траве?

Кім мы станем пасля?
Не чакайце адказу,
без яго лёгка жыць і сыходзіць лягчэй.
"Кім мы станем пасля?!" —
я гукаю што止разу
Ў старажытна-бязмоўную
вусціш начэй.

* * *

Каменьчык,
што ў душы на дне,
наводзіць думы.
Гасцюе вечар у мяне
з таемным сумам.

Гляджу на поля далягляд,
дзе крочыў прама,
дзе векаваў калісьці сад
за белай брамай.

Не страшыць восені прыход,
адно ўздыхаю,
што не крануўся
цёплых вод
чужога краю,

што ў запаветныя палі
не забрыдалі
ступні мае... Святой зямлі
не зведаў далі.

### Люстэркі

Я ў пакоі стаяў,
а па сценах віселі люстэркі,
пасылаючы ў розных выявах
аблічча мае.
Напалохана іх назіраў,
нібы зрокам памерклым,
нібы вечар вакол,
нібы ноч у душы настае.

А між тым асвятлялася дзіўная зала
яскрава, грала музыка маршы,
і чуліся спевы і смех.
Кідаў позірк назад і наперад,
налева, направа —
адусюль выскаляўся адзін —
мне чужы! — чалавек.

То не я! Хоць нікога няма і не будзе
ў гэтай зале пустой,
дзе ад музыкі сцены трашчаць.
Адышлі, адспявалі,
адмучылі тэрмін свой людзі –
сталі зданямі ўжо,
якіх будуць адно ўспамінаць.

Я ж выразна лаўлю неспатольныя
іхнія стогны,
словы песень, дзе боль і туга
па нязздзейсненым тут.
Толькі целаў не бачу,
шо поруч у люстрах замглёных
пастаяць бы маглі... ці патанчыць,
каб збыцца пакут.

У люстэрках крывых бачу твару
і постаці ўздрыгі.
То не я! Бо ціхмяную,
горкую ведаю існасць сваю.
Нейкі вырадак, клоун, нахабнік,
дзве пысы барыгі...
"Божа, дай мне люстэрка
сапраўднае!" — страсна малю.

А за сценамі стогнуць і выюць ужо
— не спяваюць,
і становіцца музыка з кожным
акордам гучней.
Ды, скажонае люстрамі,
нешта кудысь адлятае...
Слепну я... і звідушчваю раптам,
і бачу ясней.

То не сцены, а лес, не люстэркі,
а з возера блікі,
што світальнае сонца шпурляе
ў істоту маю.
Зеляніну і водары,
птушак абуджаных крыкі
пазнаю,
пазнаю,
пазнаю,
пазнаю,
пазнаю…



Фота Віктара Кавалёва

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

23 ліпеня 2010 г.

Выпуск 6

## Издательские хлопоты

# Кому исследование, кому роман



Поскольку книг выходит нынене много и разных, то каждое издательство старается выпускать прежде всего такие, которые были бы сразу востребованы читателями. Не исключение и издательство "Беларусь", которое является основоположником национального книгоиздательского рынка. О том, чем порадовало оно в этом году читателей, мы попросили рассказать исполняющую обязанности директора издательства Валентину Пинчук.

— В первую очередь, — хотелось бы назвать книгу доктора исторических наук Юрия Бохана "Ваяры Грунвальдскай бітвы". Она посвящена знаменитой Грюнвальдской битве, которая, произошла 15 июля 1410 года. Мы постарались, чтобы монография появилась как раз накануне юбилея. Приятно, что она сразу же вызвала повышенный интерес, о чем, в частности, свидетельствовали презентация, прошедшая в Национальной библиотеке Беларуси, и пресс-конференция, состоявшаяся в связи с ее выходом. В мероприятиях принимал участие и автор книги. Юрий Бохан точно подметил: "Если России окно в Европу помогла прорубить Северная война со Швецией за господство на Балтике, которая длилась с 1700 по 1721 год, то нашествие крестоносцев, а потом и Грюнвальдская битва, сделали это в Беларуси почти на триста лет раньше". Он в этой книге проследил всю историю отношений белорусов с крестоносцами, начиная с момента их появления на восточноевропейских землях в XII веке. С ней будет полезно познакомиться всем, кто желает глубже постичь историю Беларуси. Тираж книги 1, 5 тысячи экземпляров, а стоит она в книжных магазинах 32 тысячи рублей.

А вот в книге Лидии Кузьминой "Павел Сухой и его крылатые шедевры" рассказывается о нашем земляке, уроженце города Глубокое, выдающемся авиаконструкторе Павле Сухом, его имя стоит в одном ряду с такими прославленными создателями самолетов, как Туполев, Ильюшин, Микоян, Лавочкин, Антонов, Яковлев. Боевые крылатые машины, сконструированные ими, до сих пор находятся на вооружении во многих странах мира. Конструкторское бюро, которое в свое время создал Павел Осипович, по-прежнему является, если можно так сказать, законодателем самолетостроительной моды.

— А еще, какие интересные книжные новинки вы могли бы назвать?

— Думаю, что истинные ценители и приверженцы белорусской национальной культуры уже обратили внимание на трехтомник народных примет и поверий (а некоторые и поспешили приобрести его), составленный Владимиром Василевичем. В первой книге "Зямля стаіць пасярод свету" можно найти ответы на вопросы, связанные с тем, как предсказать погоду и урожай, как защитить себя от болезней и сглаза. Конечно, исходя из народного опыта. Во вторую книгу "Жыцця адвечны лад" вошли народный календарь, приметы и поверья, связанные с вечным жизненным колесом — от рождения человека до завершения им земного пути. Ответы на вопросы, как увидеть правдивый сон, как лучше ворожить на Рождество и Купалье, читателя ожидают в книге "Зямная дарога ў вырай". Фотоальбом "Браславские зори" — своего рода приглашение в один из самых прекрасных уголков нашей страны. Как известно, браславская группа озер, объединенных в Национальный государственный парк Беларуси, включает в себя полсотни водоемов, общая площадь которых составляет 150 квадратных километров.

(Продолжение на стр. 2)

## Аўтограф




Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі:

— Люблю чытаць гістарычны раман. А зараз — беларускі гістарычны раман. Шмат ёсць вартых твораў, шмат аўтараў, якія распрацоўваюць гэту тэму. Заўсёды здзіўляюся, калі кіношнікі гавораць: вось, няма сцэнарыяў, няма пра што здымаць. І яшчэ люблю чытаць фантастыку.

— Ці ёсць кніга, якая памяняла погляды на жыццё, альбо паўплывала на ваш лёс?

— Гэта Джэк Лондан, "Прага жыцця". Лічу, што здавацца нельга ніколі, за сваё шчасце заўсёды трэба змагацца.

— Ад каго — ваша любоў да кнігі?

— Ад бацькі. Ён шмат чытаў, быў бібліятэкарам. Гэта чалавек, які верыў у культуру і магутнасць культуры.

— Калі і дзе чытаеце?

— Мастацкую літаратуру на працы чытаць не даводзіцца. Хаця я сказаў бы трохі інакш: гэта ў нейкім сэнсе мой прафесійны абавязак. Каб ведаць, якія ёсць новыя паступленні, што адбываецца ў кніжным свеце. Абавязкова наведваю кніжныя выстаўкі, кірмашы. Нацыянальная бібліятэка Беларусі праводзіць шмат прэзентацый, і каб не быць чалавекам, які "не чытаў, але нешта магу сказаць", зразумела, прачытваю гэтыя творы. Мы праводзім прэзентацыі лепшых выданняў, кнігі, сапраўды сур'ёзныя, цікавыя. І чытаю іх з вялікім задавальненнем.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: Раман Матульскі — чытачам "Кніжнага свету": "Чытайце, думайце і зноў чытайце".

Калаж Віктара Калініна

## Вітрына

# Да кнігі… на машыне!

"Кнігарня ў чырвоным доме" — так називаюць магазін "Далеч" аматары кнігі Заводскага раёна сталіцы. І нездарма. Знакаміты чырвоны дом, што недалёка ад станцыі метро Магілёўская, дзе размешчаны пошта, банк, аптэка, крамы гаспадарчых тавараў, абутку і медтэхнікі, ведаюць, бадай, усе мінчане. Дзякуючы такой папулярнасці, у кнігарню кожны дзень завітвае каля пяцісот пакупнікоў. Больш таго, кніжная крама ў хуткім часе зноў адчыніць свае дзверы пасля рамонту.



"Калі ўжо ў чырвоным доме няма кнігі, то можна ўжо нідзе не шукаць", — такі выраз, які ўжо амаль стаў крылатым выслоўем, часта ўжываюць пастаянныя наведвальнікі "Далечы". "І гэта сапраўды так, — пацвярджае таваравед Ірына Якушэнка. — Наш магазін універсальны. Мы прапаноўваем розную літаратуру, не толькі мастацкую і вучэбную. У кнігарні ёсць аддзелы права, тэхнікі, медыцыны, педагогікі, аддзелы грамадскіх навук, вучэбна-метадычнай літаратуры. Акрамя гэтага, тут можна знайсці вялікую колькасць кніг пра бізнес, кулінарыю, рамонт, спорт, турызм, пра жывёл і расліны і шмат іншых. Усяго асартымент налічвае каля дваццаці тысяч найменняў кніг. Трэба адзначыць і шырокі падбор канцылярскіх тавараў, паштовак і бланкаў. Але сярод іншых вылучаецца аддзел дзіцячай літаратуры". Тут — адмысловы расклад кніг. Большасць з іх — на незвычайных памераў машыне, падобнай да цацкі, на капоце якой красуецца наклейка "МАЗ". З левага боку — кнігі для таты: дэтэктывы, фэнтэзі і інш. А з правага — для матулі. "Мы вырашылі размясціць усё менавіта так, каб дзіця, седзячы на табурэце, выбірала сабе кнігі, а тата і маці, далёка не адыходзячы ад малога, — сабе," — тлумачыць Ірына Міхайлаўна.

Выбраць патрэбную і цікавую літаратуру дапаможа Лідзія Марозава, прадавец з трыццацігадовым стажам. Яна дасць слушныя парады кожнаму: "Я вельмі люблю сваю прафесію. Кожны дзень для мяне — быццам новая старонка чароўнай кнігі, якая адлюстроўвае любоў да друкаванага слова і нашых пакупнікоў".

Трыццаціпяцігадовая гісторыя кнігарні "Далеч", добразычлівы персанал, аддаленасць іншых магазінаў (бліжэйшыя — у Чыжоўцы і Серабранцы), а таксама рамонт і новая мэбля дазваляюць усё часцей і часцей бачыць не толькі пастаянных пакупнікоў, але і новых, якія не лянуюцца прыязджаць з самых далёкіх куткоў Мінска. "Спадзяёмся, што новы знешні выгляд кнігарні парадуе нашых кліентаў. Новая падлога, столь, кніжныя стэлажы дазволяць яшчэ больш паглыбіцца ў незвычайны свет кнігі", — мяркуе дырэктар Тамара Дземідовіч.

Кацярына РАБАВА

На здымках: дырэктар кнігарні Тамара Дземідовіч; аддзел дзіцячай літаратуры; у гандлёвых залах кніжнай крамы.

Фота аўтара





Унікальныя выданні

# Вобразнасць плюс прапорцыі

Першы том энцыклапедыі “Гісторыя беларускай кнігі”, што пабачыў свет у выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, у 2010 годзе стаў пераможцам Нацыянальнага конкурсу “Мастацтва кнігі” ў намінацыі “Лепшае энцыклапедычнае выданне”. Больш як 300 ілюстрацый, прынцыпова новая канцэпцыя выдання і аўтарскі тэкст доктара філалагічных навук Мікалая Нікалаева… Гэта далёка не поўны спіс адметнасцей кнігі. Сёння мастак Генадзь Мацур, які працаваў над афармленнем энцыклапедыі, для чытачоў “Кніжнага свету” адкрывае сакрэты мастацкага выканання гэтай унікальнай кнігі.




“Гэта класічная кніга, не энцыклапедыя ў чыстым выглядзе, — распавядае Генадзь Іванавіч, — Мае яна некалькі раздзелаў, у якія ўключаны ілюстрацыі і звесткі пра кнігі на розных мовах, што з’яўляліся на беларускіх землях у час іх знаходжання ў складзе Вялікага княства Літоўскага, — ад першых рукапісных кніг і да XIX ст. Спачатку яна задумвалася як асобная праца, але потым узнікла ідэя працягнуць даследаванне ў гэтым накірунку, разгледзець іншы перыяд гісторыі кнігі — з XIX ст. і да нашых дзён.

Я даўно захапляюся кнігай як мастацкім прадметам, і гэта не толькі прафесійны інтарэс. Мне падабаецца і ў руках трымаць фаліянты, свая прыгажосць ёсць і ў рукапісных кнігах, і ў старадруках. Працуючы над гэтым выданнем, убачыў: які шыкоўны матэрыял, як шмат каштоўнасцей мае беларуская культура. Да таго ж, тут ёсць і тое, чаго мы ніколі не бачылі, кнігі, што захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Расіі, у іншых краінах свету. Хацелася, каб гэтая энцыклапедыя стала паўнавартасным фаліянтам, каб яна была ілюстраванай, бо звычайна аўтары-навукоўцы падаюць матэрыялы ў сціслай форме. Для іх галоўнае тэкст, змест. А для мяне важны і візуальны шэраг, тое, як кніга выглядае. Так, з аднаго боку, і тэкст можна падаць вельмі прыгожа, але ў дадзеным выпадку выключную ролю адыгрываюць ілюстрацыі”.






Над гэтай кнігай працаваў невялікі аўтарскі калектыў, які складаўся ўсяго з аднаго аўтара і фатографа, працаваў каля 10 год. Адчулі яны цяжкасці тэхнічнага кшталту, а менавіта пераходу з аналагавага ў лічбавы фармат, асаблівасці аб’екта вывучэння — кнігу складана здымаць для друку так, каб ілюстрацыі атрымаліся якаснымі. Асноўнай жа мэтай такіх ілюстрацый было паказаць праўдзівыя вобразы, каб чытач сам усё ўспрымаў і разумеў, бачыў карані беларускай кніжнай культуры.

“Пачыналася ўсё з вобраза, — распавядае далей Генадзь Мацур, — і мне хацелася, каб падача матэрыялу была не мадэрновая, а класічная, бо столькі прыгажосці ў кнігах, і рукапісных, і старадруках, і сваім недарэчным умяшальніцтвам не хацелася гэта ўсё яшчэ ўпрыгожваць. Таму ў выданні максімальна захоўваецца арыгінальнасць ілюстрацый. У плане афармлення я пайшоў ад старых кніжак: набор, палі, шрыфт, подпісы. Тут вельмі важна, як і ў архітэктуры, захоўваць прапорцыі, важна падаць і фактуру тэксту, правільна выбраць маштаб ілюстрацый, бо кніжкі самі розныя па памеры, ёсць і вялікія фаліянты, і вельмі маленькія. Трэба іх так паказаць, каб было



зразумела, якая кніга вялікая, якая маленькая, прывесці ў візуальны лад і фон, на якім размяшчаецца кніга, каб ён не замінаў успрыманню. Важна захоўваць і вобразнасць, і прапорцыі. Напэўна таму ў гэтым выданні няма адмысловых кніжных упрыгожванняў, чытаеш і проста разглядаеш старыя прыгожыя кніжкі.



Пытанне прыгажосці кнігі — філасофскае. Рукапісныя кнігі, можна сказаць, упрыгожаныя ў прамым сэнсе слова: тут ўжываліся буквіца, віньеткі, чырвоныя радкі. Далей, пасля вынаходніцтва друкарскага станка, — больш увагі — на графічнае афармленне тэксту, на фактуру, набор шрыфта, на маштаб ілюстрацый. Але гэта не азначае, што такія кнігі горшыя, ці лепшыя, яны проста іншыя, выкананыя па правілах новай эстэтыкі. У гэтай кнізе можна прасачыць і развіцце тыпаграфікі як мастацтва: першыя друкаваныя выданні былі больш аналагічнымі рукапісным у плане дэкору, а далей, для прыкладу, у XIX ст., з’явіліся зусім іншыя прыёмы, калі параўноўваць з XV — XVI стст., іншая прыгажосць. Мяне цешыць, тое, што чытачы разумеюць гэтую эстэтыку”.

Цяпер ідзе праца па стварэнні другога тома “Гісторыі беларускай кнігі”. Над выданнем працуе аўтарскі калектыў, навуковым кіраўніком якога з’яўляецца Мікалай Нікалаеў. Першапачаткова планавалася, што энцыклапедыя будзе складацца з двух тамоў, аднак, па словах галоўнага рэдактара выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” Ларысы Языковіч, можа стацца так, што атрымаецца трохтомнік. Бо ў той час, які разглядаецца ў першым томе, кніг выдавалася параўнальна мала. Але пачынаючы з трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, у XIX ст. і да нашых дзён іх колькасць узрастае ў геаметрычнай прагрэсіі.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: экслібрыс Канстанцыі з Радзівілаў Сапегі, жонкі канцлера. 1741 г.; Усвяцкі староста, праваслаўны магнат Ян Пётр Сапега; геральдычны малюнак з маскоўскага «Тытулярніка» 1672 г., герб Мсціслава; Дзесятаглаў. Пачатак Псалтыра. Разгорт з адзінай у кнізе мініяцюрай. Вільня — Супрасль 1502-1507.

## Пад вокладкай
















1. Кавалеўскі, А.М. Мой сябра анёлак: вершы: для дзяцей малодшага школьнага ўзросту / Арцём Кавалеўскі; мастак Дар’я Чарняўская. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 40 с.

“Калі я быў маленькім, я не ведаў, хто такія анёлы,” — прызнаецца аўтар у прадмове да кнігі. І сапраўды, наўрад ці хто з людзей бачыў гэтых незвычайных істот, і таму складана дакладна вызначыць, як яны выглядаюць, як сябе паводзяць, які маюць нораў. Але ці заўсёды трэба бачыць, каб ведаць? Можна ж уявіць! І стварыць іх вобразы так, як падказвае фантазія — вялікімі ці маленькімі, сур’ёзнымі ці прастадушнымі, задуменнымі ці вясёлымі… А яшчэ гэта дапаможа зрабіць кніга пра добрых і клапатлівых анёлаў, якіх людзі ласкава называюць анёлкамі.

2. Барэйша, Ю. Мсціслаўскі манетны двор Алелькавічаў — Бельскіх “Пісараўшчына” вясны 1482 года: хроніка змовы 1480-1482 гг. па нумізматычных матэрыялах / Юрый Барэйша. — Мінск: Тэсей, 2010. — 116 с.

Даследаванне гісторыка і нумізмата Юрыя Барэйшы прысвечана храналогіі і дэталям змовы князёў ВКЛ на пачатку 1480-х гг., пераацаніць сталы гістарыяграфічны погляд на якую прымусілі новыя дадзеныя. Кніга пралівае святло на сенсацыйную старонку мінулага ВКЛ — дзейнасць выяўленага манетнага двара пад Мсціславам у першай палове вясны 1482 года. Упершыню ў нумізматыкі ВКЛ з’явілася магчымасць лакалізацыі на гістарычнай мапе сярэднявечнага эмісійнага цэнтра. Новыя акцэнты расстаўлены і ў дачыненні склада ўдзельнікаў змовы, сярод якіх названыя прадстаўнікі княжацкіх родаў Лугвенавічаў і Глінскіх.

3. …Пачуць, як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва. — Мінск: Лімарыус, 2009. — 400 с.

“Класічны ў беларускім літаратуразнаўстве прыклад спалучэння таленавітасці і працавітасці, валодання мастацкім і навуковым стылямі — усё тое, што зроблена Генадзем Кісялёвым, якому ў сакавіку 2011 споўнілася б восемдзесят.” — піша ў прадмове да кнігі доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс. У цэнтры ўвагі выдатнага гісторыка літаратуры заўсёды было XIX ст., і тут ён адкрыў шмат невядомых раней імёнаў, даказаў аўтарства “Энеіды навыварат” і “Тараса на Парнасе”. Спасцігнуць Генадзя Кісялёва, прайсціся яго пуцявінамі ў кнізе спрабуюць вядомыя беларускія даследчыкі і літаратуразнаўцы, вучні Генадзя Кісялёва.

4. Стэйнбек, Джон. Легенды о короле Артуре и рыцарях Круглого Стола / Джон Стейнбек. — Москва: Эксмо, 2010. — 512 с.

Гэтую кнігу многія лічаць спробай перапісаць “Смерць Артура” Томаса Мэлары альбо варыяцыяй на адну з самых невычэрпных тэм у сусветнай літаратуры. Невядома, чаму Нобелеўскі лаўрэат не скончыў працу над увасабленнем сваёй задумы, але ў любым выпадку, кніга атрымалася цудоўная. Яшчэ большую значнасць надае ёй Дадатак — перапіска Джона Стэйнбека з літаратурным агентам і рэдактарам, якая і паказвае, якой шырокай была задума і наколькі сур’ёзна пісьменнік падыходзіў да разгляду праблемы. Сабраныя ім у ходзе працы звесткі знаўцы лічаць адной з лепшых анталогій па артураўскім пытанні.

5. Сарамаго, Жозе. Слепота / Жозе Сарамаго.—Москва: Эксмо, Санкт-Петербург: Домино, 2010.—368 с.

Жыхароў горада без назвы, што знаходзіцца ў краіне без назвы, робіць сляпымі загадкавая эпідэмія. Галоўныя героі рамана, поўнага сімвалаў і алегорый — хворы ўрач-акуліст, і яго жонка, якая імітуе хваробу. І менавіта яны шукаюць (і ў выніку, канечне, знаходзяць) крупінкі парадку і справядлівасці ў свеце, які пагражае вось-вось перастварыцца ў хаос. У 2008 годзе кніга была ўдала экранізавана рэжысёрам Фернанда Мейрэлесам.

З кнігамі знаёміла Марына ВЕСЯЛУХА

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара himarina@tut.by

# Бацька



Георгій МАРЧУК

## Апавяданне

Часцяком пытаюцца: чаму я ў размовах, у сваіх творах ці выступаючы перад слухачамі амаль ніколі не ўспамінаю свайго бацьку? Калі прасачыць гісторыю ўзаемных стасункаў бацькоў і дзяцей, дык вымалёўваецца агульная тэндэнцыя: часцей і ахвотней мы ўспамінаем маці і ўзгадваем яе светлы вобраз да апошніх сваіх дзён. І на тое ёсць мноства прычын. Бацька знаходзіцца нібыта ўбаку. Маці аддае больш часу выхаванню, песціць, не саромеецца сваёй любові на людзях, больш ахвотна даруе і малыя, і вялікія грахі, бароніць ад бацькавага гневу. Бацька стрымлівае эмоцыі, надаючы больш увагі не сям'і, а службе, рабоце. Маці часцей выслухвае пакаянне. Бацька ж больш лёгка аддаецца (а гэта вымагае часу) сваім відавочным хобі і таемным жарсцям, нібыта выконваючы план сям'і ў справе засваення сямі смяротных грахоў, часам усведамляючы згубнасць гэтага шляху, але не маючы сілы штосьці змяніць.

Кажуць, што яны, мужчыны, больш эгаістычныя, абыякавыя, часцей трапляюць пад уладу неўтаймаваных жаданняў. Іх слова рэдкае, але трапнае. Яшчэ па адной даўняй завядзёнцы на бацьку ўскладзена місія фізічнага выхавання папругай. Больш абазнаныя ў пытаннях сямейных узаемаадносін псіхааналітыкі спасылаюцца на Эдыпаў комплекс: маўляў, дзяўчынка падсвядома больш любіць бацьку, а хлопчык – маці. Бацька да таго ж не прывык, каб з яго рабілі ахвяру, калі, безумоўна, ён не хворы. Халоднае стаўленне да дзяцей нават узвышае яго асобу, ураўнаважвае празмерную пяшчоту, дабрыню, лагоднасць і ціхмянасць маці. У рэшце рэшт, каб знайсці апраўданне, можна, абапіраючыся на тэорыю і практыку, адшукаць мноства самых розных і нечаканых прычын. Тут знойдзецца месца і побытавым трагедыям, і драмам кахання.

Хто яго ведае, дзе мяжа ўсёдаравання. І як бы я ні круціўся вакол пытання, якое мне часта задаюць, а ўсё ж мушу адказаць, хаця б самому сабе...

Не буду хлусіць: ён прыходзіць на ўспамін. Праўда, заўсёды ў сувязі з кімсьці ці з чымсьці, але і тады, калі бываю на радзіме, у сем'ях знаёмых, падчас інтэрв'ю для радыё ці тэлебачання, няма жадання падзяліцца гэтымі ўспамінамі.

А я ж бы мог ім ганарыцца. Рост ён меў вышэй за сярэдні, быў моцны целам і духам. Праўда, з часам, калі пачаў добра-такі выпіваць, цягліцы ператварыліся ў сваё падабенства. Дзякуючы ўпэўненай, паважнай хадзе стваралася ўражанне, што чалавек моцна пашыты... а зблізку бачны былі ацёкі рук і ног. У дзяцінстве я яго не ведаў, пачалі зрэдку сустракацца, нібыта прыглядаючыся адно да аднаго, калі яму было паўсотні гадоў. Ён ажаніўся з маёй маці супраць волі яе родных. Надта чамусьці мае дзядуля і бабуля былі супраць. Паколькі я не мог быць сведкам у сорак шостым годзе, а маці не паспела расказаць мне ўсёй праўды – рана памерла, – не бяруся выносіць прысуд дзеду і бабе. Як кажуць старыя манахі, за ўсё трэба дзякаваць Богу: за тое, што знайшоў, і за тое, што страціў. Таму што не ты адзін куеш свой лёс.

Такое адчуванне, што ён даказаў маім дзядулю і бабулі, што няма для яго нічога немагчымага. Насуперак усім узяў і ажаніўся. Вітайце яго, карміце, улагоджвайце. Гонар, годнасць... Я б мог ганарыцца і гэтай рысай яго характару. Аднак – зноў здагадкі – пасля жаніцьбы ён, пераможца, у нейкім сэнсе страціў цікавасць да маладой жонкі. Яму і пазней, калі маці трагічна загінула, трэба было ўвесь час камусьці даказваць сваю амбітнасць, сілу, спрытнасць, хітрасць. Калі ўжо піць, дык так, як ён. Яму ў мястэчку і мянушку далі трапную –– "Бутэлька". Усіх мог перапіць. Валачэцца дамоў, ледзьве на нагах трымаецца, а ўсё ж такі не зваліцца пад плотам, не будзе паскудзіць пры людзях. І такой фанабэрыяй ягонай можна было б ганарыцца.

А ўжо майстар гандляваць быў, як яўрэй які ці араб. Вось будуць стаяць на маскоўскім базары сябрукі яго, суседзі і таксама гандляваць насеннем кветак – асноўны заробак беззямельных давыдгарадчукоў – дык не ж... усё роўна атрымае за дзень удвая больш, чым таварышы. Шанцавала, халера, як чорту.

Я б мог ім хваліцца. А як жа! У Дзень Перамогі апранаў сіні фрэнч з медалямі і ордэнамі. Біў ворага, за тое і ўзнагародзілі. А калі часова ўладкаваўся ў інспекцыю рыбнагляду, літасці нікому не было: ні суседу, ні сваяку. Знялі з пасады – не ведаю, з якой прычыны, можа, за п'янкі, а можа, грошы ад штрафаў прысабечыў – дык не страціў бадзёрасці, не хаваўся ў хаце, не саромеўся рабіць праходку ў цэнтр мястэчка. Падбухторваў сяготаго з сябрукоў, перакульвалі ў зацішку адну паўлітроўку, другую, трэцюю. Здароўе патроху адымаў алкаголь, але ў яго па-ранейшаму былі дужыя рукі. Не было аматараў спаборнічаць з ім, вымяраючы сілу рук: усё адно прыцісне да стала хоць цвярозы, хоць п'яны. Калі ж прайграваў, павінен быў не толькі частаваць, ставіць бутэльку гарэлкі, але і трываць кпіны і відавочную іронію. Далібог, тая іронія часцяком ператваралася ў здзек.

Яна ж, іронія, і самога яго ратавала. Паводка знесла не старую яшчэ хату. Праз тры дні, дагаджаючы другой жонцы, ад якой меў трое дзяцей, пакінуў родны Давыд-Гарадок, паехаў да дачкі ў Полацк і там купіў на апошнія грошы, прыхаваныя "на чорны дзень", палову камяніцы. Калі мы з ім, нарэшце, пачалі зрэдку за чаркай гарэлкі наладжваць сякія-такія, хутчэй сяброўскія, а не сваяцкія адносіны, ён мяне не павучаў, не выхоўваў, не камандаваў. Памятаю толькі словы, якія ён паўтараў: "Якія маеш грошы – такое і жыццё, а калі ў цябе няма грошай, дык якое ж тады жыццё". Прадбачлівым быў, мог зазірнуць у дзень заўтрашні.

А як жа не ганарыцца ім, скажа хтосьці, чаму б і не. Нягледзячы на хворыя ногі, зноў у які ўжо раз павёз насенне кветак на маскоўскі кірмаш. Гэткая вось упартасць, вера ва ўласныя сілы. Чаму б не ганарыцца. Я б мог ганарыцца, таму што і ў сталіцы бяздомныя і бамжы ішлі да Васіля Ільіча прасіць грошай на харчы і піва. Калі ў мястэчку нашым на кірмашы выбіраў мяса ці рыбу, заўсёды браў самае лепшае. Меў імпэт. Купец па натуры, ён аднак ніколі на сваім давыдгарадоцкім базарчыку не прадаваў бульбу, садавіну, гародніну. Было б гэта для яго, сталічнага купца, ганебным. Ішоў да стадыёна, да чайной, хадзіў на рыбалку, на святы – да царквы.

У храм не заходзіў. Стаяў з аднагодкамі ля варотаў, ішоў па гарадку ўпэўненым крокам, вольна, часта пасярэдзіне вуліцы, і кожны, хто ехаў на ровары ці на возе, мусіў яго аб'язджаць.

Я б мог ім ганарыцца. Было б прыемна пачуць услед... вунь, пайшоў сын "Бутэлькі". Але не... не... ніколі ў жыцці не было ніякага жадання пахваліцца ім перад аднакласнікамі, пасля ў інстытуце. Мог бы ганарыцца, але... адзін, усяго адзін факт мёртвай рукой сціскае мае слабыя намеры. Ён, мой бацька, не дачакаўся майго прыходу на свет, кінуў маю маці дзеля другой жанчыны. Два месяцы заставалася да родаў. О, як жа мая слабенькая, невялікага расточку, худзенькая маці баялася нараджаць! Побач не было каханага. І пасля, цягам дзесяці гадоў, да самай яе заўчаснай смерці, ніколі не падышоў, не загаварыў з намі. Не хочацца ім ганарыцца... няма чым... сорамна ганарыцца... і не буду.

Хай Бог прабачыць мяне за тое, што я не ў сілах дараваць. Ляжыць у зямлі роднага мястэчка маці, ляжыць далёка на поўначы ў зямлі мой бацька Васіль Ільіч.

Даўно тое было. А рана ўсё не загойваецца. Пра іншых гаварыць, відаць, не маю права, а пра свайго сказаў, што хацеў.

## Дэбют

Маладая пісьменніца, што хаваецца за псеўданімам Таццяна Бацічэлі, нарадзілася ў 1989 годзе ў Салігорску. Вывучае беларускую філалогію ў БДПУ. Піша вершы: апавяданні, спрабуе сябе ў літаратурнай навуцы. У "ЛіМе" — упершыню.

Ц.Ч.

# Дзве памяці

Таццяна БАЦІЧЭЛІ

– Что случилось? Почиму молчиш?

Яна ўздымае вочы і пачынае штосьці прагна, з затоена-набалелай надзеяй шукаць у яго вачах, але не знаходзіць, і сэрца ападае, патанае ў віры звыклай горычы… Ён спыняе яе хаду і цягне да сябе, каб пацалаваць яе валасы, такія мяккія, пакорлівыя, паслухмяныя… Куды больш паслухмяныя, чым яна сама.

– Что нового? Почиму молчиш? Что, без слов? – і смяецца, дзівіцца з гэтай маўклівасці. Такой мнагазначнай для яе і адназначна-пустой для яго.

Яна поўніцца словамі, адабранымі з бездані пустых слоў. Яна баіцца пустых слоў. Так баіцца!!! Аднак яго вочы крычаць ёй, што яе словы, асуджаныя на непрыманне, неразуменне, патонуць у ім, не прарастуць. І таму яна затойваецца і маўчыць.

Яна ідзе хуткім крокам, але час ад часу ён спыняе яе, каб не адпусціць. Побач з ім ёй страшна замаруджваць крок, бо тады наплываюць нястрымна-гарачай хваляй успаміны. Запалённая памяць. Вечна жывая памяць. ПЕРШАЯ памяць. Яна магла б жыць, дыхаць, верыць. А памяць пакінула ёй адно – выжываць…

– Что, без слов? Так тебе лучший?

… Маленькая Волечка схіляецца над пяском, які зранку прывезлі на вялізнай машыне. Вольчына мара. Яна возьме сваю адзіную ляльку, і яны разам пабудуюць палацы, падземныя ходы, патаемныя пакоі. Неспакойныя, да недаверу казачныя мары-мроі пра пясчаны дзень! Але вось яна бачыць вочы. Перш за ўсё яна бачыць не постаць, а вочы. Яна ўжо ведае, што будзе далей. Гарачыя рукі. Не схавацца ад іх пякучага агню.

– Прэч адсюль! Ты забылася, што павінна зрабіць? Гультайка! Адроддзе! Адна ты такая! Вылюдак, а не дзіця!

Толькі ўбачыўшы вочы, яна чакала гэтых слоў. Такія ўжо звыклыя словы, але кожны раз яны быццам сказаныя ўпершыню. Кожны раз боль новы, не такі, як мінулы раз. Адны і тыя ж словы, адны і тыя ж бязлітасна-гарачыя рукі. Толькі боль кожны раз новы, іншы.

– Олья! Олга! Ти со мной? Со мной или нет? – і Хаідр вясёла-незамутнёна смяецца. Вольны, не скаваны ланцугамі памяці смех. – Что такое? Ты думаеш? Без слов?

Яна ўсміхаецца, але штосьці невымоўна-пакутлівае ў гэтай усмешцы, пасталелай на дзесяцігоддзі. Напэўна, так усміхаюцца тыя, хто пабачыў на свае вочы занадта шмат, каб гэтымі вачыма зноў глядзець на свет. І тады праз іх змарнаваныя, зраненыя да крыві вочы святло праламляецца зусім інакш і не заўжды падаецца святлом.

…Мяккія, цёплыя ручкі сястрычкі. Яны з даверам цягнуцца абняць Вольгу перад тым, як развітацца да раніцы. Але іх перапыняюць іншыя, ТЫЯ гарача-пагрозлівыя, самыя жорсткія і страшныя на свеце рукі…

– Што гэта? Адыдзіся ад яе! Хто цябе такому навучыў? Кладзіся спаць! Дурніца!

Сястрычка сціскае свае ручкі ў кулачкі, адыходзіць. А яе зацяты боль, ад якога можна ўмомант духоўна знямець, той пахаваны жывым боль крычыць праз гады, урываецца ў неспакойныя сны і явы праклятых, выклятых, заклятых дзецей.

– Ты вернешся ў Ірак. Мы ніколі не будзем разам. Навошта нам бачыцца, прывыкаць адзін да аднаго? Навошта ўзмацняць той непазбежны боль развітання?

– Олга!.. Не надо думат. Ти знаеш, что будит завтра? Скажи, знаеш? Никто не знает, что будит. Толко Аллах, — аднадзённа-ўпэўнена адказвае Хаідр. – Я вибрал тебя. Ти поедеш со мной. Почиму ты грустная? Ты не хочеш? Скажи, ты не хочеш? Олга!.. Скажи, скажи…

Яна маўчыць. "Я вибрал тебя".

"Ты не можаш ні выбраць, ні адкінуць мяне, Хаідр. Таму што мяне няма ўжо шмат гадоў. Калісьці мяне сапраўды выбралі. Выбралі даць жыццё, каб пасля, як толькі я пачну АДЧУВАЦЬ, знішчыць і растаптаць тое жыццё. Яно стала існа-неіснуючым тады, калі ўпершыню яшчэ дзіцячай свядомасцю я зразумела, што сваім нараджэннем, існаваннем перакрэсліла жыццё таго, хто мне яго даў. Я ёсць невінаваты забойца, для якога невыказная радасць – стаць на месца сваёй ахвяры. Парадаксальны забойца, але ад гэтага ён не перастае быць забойцам".

– Хорошо, – перапыняе ён яе напружанае маўчанне, у якім ён не можа нічога пачуць. Ніколі не здолее пачуць адчайны крык у яе маўчанні. – Как ти хочеш? Скажи мне. Что ти хочеш? Скажи. Пожалуста, пожалуста, Олья, скажи…

Ён не можа раздзяліць яе маўчанне, яна – размову. Яна прытуляецца да яго, каб ЗАПОМНІЦЬ. Забраць з сабою памяць пра цяпло. І ёй ужо не страшна, што яго цяпло пакіне яе, таму што яго захавае ДРУГАЯ памяць. А ДРУГАЯ яе памяць вечная, таму і цяпло гэтае вечнае. Калісьці ёй даравалі цяпло. Яна запомніць гэта назаўжды. Не так важна, хто гэта быў і наколькі надзейным было тое цяпло. Гэта не мае значэння. Важна тое, што ў яе існа-неіснуючым жыцці аднойчы было цяпло.

– …Я ненавіджу цябе. Ты – маё пакаранне, мая турма. Ты пятля мая. Калі б цябе не было, усё было б інакш. Ты будзеш цягнуць з мяне сокі, пакуль не звядзеш мяне са свету. Праклятае дзіця, на гора ты нарадзілася…

Гэты знаёмы голас! Няма нічога больш балючага, чым гэты голас. Голас, які гучыць так праз Вольчыну віну, праз тое, што прыйшла яна ў гэты свет, каб мучыць, руйнаваць, спальваць адну душу, самую дарагую ёй. Не ў час яна нарадзілася. Мабыць, такога часу і не было. Часу для яе. Халодная, чужая Зямля.

– …Олья! Ти со мной? Я не понимаю, как ти хочеш. Не понимаю. Я так много думал. Ответ мне, потому что я приду и много буду думат обо всём. Олья!..

Якія розныя галасы! Пераплятаюцца, нітуюцца. Галасы ПЕРШАЙ і ДРУГОЙ памяці.

…Кавалкі шкла з выбітым узорам. Шкло на заказ. Яны з сястрычкай так чакалі яго. Загадвалі, які ж будзе ўзор, малюнак і што праз яго будзе відаць. Які дзіўны ўзор. Бездапаможныя кавалкі шкла, яшчэ жывыя, яшчэ здольныя вабіць, клікаць у свой шматколерны свет. Як іх шмат раскідана на падлозе! Тая ж рука ў агні сваёй нястрымнай нянавісці зруйнавала іх, знішчыла вышпешчаны ўзор…

–…Ты ніколі не будзеш годным чалавекам. Што б ты ні рабіла, як бы ні намагалася. Бо памылка ў табе. Ніколі ты не будзеш нармальным чалавекам. Ніколі. Звязала ты мяне. Калі б толькі цябе не было…

ПЕРШАЯ памяць. Але ў Вольгі ёсць скарбніца, схаваная ад усіх вачэй Зямлі, – ДРУГАЯ памяць. Яшчэ адна. Там – вырваныя, украдзеныя з жыцця, на якое яна з нараджэння не мела права, імгненні, падабраныя кавалкі каляровага шкла. Рэдкія, скупыя імгненні цяпла. Іх надзейна захоўвала ўдзячная ДРУГАЯ памяць. Іх можна даставаць са скарбніцы, перабіраць, перажываць нанова. Імі можна ацаляцца, выжываць. Толькі імі.

– Что, снова без слов? Олья, Олья…

№ 29 23 ліпеня 2010 г. ЛіМ

**Вы калі-небудзь звярталі ўвагу на тое, колькі новых фільмаў выходзіць у пракат штотыдзень? Па тры-чатыры навінкі кожны чацвер. Але як разабрацца ва ўсёй шматстайнасці гэтага праекарнага свету — які фільм варты ўвагі і асэнсавання, а які прыдатны для адпачынку розуму? Загадзя пра гэта не даведаешся. Можна, канечне, пачытаць рэцэнзіі, перамовіцца на форумах. А можна знайсці месца, дзе паказваюць менавіта тыя стужкі, якія ўжо зарэкамендавалі сябе. У Мінску такое месца ёсць.**






# Адкрылі свой Format

Кінатэатр "Цэнтр-Відэа" напачатку не карыстаўся агульнай папулярнасцю. Невялікі комплекс з дзвюх кіназалаў у гандлёвым цэнтры "Сталіца" туліўся на ніжнім узроўні, заўважалі яго не адразу. Праз паўтара года існавання, у канцы жніўня 2009-га, там з'яўляецца кінапраект "Адкрыты Format". Маленькія залы паступова ажываюць: людзі ідуць у кіно. Яно і зразумела: фільмы Мілаша Формана, Эміра Кустурыцы, Рамана Паланскі і іншых мэтраў, вядома ж, можна знайсці зрэдчас на паліцы ў краме, але часцей за ўсё гэта пірацкія копіі. Такое кіно наўрад ці прынясе больш задавальнення, чым шырокафарматны паказ у кінатэатры, асабліва калі ты глядзіш яго ў мяккім скураным крэсле. Вось і атрымліваецца, што схадзіць у кіно прыемней, чым цешыцца мастацтвам дома.

З тых часоў, як з'явіўся "Адкрыты Format", папулярнасць "Цэнтра-Відэа" расце, як дражджавое цеста, а білеты пачалі раскупляцца лепш за гарачыя піражкі. Але ідэя дэманстраваць тут аўтарскае кіно нарадзілася значна раней — калі дзверы свежага, толькі што пабудаванага відэасалона ўпершыню раскрыліся насустрач публіцы. Ужо тады ў рэпертуары новага кінатэатра былі выключна карціны знакамітых майстроў, не хапала толькі парадку. Менавіта яго і наладзіў "Адкрыты Format", а дакладней — яго арганізатар, Настасся Ямеліна. Праграмы кінапраекта складаюцца адпаведна пэўнай канцэпцыі і ўсе яны аднолькава прывабныя: калі прыйдзеш на першы фільм, захочаш убачыць і другі, і трэці, і чацвёрты.

"Цэнтр-Відэа" — гэта філіял кінатэатра "Цэнтральны". Але ў адрозненне ад "Цэнтра-Відэа" сам кінатэатр працуе яшчэ і як другі экран, г.зн. паказвае новыя фільмы, счакаўшы тыдзень пасля іх афіцыйнай прэм'еры, за меншыя грошы. А "Цэнтр-Відэа" працуе на свайго гледача — з мэтай сабраць людзей паглядзець неблагое кіно. Прыйсці сюды можа кожны, але ён павінен выконваць элементарныя правілы добрага тона: не жаваць, не піць і не крычаць. Атрымліваецца, што мэта гэтага праекта не толькі выхаваць добры густ, але і добрыя манеры ў некаторых гледачоў.

Зрэшты, пастаянныя наведвальнікі тут — прыемныя людзі, пераважна моладзь, якая цікавіцца мастацтвам. Ёсць і пажылыя фанаты кіно. А некаторыя дзеля серыі фільмаў прыязджаюць з іншага горада на цэлы тыдзень, каб кожны вечар хадзіць у кіно, пакуль адгул на працы дазваляе. "Адкрыты Format" — праект для ўсіх: маладых і не надта, спецыялістаў і дылетантаў, працоўных і навучэнцаў. Білеты ж тут напалову таннейшыя за звычайны і часта немалы кошт прагляду любога новага "мэйнстрыма". Адзіная праблема: білеты раскупляюцца за некалькі дзён да паказу.

За непрацяглы час свайго існавання "Цэнтр-Відэа" добра разгарнуўся. Апрача чырвонай і сіняй залаў з'явілася і трэцяя, зялёная. Ёсць тут і зала павышанага камфорту, дзе на адзін вялізны экран прыпадае толькі шэсць, але ўтульных, крэслаў. А зусім нядаўна арганізатары рэалізавалі даўно жаданы 5D стэрэапаказ. На такім сеансе гледача не толькі візуальна "апускаюць" у 3D-карцінку, але і ветрыкам абвяваюць, вадзіцай пырскаюць, сінхронна з дзеяннем паварочваюць гялдацкае крэсла.

Але ў першую чаргу людзі шукаюць тут кампанію добрага і глыбокага фільма.

Сёлетні жнівень у "Адкрытым Format'е" пройдзе ў сентыментальна-рамантычным ключы. Гэтая рэтраспектыва так і завецца — "Кінарамантыка". Будуць прадстаўленыя кінастужкі "Што?" (рэжысёр Раман Паланскі), "Паравіны года" (рэжысёр Нуры Бельге Джэйлан), "Непрыстойная Бэці Пэйдж" (рэжысёр Мэры Херан), "Чырвоны какаду" (рэжысёр Дамінік Граф), "Я кібарг, але гэта нармальна" (рэжысёр Чхан Ук-Пак).

Сёння ўжо мала хто блукае ў лабірынтах "Сталіцы" ў пошуках кінатэатра: заўсёднікі ведаюць дарогу да яго. Можна ўпэўнена казаць, што дзякуючы "Адкрытаму Format'у" не толькі "Цэнтр-Відэа" знайшоў свайго гледача, але і глядач знайшоў свой кінатэатр.

Юлія АЛЁХНА

Фота аўтара

# Хадзем на Манаева!

**Рана ці позна кожны сапраўдны прыхільнік тэатральнага мастацтва знаходзіць выканаўцу, здольнага сваім талентам, глыбокім разуменнем ролі ці нязвыклай яе інтэрпрэтацыяй дакрануцца да самых патаемных душэўных струнак гледача. Для мяне ўжо многія дзесяцігоддзі такім акцёрам з'яўлецца зорка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктар Манаеў.**

Яго шлях да акцёрскай прафесіі пачынаўся са школьнага драматычнага гуртка. Ужо трэцякласнікам гэты мінскі хлапчук праявіў надзвычайныя здольнасці як характарны артыст. Скончыўшы школу, Віктар Манаеў падаўся ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, але адразу не паступіў. Няўдача не зламіла: ён год працаваў у Беларускім дзяржаўным тэатры лялек, а потым ізноў панёс дакументы ў БДТМІ, толькі не на акцёрскае, а на лялечнае аддзяленне. Курс набіраў выдатны беларускі рэжысёр і педагог Андрэй Андросік, які адразу заўважыў бясспрэчную адоранасць гэтага юнака. Менавіта дзякуючы Андрэю Фёдаравічу пасля заканчэння інстытута ў 1980 годзе Віктар быў залічаны ў славутую трупу тэатра імя Янкі Купалы.

На купалаўскай сцэне В. Манаеў дэбютаваў у ролі Хлопчыка ў спектаклі паводле казкі Р. Кіплінга "Тая, якая сама па сабе блукае". А праз чатыры гады Віктар Сяргеевіч ужо стаў прызнаным артыстам, бліскуча выканаўшы ролю байца Лёнькі-Адуванчыка ў спектаклі "Радавыя" паводле п'есы А. Дударава. Работа акцёра была адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміяй СССР.

Сёння вынікам амаль трох дзесяцігоддзяў прафесійнай дзейнасці — за плячыма ў гэтага артыста больш як паўсотня вобразаў, розных па маштабе і значнасці. Шырокую вядомасць атрымалі яго работы ў спектаклях "Бура", "Плач перапёлкі", "Бераг", "Рэвізор", "Чычыкаў", "С. В." і інш. Віктар Манаеў стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР (1992 г.), дыпламантам фестываляў "Прыбалтыйская тэатральная вясна" (1985 г.), "Залаты Віцязь" (2005). У 1997 годзе атрымаў званне заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

Асаблівую старонку ў творчасці артыста займаюць яго героі ў п'есах, пастаўленых вядомым беларускім рэжысёрам Мікалаем Пінігіным. Сустрэча акцёра са сваім рэжысёрам адбылася ў 1985 годзе, калі ў Купалаўскім тэатры пачалася праца над п'есай К. Хігінса і Ж. К. Кар'ера "Гаральд і Мод". Віктар Манаеў іграў Гаральда, а вялікая Стэфанія Станюта — ролю Мод. У тэатральным асяродку гэты спектакль доўгія гады лічыўся эталонам мастацкасці.

У 1997 годзе М. Пінігін паставіў драму Р. Харвуда "Касцюмер", дзе Віктар Сяргеевіч бліскуча сыграў ролю касцюмера шэкспіраўскага тэатра Нормана. Зорка трупы сэр Джон (яго іграў Мікалай Яроменка) няздатны зрабіць ніводнага кроку без свайго сціплага, нябачнага для публікі, памочніка. Норман апранае, грыміруе, падказвае тэкст роляў, лечыць, на сваіх плячах выцягвае са сцэны паміраючага артыста. Віктар Манаеў здолеў бліскуча данесці да кожнага, хто бачыў гэты спектакль, як па-хрысціянску шчырыя адданасць, пакорлівасць і цярплівасць мізэрнага слугі надзяляюць яго сапраўднай духоўнай веліччу, вартай шэкспіраўскіх герояў.

Тэма маленькага чалавека, надзвычай актуальная для нашага прагматычнага часу, таленавіта працягваецца і развіваецца акцёрам В. Манаевым і рэжысёрам М. Пінігіным у камедыі Ф. Вэбера "Вячэра з прыдуркам". Франсуа ў выкананні В. Манаева выглядае, бясспрэчна, нязграбным і недарэчным, асабліва побач з паспяховым "разумнікам" П'ерам (Сяргей Журавель). Але вось гучыць апошні маналог манаеўскага персанажа, і гледачы, услед за акцёрам не хаваючы слёзы, пераконваюцца, што гэты "прыдурак" здольны не толькі глыбока зразумець іншага чалавека, але і паспачуваць яму, бескарысліва дапамагчы.

Апошняя па часе сумесная работа Віктара Манаева і Мікалая Пінігіна — увасабленне п'есы ірландскага драматурга Б. Фрыла "Translations" "пераклады". Вобраз Джымі Джэка, створаны Віктарам



Сяргеевічам, — пранізлівая перасцярога няўдачнікам. Высокаадукаваны рамантык, Джымі разам са сваім аднадумцам Х'ю падаецца ў войска, каб далучыцца да апошняга паўстання ірландскіх патрыётаў супраць бязлітасных захопнікаў-англічан. Але, засумаваўшы па родных мясцінах, сябры з паўдарогі вяртаюцца дамоў. Нясцерпныя гаркоту, расчараванне і сорам перад тымі, хто аддаў жыццё ў змаганні за волю, абодва запіваюць ірландскай бульбянай самагонкай. Калі ў настаўніка Х'ю ёсць надзейная падтрымка (перш за ўсё — сын Манус), дык самотны Джымі Джэк паступова ператвараецца ў недарэку, якому застаецца толькі плакаць па сабе, сваёй радзіме і сваім народзе.

Спецыяльныя даследаванні можна пісаць пра тое, як іграе В. Манаеў беларускія характары. Найбольш яскравы з іх шэрагу — Мікіта Зносак у "Тутэйшых" Янкі Купалы, дзед Жабрак у спектаклі-містэрыі паводле паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка", Ян Губач і станавы прыстаў Кручкоў у п'есах Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Ідылія" і "Пінская шляхта" (усе названыя спектаклі ў пастаноўцы М. Пінігіна).

Неверагодны поспех трагікамедыі "Тутэйшыя" шмат у чым быў абумоўлены талентам В. Манаева, які ўвасабіў у ёй надзвычай глыбокі і праўдзівы вобраз Мікіты Зносака. У кантэксце гісторыі Беларусі постаць Зносака яскрава ілюструе трагічную абумоўленасць славутай талерантнасці "тутэйшых". Сродкамі мастацтва артыст даводзіць да гледачоў, што няма ў нас маральнага права асуджаць прыстасаванца Мікіту, які імкнецца захаваць сваё жыццё ў невыносных умовах бясконцых зменаў улады і варункаў існавання.

Ян Губач у "Ідыліі" — легкадумны, пусты чалавек, але і ў ім ёсць адметны манаеўскі шарм і захапляльная энергія. У цяжкую для сябе хвіліну я з усмешкай прыгадваю гэтага акцёра ў спектаклі "Сымон-музыка" і заліхвацкую, нібыта ў "Трохграшовай оперы", песню жабракоў на чале з Манаевым: "Бедных нас не praмінай! Дай! Дай!"

Ролю станавога пісара Кручкова Віктар Сяргеевіч называе адной з самых адмоўных у сваім рэпертуары. І ўсё ж такі яго чыноўнік-кручкароб — не толькі хапуга-прайдзісвет, але і наш з вамі абаяльны зямляк, які іскрыцца народным гумарам, дасціпнасцю ды імпэтам.

У асобе любімага артыста мне больш за ўсё імпануе дзіцячая непасрэднасць і ўзрушанасць, яго трапяткое стаўленне да навакольнага свету і Чалавека ў ім. Заўсёды глыбока кранаюць шчырыя, ад сэрца, словы Віктара Манаева пра кіраўніцу школьнага драматычнага гуртка, актрысу С. Станюту, рэжысёраў А. Андросіка, М. Пінігіна і многіх-многіх іншых, самых розных людзей.

Вялікі дзякуй Віктару Сяргеевічу, што гэтак мудра і натхнёна дапамагае нам, гледачам, развівацца духоўна і ў любых жыццёвых абставінах трымацца годна.

Аляксандра БРАЦЕННІКАВА

На здымку: заслужаны артыст Беларусі Віктар Манаеў у спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Пінская шляхта".

Фота Аляксандра Дзмітрыева

**Міжнародны форум цымбалістаў "Сярэбраны звон цымбалаў", які прайшоў сёлета з вялікім поспехам і меў станоўчы розгалас у Беларусі ды за яе межамі, быў задуманы яшчэ ў далёкім 1998 годзе, адразу пасля правядзення I Рэспубліканскага фестывалю, у сувязі з якім і нарадзілася гэтая "срэбразвонная" назва.**

# Цымбалы: радасці і трывогі

І вось ужо шосты раз у гасцінным Маладзечне сабраліся прадстаўнікі цымбальнага мастацтва з розных куткоў роднай Беларусі. Сабраліся, каб абмяняцца інфармацыяй, разам парадавацца поспехам сяброў у справе выхавання маладых музыкантаў, пазнаёміцца з мастацтвам ігры на іншых цымбалападобных інструментах. Ажыццявілася даўняя мара: дзякуючы вялікай зацікаўленасці кіраўнікоў упраўлення культуры Мінаблвыканкама, Маладзечанскага райвыканкама, Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага, а таксама — садзейнічанню і практычнай дапамозе Беларускага саюза музычных дзеячаў, да ўдзелу ў форуме былі запрошаныя прадстаўнікі Малдовы, Украіны, Расіі, Латвіі і Літвы. Безумоўна, гэтае прадстаўніцтва ўзмацніла статус фестывалю, узбагаціла яго змест, абвастрыла спаборніцтва беларускіх прэтэндэнтаў падчас адборачных праслухоўванняў на ўдзел у форуме, выклікала дадатковую зацікаўленасць музычнай грамадскасці.

Сімвалічна, што форум праходзіў у год святкавання 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Ён быў прысвечаны гэтай даце, а таксама — 60-годдзю кафедры народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, праз дабратворны ўплыў якой у свой час прайшлі многія з удзельнікаў форуму і набытыя веды панеслі далей — праз сваіх вучняў — па ўсёй Беларусі і за яе межамі.

## Дзень першы

Паводле традыцыі, якая склалася з першага фестывалю, сёлетні форум пачаўся са справаздачна-выбарчай канферэнцыі Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў (АБЦ) Беларускага саюза музычных дзеячаў. У дакладзе, з якім выступіў аўтар гэтых радкоў, падрабязна гаварылася пра плённую дзейнасць АБЦ за апошнія два гады, была прааналізавана дзейнасць кафедры народных інструментаў БДАМ з дня яе стварэння (1949 г.), звернута асаблівая ўвага на ролю карыфея беларускага цымбальнага мастацтва Іосіфа Жыновіча ў пашырэнні складу кафедры за кошт яе таленавітых выпускнікоў і насычэнні навучальных устаноў рэспублікі прафесійнымі кадрамі. Адзначалася, што сёння няма ніводнага кутка ў Беларусі, дзе б ні было класа цымбал, дзе б ні працавалі выпускнікі кафедры або іх вучні. Гэта наш "залаты фонд".

Усё больш актывізуюцца выканальніцкія традыцыі, закладзеныя раней, пашыраецца падрыхтоўка навучэнцаў і студэнцтва да рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і фестываляў. Найбольшая колькасць перамог прыпадае на апошнія 15 — 20 год, калі шмат нашых цымбалістаў і ансамбляў станавіліся лаўрэатамі і дыпламантамі шматлікіх конкурсаў і фестываляў, Дэльфійскіх гульняў, якія праходзілі ў нашай краіне і за яе межамі. Беларуская цымбальная школа, як у малодшым звяне, так і ў сярэднім і старэйшым, набыла яркія прафесійныя рысы, непаўторны індывідуальны выканальніцкі стыль, што выклікае ў слухача сапраўднае захапленне дзякуючы сваёй віртуознасці, артыстызму, яскравай эмацыянальнасці, глыбокаму пранікненню ў змест



музычнага твора. Не сакрэт, што цымбалісты іншых краін прызнаюць (гаворачы пра тое або не) наш выканальніцкі стыль і спрабуюць яго пераймаць.

У дакладзе падрабязна была асветлена дзейнасць выкладчыкаў і поспехі іх вучняў, удзел у шматлікіх журы, майстар-класах, шырокая канцэртная дзейнасць, стварэнне сайта "Беларускія цымбалы" (аўтары Р. Падойніцына і А. Фірсава) і многае іншае.

У спрэчках, якія вяла намеснік старшыні АБЦ Р. Падойніцына, выступілі кіраўнікі рэгіянальных аддзяленняў асацыяцыі, якія паведамілі пра дзейнасць на месцах, падзяліліся сваімі поспехамі і праблемамі.

Канферэнцыя зацвердзіла ранейшы склад кіраўніцтва АБЦ.

Сапраўдным феерверкам музычных шэдэўраў з'явілася вячэрняе святочнае адкрыццё форуму "Сярэбраны звон цымбалаў". На сцэне Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага панаваў канцэртны ансамбль цымбалістаў "Лілея" (мастацкі кіраўнік — народны артыст Беларусі, прафесар Я. Гладкоў. — Рэд.), які адкрываў форум. Ансамбль і вядучая праграмы Наталля Ганул стварылі такую захапляльную атмасферу, што ніводны са слухачоў аншлагавай залы не адхіляўся ні на хвіліну ад музычнага чарадзейства і бурна апладзіраваў кожнаму нумару. І што асабліва важна — праграма амаль на 100 працэнтаў складалася з твораў беларускіх кампазітараў. Канцэрт прайшоў на адным дыханні і стаўся своеасаблівым майстар-класам, дзе спалучаліся ваенная тэматыка і гумар, паказ тонкай музычнасці і бязмежнай віртуознасці, глыбокі філасофскі роздум і зухаватая простасць. Вынікам выступлення ансамбля сталіся фінальныя працяглыя апладысменты і просьбы ўдзячных слухачоў сфатаграфавацца з удзельнікамі канцэрта.

## Дзень другі

На наступны дзень, як натуральны працяг вячэрняга свята, праходзілі не менш цікавыя, разнастайныя, пазнаваўчыя майстар-класы замежных гасцей. Які гэта быў "кветнік" вядомых прафесараў і выканаўцаў!

Распачаў фестывальны блок майстар-класаў дзівосны літоўскі народны шматструнны музычны інструмент канклес. У нейкім сэнсе ён падобны да рускіх гуслей, але гук яго больш мяккі, аксамітавы. Іграюць на ім пальцамі або плектарам. Інструмент забяспечваецца спецыяльнымі пераключальнікамі, якія апускаюць і падымаюць струны на паўтону. Яго мастацкія якасці віртуозна прадэманстравала вядучая майстар-класа, загадчык кафедры народных



інструментаў Літоўскай акадэміі музыкі і тэатра, прафесар Ліна Найкялене. Шчырую зацікаўленасць слухачоў выклікаў яе змястоўны расповед пра гісторыю гэтага інструмента — у спалучэнні з выкананнем твораў і паказам спецыфічных прыёмаў гуказдабывання. А калі на сцэне цудоўна выступіў лаўрэат міжнародных конкурсаў дуэт канклістак у складзе Айстэ Бружайтэ і Эліты Сідарэнкайтэ (выхаванцы Л. Найкялене), зала была канчаткова заваяваная гучаннем інструмента і талентам выканаўцаў.

Мара Ванага — дацэнт Латвійскай акадэміі музыкі імя Язэпа Вітала — працягвала паказ прыбалтыйскіх народных музычных шматструнных інструментаў. Гэтым разам слухачам быў прадстаўлены не менш дзівосны і вельмі падобны канструкцыяй да канклеса, але адрозны па гучанні, латвійскі інструмент кокле. Гэты інструмент больш



віртуозны за канклес у сувязі з больш дасканалай канструкцыяй. Таксама змястоўна і цікава М. Ванага распавяла пра яго. Музычныя ілюстрацыі, якія выклікалі захапленне ў слухачоў, выканаў квартэт кокле "Каарта" Рыжскага цэнтра культуры "Іманта" ў складзе Гіты Андэрсоне, Дацэ Кербуле, Дацэ Блэйксмы ды Інесы Раса-Пакуле.

Наступны майстар-клас праводзіў народны артыст Украіны, прафесар Львоўскай нацыянальнай музычнай акадэміі імя М. Лысенкі Тарас Баран. Гэты музыкант-цымбаліст — лідэр мастацтва ігры на цымбалах заходняй Украіны. Яго паказ на інструменце, які прафесар зрабіў сваімі рукамі (паменшаная копія вялікіх венгерскіх цымбал канструкцыі венгерскага майстра Ё. В. Шунды), вылучаўся высокім прафесіяналізмам і выканальніцкай культурай. Пры гэтым маэстра прадэманстраваў ігру на жалейцы з адначасовым выкананнем вольнай рукой акампанементу на цымбалах, чым прывёў залу ў захапленне. У майстар-класе Т. Барана бралі ўдзел вучань 3 класа дзіцячай музычнай школы ст. Яблуніў Івана-Франкоўскай вобласці Назарый Стэфанко і яго настаўнік Васіль Лабачук, працягнуўшы асалоду слухачоў ад каларытнага гучання цымбал.

Таксама венгерскія цымбалы, але ж вялікага памеру, гучалі на майстар-класе малдаўскіх музыкантаў. Праводзіў заняткі вядомы малдаўскі цымбаліст, загадчык кафедры народных інструментаў Кішынёўскага музычнага ліцэя-інтэрната імя Ч. Парумбеску Валерыу Луцэ. Музычныя творы на цымбалах дэманстраваў вучань 10 класа, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў Іван Курцян. Настаўнік і вучань былі вартыя адно аднаго: змястоўная, падмацаваная фактамі, інфармацыя В. Луцэ суправаджалася не менш змястоўнай, да таго ж — віртуознай і артыстычнай ігрой І. Курцяна.

Апошнімі выступалі прадстаўнікі рускіх гусляў. Заняткі праводзіла заслужаная артыстка Расіі, прафесар Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных і Маскоўскага інстытута імя А. Шнітке Любоў Жук. Гэты майстар-клас быў тэматычным і называўся "Шматгалосная ладавая імправізацыя на гуслях у ансамблевай практыцы". І сапраўды, на сцэне ўвачавідкі адбывалася музычная імправізацыя, якую ў яркіх, як сонейка, нацыянальных касцюмах ажыццяўлялі шэсць гусляроў з дапамогай музычных папевак, спецыфічных гарманічных сугучнасцей, спецыяльна прадуманых рухаў па сцэне і цудоўных шматгалосных спеваў. Неабходна адзначыць, што шасцёра гусляроў — гэта высокапрафесійныя музыканты ансамбля народнай музыкі "Купіна" (мастацкі кіраўнік — Л. Жук), лаўрэаты міжнародных і ўсерасійскіх конкурсаў Дзмітрый Волкаў, Дар'я Агібаліна, Альбіна Старшынава, Рада Раманава, Дар'я Рагожына і Дзмітрый Кукушка — зусім свабодна і артыстычна "выштукоўвалі" элементы музычнай імправізацыі. І, як адзначыла Л. Жук, падобная імправізацыя магчымая практычна ў кожным ансамблі.

У другой палове дня і да самага вечара праходзіў першы этап агляду-конкурсу маладых выканаўцаў, у якім удзельнічала наша будучыня: дзеці, салісты малодшай групы — вучні дзіцячых музычных школ, школ мастацтваў, малодшых класаў сярэдніх агульнаадукацыйных школ з эстэтычным напрамкам, гімназій, навучэнцы сектара педагагічнай практыкі сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Усяго было праслухана 51 выступленне. Журы, у якое, акрамя мяне і вышэйназваных гасцей, уваходзілі дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Р. Падойніцына і заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Т. Сцяпанава, працавала без стомы. Але і стамляцца не было ад чаго, таму што выступленні дзяцей — гэта своеасаблівы рознакаляровы калейдаскоп. Самыя малыя ігралі праграмы працягласцю 3 — 5 і рэдка 8 — 10 хвілін. А п'есы былі лёгкадаступныя для ўспрымання і разнастайныя па змесце. Акрамя таго, дзеці выходзілі на сцэну бадзёрымі і вясёлымі, уносілі ў конкурсную сітуацыю прыўзнятты, святочны, фестывальны настрой. Большасць юных цымбалістаў праявіла яркія музычныя здольнасці, добрую тэхнічную падрыхтоўку і артыстызм. Усіх немагчыма назваць. Але ж некаторых адзначу. Гэта гамяльчане Дзмітрый Калаціла і Надзея Дзенісенка (ДМШ № 3), Ганна Рабянок (ДМШ № 5), а таксама — Арцём Турбель (Жлобінская ДШМ), Ганна Лоб (Полацкая ДШМ), Аляксандра Барысюк (Пастаўская ДШМ), Яніна Дзямідчык (ДМШ № 5 г. Магілёва), мінчане Фёдар Смірэнін (ДМШ № 5), Арцём Лапіцкі (гімназія № 10). Вельмі добра выступілі і нашы госці: выканаўца на канклесе Ула Паліякайтэ (г. Вільнюс) і Назарый Стэфанко.

(Працяг будзе)

Яўген ГЛАДКОЎ,
старшыня Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў,
народны артыст Беларусі,
прафесар

На здымках: Іван Курцян (Малдова); Валерыу Луцэ (Малдова); канцэртны ансамбль цымбалістаў «Лілея» і яго кіраўнік Яўген Гладкоў (Беларусь).

Сябры! На вашы пытанні, якія датычацца падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

# Шлях да подзвігу

Паданне сцвярджае, было так. Паляваў князь Сямён Альгердавіч Мсціслаўскі ў навакольных лясах, адбіўся ад світы, глянуў на яркае сонейка і — аслепнуў. Уражаны, упаў князь з каня на зямлю і амаль да змяркання блукаў спрабуючы па гуку зразумець, дзе ён знаходзіцца. Калі сілы зусім пакінулі яго, насустрач князю выйшаў манах-пустэльнік, які атабарыўся ў Мсціслаўскай пустыні.

— Ідзі са мною, княжа, не бойся, — прамовіў пустэльнік. — Ніхто не кране цябе, пакуль ты пад маёй абаронай..

Старац вывеў князя да лясной гаючай крыніцы, што ледзь выбівалася з-пад карэння ляшчыны.

— Былі часы, з усяго краю ішлі сюды людзі па святую ваду, і пазбаўляліся тут ад многіх хвароб, — распавядаў пустэльнік. — Але потым загадаў бацька твой, князь Альгерд, засыпаць крыніцу. За тое, што конь яго, схіліўшыся да вады, паслізнуўся на купіне і зламаў нагу. Выправі бацькавы ўчынак. Расчысці сваімі рукамі святую крыніцу. І вада гэтая здыме змрок з вачэй тваіх.

Сем дзён жыў князь у лясным спраце пустэльніка, невідушчы расчышчаў шлях святой вадзе. І адрадзілася крыніца. І піў ваду гэтую князь прагнымі глыткамі. І падстаўляў вочы свае пад яе, і слёзы радасці, змешваючыся з пырскамі, сцякалі па яго шчоках. А калі вярнуўся да яго страчаны зрок, першым, што ўбачылі вочы яго, аказаўся прыўкрасны, нібыта сатканы са святла лік Прасвятой Багародзіцы. Проста над галавой князя, у галінах старой ліпы, зяла цудам яўленая ў гэтых глухіх мясцінах ікона. І пачуў Сямён Альгердавіч дзіўны голас, які зыходзіў ад абраза. Сказала Дзева Марыя, што адбудзецца вялікая бітва. І што князь Сямён будзе тым, хто вырашыць яе зыход. Гэта было прадказанне пра Грунвальд…

Князь Сямён, да хрышчэння Лугвэн, быў дзевятым з сыноў Альгерда. Нарадзіўся ён у 1355 годзе. Было Сямёну ўсяго тры гады, калі бацька яго далучыў Смаленскія землі да Вялікага княства Літоўскага. Разам з імі атрымала "Літва" таксама і Мсціслаў. Але вось калі горад гэты як цэнтр удзельнага княства дастаўся Сямёну, сказаць цяжка. Некаторыя гістарычныя крыніцы сведчаць, што Мсціслаўскім князем да 1392 года быў брат Лугвэна-Сямёна, Карыгайла. Але мсціслаўскае паданне пра святую крыніцу сцвярджае, што цудоўнае вылячэнне князя Сямёна было якраз у год праслаўленай Кулікоўскай бітвы, і значыць, ужо ў 1380 годзе Мсціслаў належаў яму. У кожным разе, манастыр, заснаваны князем Сямёнам на месцы, дзе побач з крыніцай з'явілася святая ікона, — Мсціслаўскі Пустынскі Успенскі манастыр — афіцыйна адлічвае сваю гісторыю ад 1380 года. Кажуць, першым настаяцелем гэтай абіцелі стаў пустэльнік, які вывеў князя да крыніцы.

Яшчэ адна падрабязнасць, якая дазваляе дапусціць, што Сямён Альгердавіч ужо ў той час быў Мсціслаўскім князем. У 1386 годзе пад Мсціслаў прыйшло войска смаленскага князя Святаслава Іванавіча, які імкнуўся захапіць былы горад Смаленскага княства. Разам з ім ішлі страшныя саюзнікі-крыжакі. Сямён Альгердавіч, які толькі што прыехаў з каранацыі Ягайлы, уступіў у бітву са Святаславам. Гэта была жорсткая сеча. Шмат людзей загінула, абараняючы Мсціслаў. Але крыжаносцам горад не здалі.

Сямён Альгердавіч, пэўна, падаваўся сучаснікам сваім надта дзіўным князем. Ён не ўмешваўся ў чужыя спрэчкі і ўсобіцы, не мкнуўся да славы. Калі можна было абысціся без бою, з радасцю карыстаўся такой сітуацыяй. Але пры сустрэчы з няўмольным і бескампрамісным супраціўнікам смела ішоў на яго і перамагаў. 25 гадоў было яму, калі ў Мсціслаўскім лесе — пустыні, як казалі ў тыя часы — размаўляла з ім сама Царыца Нябесная. І з тых часін ніводная іншая жанчына не магла заняць месца ў сэрцы Альгердавіча. З трымценнем душэўным чакаў князь Сямён выканання прароцтва, пасля якога меркаваў пастрыгчыся ў манахі.

Аднак гады ішлі, і прыносілі яны князю неадольныя сумненні. Пустынскія манахі раілі жыць, не клапоцячыся пра заўтрашняе, і вырашаць справы надзённыя. Сямён Альгердавіч паслухаўся іх.

У 1393 годзе князь Сямён выязджаў у Кіеў, дзе манашаствавала яго маці, Ульяна Цвярская, каб прыняць яе апошні ўздых. Так ужо атрымалася, што аказаўся ён адзіным са шматлікага яе патомства, хто здолеў пакінуць усе справы свае, каб развітацца з маці. Расчараваная ўчынкамі першынца свайго і любімца Ягайлы, які пасля таго, як стаў польскім каралём, пачаў усяляк уціскаць праваслаўных хрысціян Вялікага княства Літоўскага, княгіня Ульяна нават пракляла яго ў гневе, адмовіўшыся бачыцца з ім да канца дзён сваіх. Але потым матчына сэрца даравала сыну. І тым не менш, душа княгіні была неспакойнай. Таму што саюз Вялікага княства Літоўскага з Вялікім княствам Маскоўскім праз шлюб Ягайлы з Соф'яй Маскоўскай сарваўся. Сам Сергій Раданежскі благаславіў Софʼю на шлюб з сынам мяцежнага разанскага князя Алега Іванавіча, Фёдарам. Дзяўчына выканала сваё прызначэнне, і прынесла шлюбам сваім мір, калі не з Літвой, то з Разанскім княствам. А шлюб Ягайлы стаў прычынай новых палітычных хваляванняў.

Нічога не адказаў маці Сямён Альгердавіч, нічога не паабяцаў, зрабіў выгляд, што не зразумеў нясмелых намёкаў княгіні, што сыходзіла з жыцця. Можа, баяўся ён, што не ўхваліць маці яго памкненняў — не звязваючы сябе зарокамі шлюбнымі, здзейсніць подзвіг, прадвызначаны яму Нябёсамі.

14 чэрвеня 1394 года ў жыцці князя Сямёна закаранелага халасцяка, адбыліся змены. Саракагадовы князь нечакана для ўсіх прасіў рукі дачкі Дзмітрыя Данскога, Марыі, якая ў наступным годзе нарадзіла яму сына Юрыя. Жонка Семёна Альгердавіча памерла ў 1399 годзе. Суровы ўдавец вырашыў выхоўваць яго сам, не думаючы больш аб шлюбе. Нялёгка гэта было. Таму што дзеля сына даводзілася Сямёну Альгердавічу берагчы сябе ў бітвах і паходах. Тым не менш, у 1402—1403 гадах князь Сямён дапамагае Вітаўту ў яго барацьбе з разанскім князем Фёдарам Ольгавічам і смаленскім князем Юрыем Святаславічам.

Зрэшты, наўгародцам гэтыя паходы не прынеслі ніякіх асаблівых выгод. Яны вырашылі з Ноўгарада Сямёна ад граха падалей папрасіць, а даць яму пад абарону Наўгародскія крэпасці Старую Русу і Ладагу, пастаянныя мішэні для варожых удараў. Прыняў рашэнне наўгародцаў Альгердавіч, не пазбавіў іх свайго мяча. І працягваў служыць верай і праўдай Вялікаму Ноўгараду. Аднак, апошнія гады ён усё часцей стаў наведваць Мсціслаў. Горад гэты падаваўся яму больш бяспечным, каб расціць тут сына. Да гэтага часу Пустынскі манастыр, пабудаваны Сямёнам Альгердавічам, ужо ператварыўся ў вядомую і вельмі паважаную абіцель. А ў 1407 годзе князь Сямён заснаваў недалёка ад Мсціслаўля яшчэ адзін манастыр, Ануфрыеўскі. Пасадзейнічала гэтаму зноў жа праяўленне Божае. Дванаццацігадовы княжыч адпрасіўся ў бацькі на паляванне, але заблукаў і гэтак жа, як некалі сам князь Сямён, знік на цэлы тыдзень. Пошукі былі дарэмнымі, і адразу пастарэлы і пасівелы Альгердавіч упаў у храме на калені перад абразом Ратавальніка і маліў яго толькі аб адным, каб не дадзена было яму перажыць сына.



Бацькоўскае маленне было пачутае. Раніцай княжыч абʼявіўся, жывы і здаровы. І расказаў, як яго вывеў з лесу старац, які назваўся Ануфрыем. Думаючы, што гэта хтосьці з пустынскіх манахаў, Сямён Альгердавіч прыйшоў у Пустынку з багатымі дарамі. Але настаяцель запэўніў яго, што інака Ануфрыя ніколі не было сярод браціі. Затое цудоўнае ўратаванне княжыча здарылася ў той дзень, калі Праваслаўная царква ўшаноўвае святога Ануфрыя. Не інакш, менавіта гэты святы стаў абаронцам Юрыя. Так узнікла Ануфрыеўская абіцель, якая праславілася ў далейшым сваімі перапісчыкамі кніг.

Мсціслаўская зямля насычалася святасцю. Прайшло роўна трыццаць гадоў з таго дня, як князь Сямён пачуў прадказанне Багародзіцы. Час яго выканання прыбліжаўся.

У пачатку XV стагоддзя стала зразумела, што супрацьстаянне крыжакоў і славян непазбежна павінна скончыцца вялікай вайной. Да яе старанна рыхтаваўся пыхлівы і ганарысты магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнінген. Яго мэтай было стварэнне Вялікай Тэўтоніі ад вострава Ругэн у Балтыйскім моры да Фінскага заліва. Дзеля гэтага да ўладанняў Ордэна трэба было далучыць землі Каралеўства Польскага, Вялікага княства Літоўскага, Пскоўшчыну і Наўгародчыну.

У пачатку студзеня 1409 года ў Берасці зʼехаліся Ягайла і Вітаўт, якія збіраліся абмеркаваць пытанне, як адбіць націск крыжакоў. Было вырашана выступіць супраць Ордэна сумесна і з усімі сіламі, якія ўдасца сабраць, даць рашучы бой. Яго вынік павінен вырашыць зыход усёй вайны.

Арміі Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага сустрэліся і абʼядналіся 30 чэрвеня 1410 года пад Чэрвенскам. Сюды ж падышлі і тры палкі, вядомыя Сямёнам Альгердавічам: мсціслаўскі, аршанскі і смаленскі. Яны ўжо ведалі, што за бітва іх чакае, і радасна славілі Багародзіцу. Дабраславенне Пустынскіх інакаў на праведны бой і малітва ля іконы Пустынскай Божай Маці надавалі ім упэўненасці ў перамозе. На заклік Сямёна Альгердавіча на бітву з крыжаносцамі прыйшоў таксама вялікі атрад з Ноўгарада Вялікага. Вера князя Сямёна была такая моцная, што ўзяў ён з сабой на бітву нават пятнаццацігадовага сына свайго.

Вітаўт і Ягайла павялі войскі на сталіцу Тэўтонскага Ордэна Марыенбург. Войскі сустрэліся на шырокім полі ля вёсак Танэнберг ды Грунвальд. Каго толькі не было ў абедзвюх арміях! У шыхтах — 51 харугва крыжаносцаў, акрамя саміх тэўтонцаў ішлі свецкія рыцары практычна з усіх дробных дзяржаў Германіі, атрады ваяроў з Англіі, Францыі, скандынаўскіх краін, нават некалькі шатландцаў. Больш таго, Ордэн падтрымаў венгерскі кароль са сваім войскам.

Сярод 50 польскіх харугваў 7 было з Заходняй Украіны. 40 харугваў Вітаўта былі сабраны з усёй Беларусі. Былі тут таксама літоўцы з Трок і Коўна, дружына з Валахіі, атрад чэхаў, татары хана Джэлал-ад-Дзіна.

Напярэдадні і ў пачатку бітвы пад Грунвальдам бушавала навальніца. Гэта не спрыяла крыжакам. Іх цяжкія коні маглі загразнуць у брудзе. Тым больш, што Ягайла і Вітаўт занялі пазіцыі ў пералесках. Таму крыжакі ўсяляк хацелі выманіць супраціўніка на адкрытую мясцовасць. Нават прыслалі па даўняй традыцыі праз герольдаў два мячы, як афіцыйны выклік, заяўляючы, маўляў, яны гатовыя нават адысці, каб даць больш месца супраціўнікам.

Але палякі марудзілі. Ягайла доўга маліўся, праслухаўшы цэлых дзве месы. Вітаўт пайшоў у атаку. Яго сустрэў агонь артылерыі і арбалетчыкаў. Атака захлынулася, і цяжкая ордэнская жалезная "свіння" рушыла наперад…

Прайшла гадзіна. Стала падавацца, што перамога хіліцца ў бок Ордэна. Войска Вялікага княства пачало адступаць. Некаторыя лічаць, што гэта быў хітры манеўр Вітаўта. Але сучаснікі сцвярджалі, што вялікі князь беспаспяхова спрабаваў спыніць тых, хто бег, збіваў іх і крычаў на іх. І толькі тры палкі князя Сямёна Альгердавіча, мсціслаўскі, аршанскі і смаленскі, цвёрда стаялі на месцы. Яны не сышлі з пазіцый нават тады, калі крыжакі змялі польскае войска, калі разгарнулася ўжо барацьба за вялікую польскую харугву і сам Ягайла спалохана скамандаваў свайму акружэнню: "Панове, да лясу!" Амаль усе воіны Сямёна Альгердавіча палеглі, але іх мужнасць дала магчымасць Вітаўту перагрупаваць войскі і зноў уступіць у бой. А чатыры рэзервныя харугвы Вялікага княства вырашылі, нарэшце, лёс бітвы.

Пыхлівы магістр Ульрых фон Юнінген загінуў на полі брані. Мяркуецца, што з 700 знаных ордэнскіх братоў у жывых засталося толькі 15. Папа рымскі пісаў, што ўсяго пад Грунвальдам загінула 18 тысяч крыжакоў. Перамога была поўнай. Яна спыніла шматвекавую экспансію крыжакоў на славянскія землі.

Як жа склалася далейшае жыццё галоўнага героя Грунвальдскай бітвы, камандзіра трох непахісных харугваў, абранца самой Багародзіцы. Князь быў сціплым чалавекам і не рупіўся пра зямную славу. Праз год пасля Грунвальда ён развітаўся з наўгародцамі, здзейсніўшы з імі апошні паход на шведскія землі, і назаўжды адʼехаў у Мсціслаў. Тут ён жыў ціха і мірна, у гармоніі з Богам і самім сабой. Яшчэ раз ажаніўся. Займеў у шлюбе яшчэ аднаго сына, Яраслава. Памёр Сямён Альгердавіч у 1431 годзе, сямідзесяці шасці гадоў ад роду, перадаўшы мсціслаўскае княжанне першынцу свайму, Юрыю.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
Мікола БАГАДЗЯЖ

На здымку: сярэднявечная гравюра "Грунвальдская бітва".

# Ігар Дабралюбаў



Беларуская культура панесла цяжкую страту — 20 ліпеня на 77-м годзе жыцця нас пакінуў вядомы кінарэжысёр-пастаноўшчык, народны артыст Беларусі Ігар Дабралюбаў.

Для шматгадовай і плённай дзейнасці Ігара Міхайлавіча былі характэрны высокая маральная і творчая патрабавальнасць, актыўная грамадзянская пазіцыя. Багатая палітра выразных сродкаў і глыбокае эмацыйнае напаўненне яго фільмаў, патрыятызм і жыццесцвярджальная сіла творчасці дазволілі яму заняць годнае месца ў шэрагу знакамітых майстроў экрана, атрымаць заслужанае прызнанне кінагледачоў як у Беларусі, так і далёка за яе межамі. Створаныя І. М. Дабралюбавым мастацкія фільмы "Іван Макаравіч", "Белыя Росы", "Расклад на паслязаўтра", "Плач перапёлкі" і іншыя да гэтай пары карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў шматлікай аўдыторыі гледачоў.

І. М. Дабралюбаў удзельнічаў у падрыхтоўцы маладых кінематаграфістаў. Пад яго мастацкім кіраўніцтвам таксама з'явіліся вядомыя стужкі "Па сакрэце ўсяму свету", "Дзіўныя прыгоды Дзяніса Караблёва".

Прынцыповасць і патрабавальнасць, у першую чаргу да сябе, добрае, уважлівае стаўленне да людзей здабылі яму ў кінематаграфічным асяродку непадробную любоў і шчырую павагу.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з нагоды незаменнай страты і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

Светлая памяць аб выдатным майстры кіно, добрым і сціплым чалавеку, грамадзяніне Беларусі назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

П. П. Латушка, А. А. Дудараў, І. М. Лучанок, В. І. Васільеў, С. І. Сухавей, Р. Б. Смольскі, У. В. Гасцюхін, А. В. Яфрэмаў, Ю. М. Цвяткоў, Р. І. Янкоўскі, У. П. Замяталін.





# Віват віцебскія мастакі

Падобнае параўнанне творчага аб'яднання з караблём не проста прыгожыя словы. Яно сапраўды ўяўляе сабой буйную як па колькасці мастакоў, так і па творчым патэнцыяле супольнасць, падуладную ўплывам эканамічных стыхій і сацыяльных нечаканасцей. І разам з тым, супольнасць гэта мэтанакіравана рушыць наперад, трымаючыся на прафесіяналізме, еднасці творчых інтарэсаў, прыярытэце прафесійнага майстэрства, якое ў мастацтве заўсёды было самым аб'ектыўным арбітрам.

Гісторыя аб'яднання мастакоў у творчыя суполкі на Віцебшчыне пачыналася ў першай палове XX стагоддзя ярка і гучна, са стварэння К. Малевічам арганізацыі, назва якой — УНОВИС — сёння вядома ва ўсім свеце... Пазней былі — віцебскія філіялы Усебеларускага аб'яднання мастакоў, Рэвалюцыйнага аб'яднання мастакоў Беларусі ("РАМБ"), Саюза савецкіх мастакоў БССР. Адметна, што ўжо на Першым з'езде мастакоў БССР (1938) абмяркоўвалася пытанне пра стварэнне ў рэспубліцы рэгіянальных арганізацый. Але толькі ў 1944-м быў створаны віцебскі філіял, а праз пяць гадоў — самастойнае аддзяленне Саюза мастакоў БССР, якое ў 1970-м ператварылася ў Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага саюза мастакоў.

Менавіта дзякуючы актыўнай дзейнасці віцебскіх сяброў БСМ выяўленчае мастацтва на гэтай зямлі стала асабліва папулярным. Безумоўна, арганізацыя трымаецца на творча актыўных мастаках. Гэта іх намаганнямі ладзяцца групавыя выстаўкі і праекты, рыхтуюцца мастацкія акцыі і творчыя вечарыны. Іх творы рэгулярна прадстаўляюць Віцебшчыну на міжнародных, рэспубліканскіх выстаўках і пленэрах. Сярод гэтых мастакоў нямала таленавітых творцаў, якія працуюць у самых розных відах і жанрах мастацтва: ад традыцыйных форм жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва да стварэння асобных аб'ектаў і інсталяцый...

Сведчаннем таму сталася выстаўка "Мастацкая прастора Віцебшчыны" ў сталічным Палацы мастацтва. Адкрываючы яе, старшыня Рады БСМ Уладзімір Зінкевіч зазначыў, што Віцебская абласная арганізацыя — найбуйнейшая ў нашай краіне пасля сталічнай — экперыментальны цэх нашага выяўленчага мастацтва. Мастакі Віцебшчыны заўсёды робяць якасны выклік паспаборнічаць, пагуляць у дзіўную гульню пад назвай "творчасць". І гэта ім вельмі часта ўдаецца. Таму што выклік гэты не толькі

**Сучасныя тэндэнцыі ў мастацкім, тэатральным, літаратурным і музычным жыцці Віцебска — годны працяг нядаўняга мінулага. Гэты абласны цэнтр нашай краіны ўвайшоў у гісторыю як адзін з галоўных асяродкаў мастацкага авангарда. З Віцебскам цесна звязана творчасць такіх асоб, як Ілья Рэпін, Юдаль Пэн Марк Шагал (дзякуючы яго намаганням у горадзе ў 1919 годзе адкрыта Народнае мастацкае вучылішча), Казімір Малевіч. У розны час ў горадзе працавалі Іван Трутнеў, Мсціслаў Дабужынскі, Лазар Лісіцкі, Роберт Фальк... Сённяшнія мастакі Віцебшчыны — тыя, хто ўжо мае імя ў творчых колах, а таксама маладыя аўтары — паспяхова прадаўжаюць традыцыі сваіх знакамітых папярэднікаў. Паводле слоў кандыдата мастацтвазнаўства Міхася Цыбульскага, Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага саюза мастакоў у нечым падобнае да вялізнага прыгожага карабля, з некалькімі палубам кают-майстэрняў, напоўненымі экстравагантнымі і рэспектабельнымі пасажырамі. Магчыма, гэты карабель не вельмі хуткасны, але як паказаў час, устойлівы і трывалы...**





для задавальнення нейкіх сваіх асабістых, эмацыйных запатрабаванняў, а перш за ўсё — для творчага станаўлення і сталення ўсіх тых, хто бярэ ў ім удзел.

Таксама слова бралі старшыня БСМ Уладзімір Савіч, яго намеснікі Рыгор Сітніца і Сяргей Цімохаў, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення БСМ Алег Скавародка і яго намеснік Віктар Шылко, віцебскія мастакі Аляксандр Малей, Віктар Мікалаеў, Уладзімір Вальноў. Выступоўцы падкрэслівалі, што там, дзе ладкуюць выстаўку віцябляне — гэта заўсёды цікава, творча, традыцыйна і эксперыментальна. Бо пачынаючы ад XI стагоддзя ўвесь беларускі крэатыў — гэта Віцебшчына: Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч... А яшчэ Малевіч, Шагал і дзесяткі слынных імёнаў, якія дала нашай і сусветнай культуры віцебская зямля. Віцебскае мастацтва вылучаецца сваім почыркам, светасузіраннем сярод іншых. Нават творчасць тых мастакоў, якія навучаліся ў Мінску, а цяпер жывуць і працуюць у Віцебску, становіцца адрознай, яны як бы адыходзяць ад таго, чаму іх вучылі, набываюць іншую скіраванасць. Адным словам, віват, віцебскія мастакі.

"Мастацкая прастора Віцебшчыны" была прадстаўлена амаль 250 работамі з шырокім, маштабным дыяпазонам жанраў і стыляў. Наведвальнікі мелі мажлівасць разгледзець адзін са зрэзаў віцебскага мастацтва. Зборныя экспазіцыі з такой колькасцю карцін і творцаў спачатку заўсёды крыху бянтэжаць, бо іх трэба разглядаць не так, як звычайныя, а адсочваць кожнага мастака з толькі яму ўласцівымі поглядам на мастацтва і манерай пісьма.

Смелыя колеравыя і сюжэтныя рашэнні вынеслі на суд гледачоў Алег Скавародка ("У кафэ", "Адам і Ева", "Чарнобыльская мадонна"), Андрэй Вайцэхоўскі ("Вясна", "Урыўкі сну", "Паветра стагоддзяў"), Алег Крошкін ("Танец", "Рытмы вечара", "Піва. Віцебскае..."). Аляксандр Малей стварыў серыю жывапісных аб'ектаў з разнастайных геаметрычных фігур, якія на адлегласці ўспрымаюцца зусім не пляскатымі.

Своеасаблівую "мастацкую публіцыстыку", як важны элемент у адлюстраванні нашага жыцця, — інсталяцыі "Распнуты шлях. Памяці земляков В. Быкава", "Прысвячэнне матулям" — прадставіў Уладзімір Вальноў. Аляксандр Гвоздзікаў — скульптурныя партрэты найстарэйшага віцебскага мастака А. Толкача, камандзіра партызанскага атрада С. Пацыпы, мастака Б. Кузьмічова, удзельніка афганскай вайны ардэнаносца П. Пятрэнкі.

Па-свойму ўбачылі "Паўдзень" і "Паў-ноч" Вікторыя Крупская, "Раскіданае гняздо" і крыху злавесны "Нацюрморт з хамутом" Віктар Міхайлоўскі. Не пакінуць абыякавымі работы Віктара Крука "Мастак Барыс Забораў", Уладзіміра Вітко "Гады майго жыцця", Алега Кастагрыза "Арго. Час Пасейдона", Аляксандра Салаўёва "Папярэднік", Аляксея Пшанко "Пошукі ісціны", "Горад сіняга цмока". Работы Генадзя Фалея, прыкладам, "Свежы вецер", не абмяжоўваюцца заканчэннем палатна, ім цесна ў рамках, якія паўстаюць як бы іх лагічным працягам.

Лунанне над побытам, уласнае дасціпнае бачанне свету адлюстравалі ў сваіх карцінах Галіна Васільева ("Простая геаметрыя"), Віктар Шылко ("Кампазіцыя"), Віктар Мікалаеў ("Плынь часу", трыпціх "Прысвячэнне Пітэру Брэйгелю"), Аляксей Літвін ("Шэсць пацалункаў").

У сваіх творах Аляксей Краўчанка акцэнтуе ўвагу на адным з колераў: "Белая раса", "Містэрыя", "Начная птушка". Зачароўваюць рэалістычныя "Партрэт дома", "Віцебскі дворык" Дзмітрыя Гаралевіча, "Партрэт студэнткі" Віктара Андросава, фальклорныя матывы "Святкі by", "Грамніцы" Анатоля Ізаіткі.

На выстаўцы відавочны панарамны і, у нечым, рэтраспектыўны ракурс прадстаўлення творчасці сяброў Віцебскай абласной арганізацыі БСМ. У экспазіцыях шырокі жанравы і тэматычны дыяпазон твораў вольна спалучаецца з самымі разнастайнымі спосабамі жывапіснага, графічнага, пластычнага мыслення, варыяцыямі стыляў і тэхнік. Галоўнае, што немагчыма не адзначыць у творах сучасных прадстаўнікоў Віцебскай мастацкай школы, так гэта жаданне адчуваць сябе ў рэчышчы актуальных тэндэнцый развіцця мастацтва, імкненне захоўваць і развіваць традыцыі рэалістычнага і абстрактнага кірункаў, а яшчэ ўласцівага ўсяму віцебскаму мастацтву жаданне быць арыгінальным і эксперыментаваць.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: В. Крук "Мастак Барыс Забораў"; Л. Радзевіч "Першы снег"; Д. Гаралевіч "Партрэт дома"; работа А. Малея з серыі "Жывапісны аб'ект"; В. Міхайлоўскі "Раскіданае гняздо"; А. Скавародка "У кафэ"

Фота аўтара

# Жыве эстамп... Жыве?



Выстаўка эстампа, што прайшла сёлета ў сталічным Палацы мастацтва, мела на мэце не толькі стымуляваць грамадскую цікавасць да гэтага жанру, але і натхніць творчую моладзь на працу ў галіне друкаванай графікі. Калі ж мець на ўвазе, што агледзіны сучаснага айчыннага эстампа не праводзіліся ўжо больш як 10 гадоў, дык гэтую экспазіцыю можна лічыць прынцыповым дасягненнем у дзейнасці Беларускага саюза мастакоў. Вернісаж "Мастацтва эстампа" стаўся нагодай для роздуму пра лёс найскладанага і старажытнага віду творчасці, у якім беларусы маюць годныя гістарычныя традыцыі дый сённяшнія набыткі, адзначаныя прызамі сусветных выставак.

Афорт, літаграфія, гравюра... Адмысловыя тэхнікі мастацкай друкаванай графікі з усімі сваімі нюансамі маюць агульнае азначэнне: эстамп. У даўнія часы ён выконваў пераважна прыкладную функцыю — выкарыстоўваўся для ілюстравання, аздаблення кніг. Але хутка развіваўся і як самастойны від выяўленчага мастацтва. Сёння заўсёднікі айчынных вернісажаў, не шараговыя "аматары прыгожых карцінак", а дасведчаныя ў мастацтве інтэлектуалы з філасофскім складам розуму і яркай творчай фантазіяй, асаблівую асалоду атрымліваюць менавіта ад работ нашых майстроў графікі. Мастацкія аркушы таленавітых прадстаўнікоў розных пакаленняў уражваюць і афарыстычнай трапнасцю вобразных абагульненняў, і поліфанічнай метафарычнасцю, і дасціпнай назіральнасцю, і высокай эстэтыкай увасаблення ідэй і пачуццяў. Так уражвала і сёлетняя экспазіцыя, аснову якой складалі работы, ажыццёўленыя на базе Эксперыментальнай творчай майстэрні эстампа БСМ майстрам-друкаром Д.Малатковым. Гэты легендарны віртуоз рарытэтнай прафесіі прысутнічаў на вернісажы поруч з мастакамі — як незаменны калега і добры геній (а ў нечым і сааўтар) іх творчасці. На выстаўцы прыцягвалі ўвагу творы розных гадоў: ад канца 1990-х да сённяшняга часу. "Легенда пра Свіцязь" і "Паляванне ў ваколіцах Мірскага замка" У.Вішнеўскага; "Забіць дракона" і "Крык" Ю.Якавенкі; графічныя аркушы Л.Алімава, С.Балянка, цыкл лі-



таграфій К.Селіханава "Уваход"; серыя У.Правідохіна "Пасля жыцця"; літаграфія "Малітва" А.Басалыгі; каляровая літаграфія Т.Сіплевіч "Ладдзя роспачы"; афорт В.Саўчанкі "Гняздо і маскі"; "Размова" з цыкла Н.Паплаўскай "Палессе"; аўталітаграфія Г.Паплаўскага "Дрэвы без лісця" з серыі "Чарнобыль"; трыпціх "Час Ірада" з нядаўніх работ карыфея айчыннай мастацкай культуры А.Кашкурэвіча...

Падчас вернісажа намеснік старшыні БСМ С.Цімохаў, старшыня секцыі графікі саюза У.Вішнеўскі, куратар і ўдзельнік выстаўкі А.Басалыга, іх калегі з трывогай разважалі пра лёс эстампа. У сусветным мастацтве вызначыліся тэндэнцыі, якія зводзяць гэтую тэхніку да нуля: наступае камп'ютэрная графіка, многія перастаюць займацца друкаванымі аркушамі, аддаючы перавагу жывапісу. І ўсё ж эстамп у нас жыве. Штогод Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў выпускае 6-7 графікаў. На жаль, іх кваліфікацыя аказваецца незапатрабаванай і ў грамадстве, і на рынку; не адчуўшы належнай увагі да некан'юнктурнага і далікатнага мастацтва графікі з боку дзяржавы, моладзь ад'язджае з краіны або пакідае прафесію. Шкада, што і доўгачаканая выстаўка не выклікала належную публічную цікавасць. Ды радуе тое, што, апроч графікаў, да "Мастацтва эстампа" спрычыніліся іншыя спецыялісты: свае друкаваныя аркушы паказалі прадстаўнікі секцый скульптуры, керамікі... "Я ўдзячны графіцы, — кажа скульптар К.Селіханаў. — Далучэнне да гэтай культуры змяніла мой густ. У беларускім савецкім мастацтве, мабыць, менавіта графіка была найбольш "сувымерная" маштабам асобы чалавека і фарміравала нас як мастакоў. У сферы эстампа выспяваюць і адбываюцца вельмі важныя творчыя моманты. Без гэтага мастацтва не можа быць будучыні ў культуры. Бо ніякія суперсучасныя дзігітальныя прынты не заменяць руку чалавека-творцы".

Аптымісты спадзяюцца, што ў беларускіх майстроў эстампа цяпер з'явіцца свая трыенале, і праз тры гады яна засведчыць плённы працяг традыцый беларускай школы графікі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: аркуш А. Кашкурэвіча з трыпціха "Час Ірада"; Г.Паплаўскі "Дрэвы без лісця".

Фота Віктара Кавалёва



# Вокны ў будучыню

**Скульптура як від мастацтва вельмі цесна звязаная з архітэктурай, з тэхналогіяй вытворчасці, з эстэтычнымі патрабаваннямі грамадства. Такім чынам па стане скульптуры можна вызначыць і сучасны стан архітэктуры, вытворчасці, поглядаў грамадства на мастацтва. У гэтым сэнсе даволі паказальнай мне падалася выстаўка "5/10", што праходзіла ў мастацкай галерэі "Акадэмія". Экспанаваліся творы пяці маладых скульптараў — Сяргея Аганава, Аляксея Сарокіна, Наталлі Стрыжнёвай (Калеснікавай), Сяргея Більдзюка і Сяргея Возісава, — якія скончылі Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў роўна дзесяць гадоў таму. У галерэі таксама адбылося абмеркаванне выстаўкі і агульнага стану сённяшняй беларускай скульптуры. У размове ўдзельнічалі вядомыя мастацтвазнаўцы Міхась Баразна, Яўген Шунейка, Пётра Васілеўскі, Марына Тараканава, Вольга Дзмітрыева, Андрэй Янкоўскі, скульптары Сяргей Аганаў і Канстанцін Селіханаў, студэнты творчых ВНУ краіны.**

Куратар выстаўкі Павел Вайніцкі распавёў пра яе канцэпцыю: маладыя скульптары прэзентуюць сваю творчую справаздачу за першую дэкаду новага стагоддзя. Аднак экспазіцыя ахоплівала значна больш адрэзак часу, бо ўключала і раннія, яшчэ студэнцкія работы, створаныя пяццю аднакурснікамі ў цэснай майстэрні Акадэміі мастацтваў: незабыўнае мінулае!

Прадстаўленыя творы адрозніваюцца выключнай прадметнасцю, своеасаблівасцю вар'іравання традыцыйных скульптурных матэрыялаў — мосенжу, камня, дрэва. Розныя па форме і ступені дэкаратыўнасці пластычныя аб'екты адлюстроўваюць шырокі дыяпазон аўтарскіх выказванняў: ад экзістэнцыяльных прасвятленняў да асобасных настрояў і фантазій. Так у пяцёркі скульптараў выглядае сучаснасць.

А што ж будзе яшчэ праз дзесяць гадоў?

На выстаўцы можна было глянуць і «трохі далей» — праз фота- і відэавыявы на сценах залаў галерэі. Гэтыя пляскатыя выявы стваралі кантраст з трохмернасцю і прадметнасцю скульптур і ўспрымаліся нібы вокны ў будучыню. У іх можна разгледзець патэнцыйныя кірункі наступнага творчага руху ўдзельнікаў выставы: удзел у замежных і айчынных скульптурных сімпозіумах, працу над арыгінальнымі камерцыйнымі праектамі або нават проста сціплае будаўніцтва ўласнай сям'і.





Меркаванне пра тое, што некаторыя работы знізілі планку майстэрства, страцілі жвавасць, маладзёжны запал, занадта камерцыялізаваліся, выказаў Андрэй Янкоўскі. Скульптура павінна выйсці з музеяў на гарадскую прастору, наўпрост кантактаваць з грамадствам.

Пётра Васілеўскі адзначыў факт таго, што праз столькі гадоў пасля заканчэння ВНУ людзі працягваюць творча працаваць. Гэта значыць, яны адбыліся як мастакі, якія бачаць, што ў іх творчасці добра, што дрэнна і куды ім развівацца далей. У савецкую эпоху была створана моцная



школа, моцныя мастакі працавалі на камуністычную ідэалогію, і былі створаны вельмі моцныя творы. Але ў свой час адбылася сапраўдная гарадская рэвалюцыя, калі замест парадных герояў і дзеячаў на прастору выйшлі скульптуры, якія паказваюць простага, звычайнага чалавека, прыкладам — жанчыну на лаўцы, гандлярку семкамі. Сёння патрэбныя работы непрасталінейныя, над якімі трэба падумаць. Наогул, беларускае мастацтва адышло ад прасталінейнага рэалізму і выйшла на трывалы сярэднееўрапейскі ўзровень.

Выключным выпадкам назваў Яўген Шунейка сітуацыю, калі выпускнікі навучальнай установы выстаўляюцца разам пасля стольких гадоў свабоды, самастойнасці. Ён адзначыў, што ёсць патрэба ва ўсталяванні традыцыі — традыцыі ўвагі да выпускнікоў, праявы цікавасці да іх дасягненняў, неабходна, каб іх творчасць бачылі сённяшнія студэнты і выкладчыкі, каб ладзіліся абмеркаванні іх твораў. Яўген Феліксавіч ухваліў арганізацыю прасторы выстаўкі "5/10"— колеравае заніраванне падлогі ды подыумаў і заўважыў павышэнне густу патэнцыйных заказчыкаў, якія бачны ў прадстаўленых скульптурах.

Міхась Баразна адзначыў: сучасны свет знаходзіцца ў прадметным хаосе, і мастак інтуітыўна шукае прыгажосць, любуецца самім матэрыялам. Нельга станковую работу механічна пераносіць у архітэктурнае асяроддзе горада. Скульптару трэба працаваць у адной звязцы з архітэктарам, і нават у гэтым выпадку роля архітэктара павінна быць вядучай. Існуе праблема кантакту паміж студэнтамі-скульптарамі і студэнтамі-архітэктарамі: ён адсутнічае. Неабходна наладжваць узаемаадносіны паміж гэтымі маладымі творцамі. Таксама Міхась Рыгоравіч закрануў праблему экспанавання скульптуры ў музейных залах. З-за немагчымасці паказаць гледачу работы вялікіх памераў, якія знаходзяцца на адкрытых плошчах, аўтар выстаўляе на агляд публікі толькі фрагменты ўласнай творчасці, паводле якіх вельмі складана ўявіць сапраўднае творчае аблічча скульптара.

Уласна мне імпанавала выразная канцэпцыя выстаўкі, яе сучасная назва, падзяленне экспазіцыі на тэматычна-колеравыя зоны, тэхнічнае майстэрства скульптараў, чые творы там дэманстраваліся. Аднак прадстаўленыя работы выглядалі даволі салоннымі, у іх была заўважна залішняя ўвага да дэталяў, што шкодзіла стварэнню агульнага мастацкага вобраза, не хапала выразнай аўтарскай пазіцыі. Зразумела, беларуская скульптура больш традыцыйная ў сваёй сутнасці, больш залежная ад густаў заказчыка, мае меншую схільнасць да эксперыменту менавіта з-за фінансавага аспекту творчасці. Ды ўсё ж такі запазашаны творчы патэнцыял маладых скульптараў, іх прафесіяналізм даюць надзею на тое, што з часам яны створаць работы, якія ўразяць не толькі вартасцямі формы, але і прагрэсіўнымі ідэямі сваіх аўтараў, і моцнымі мастацкімі вобразамі.

Дзяніс БАРСУКОЎ,
дырэктар мастацкай галерэі "Універсітэт культуры"

На здымках: скульптуры, прадстаўленыя ў экспазіцыі "5/10".

Фота Паўла Вайніцкага

Чалавек, які знаходзіць радасны занятак у вольную часіну, ужо таленавіты. Ён не шукае захаплення, яно знаходзіць яго. Толькі ў святле любові да родных мясцін можна заўважыць, якія замілаваныя краявіды вакол нас. Імкненне захапляцца прыгожым — ужо дастатковая прычына, якая ператварае жаданне ў прафесію.

# Рамёствы вольныя, як неба







Але што такое захапленне? Дзе праходзіць мяжа паміж захапленнем і звычайным заняткам? Сам я непасрэднага адказу на гэтае пытанне не знайшоў і заглянуў у ярэміцкі Дом рамёстваў.

Ужо каля дзвярэй адчуваюцца пахі фарбаў. У памяшканні — рознаколерныя прадметы, мноства святла, што стварае адчуванне шчасця. Жанчыны, нахіліўшыся над сталамі, застыглі, як пры малітве, у служэнні хараству. На стэндах, паліцах і сценах — лялькі, цацкі, птушкі і звяры, вазы, скарбонкі. Прыгожа? Так! А колькі твораў — іх безліч! Мой позірк спыняецца на распісанай вазе, смелыя мяккія штрыхі, гульня колераў падкрэслівае форму, і ўсё гэта — сведчанне мастацкай сталасці.

— Гэта творы нашых майстроў, — патлумачыла дырэктар ярэміцкага Дома рамёстваў Алена Тучкова. — Кожнаму чалавеку Усявышні дае шанс нешта стварыць. Вось і творым. А пачалося ўсё з першага набору ў мастацкі клас СШ № 1 г. Маладзечна. Натуральная цяга да прыроднага хараства перайшла да мяне ад мамы Таццяны Аляксандраўны, калі яна шчыравала над прадметамі з лазы і саломкі. Затым мне пашчасціла наведаць выставу ў Мінску. Гэта быў такі неверагодны імпульс, які працяў маё сэрца.

Пасля заканчэння БДУКіМ Алена Юліусаўна была накіравана па размеркаванні на Карэліччыну.

— Я можа, тут і застануся, — прызнаецца Алена. — Выдзелілі мне аднапакаёўку, работа побач, ёсць царква. Адзін Нёман чаго варты: “раімся” з ім, пераймаем, уносім свае карэктывы. Усё, як у Арыстоцеля: “Мастацтва пераймальніцтва прыроды”. У нас не рамесніцкі падыход да твораў, а мастацкі. Мы не працуем па шаблоне — шукаем новае, сваё. Тры дні на тыдзень займаемся з вучнямі малодшых класаў. Дзецям цікава маляваць, ляпіць, у вір мастацтва ўцягваецца моладзь навакольных вёсак.

Творчая індывідуальнасць А. Тучковай неадлучная ад нацыянальных традыцый, яна фігуруе ў розных функцыях: вобразы са старадаўніх павер’яў нашых бабуль, побытавы посуд керамічны, саламяны, драўляны, паясы, істужкі, аздобленыя бісерам, каляровымі каменьчыкамі, выявы насельнікаў лясоў і рэчак. Уражвае красамоўна сціша-



ны “Павук”. Тут усю мастацкую справу забяспечвае трывожны чырвоны колер. Цэлую паліцу займае ансамбль з керамічных вырабаў, упрыгожаных рознакаляровай палівай. Гліняныя цацкі ў выглядзе хатніх жывёл, фігурак людзей, пеўчых птушак.

Варта падкрэсліць, што мастак Тучкова тут выступае ў ролі рэжысёра, які выпускае на сцэну сваіх адмысловых артыстаў — вазы, лялькі, цацкі, звяроў, птушак, — а яны спяваюць і танцуюць.

— Люблю працаваць з глінай, — адзначае Алена, — паказваць істот з іншага свету, розных вадзянікоў, русалак, дамавікоў. І амаль усе, хто бачыў мае творы, сходзяцца ў адным, кажуць, што фігуркі нечым падобныя да мяне. А як інакш? Кожны твор і павінен насіць рысы свайго стваральніка.

Разглядаючы работы немагчыма не спыніцца каля карціны “Адвячорак”. Вечаровыя прыцемкі ўзмацняюць смелае адзінства вады і неба. На ўзгорку, за высознымі хвоямі, ярка палымнее заходзячае сонца. Лес і нябёсы адлюстроўваюцца ў ціхай вадзе.

Лірычным настроем, пранікнёнасцю прасякнуты творы кіраўніка гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Наталлі Чарапанавай. Найбольш поўная мастацкая вартасць яе творчасці выяўляецца ў выставачнай працы “Вясковы падворак”. Прасочваецца яе адданасць вясковаму ладу жыцця.

У Ярэмічах плённа дзейнічае краязнаўча-этнаграфічны клуб “Спадчына”, які ўзначальвае Яніна Навумовіч. Члены клуба дзеляцца сваімі меркаваннямі, настроем, роздумам пра жыццё, шчыруюць над стварэннем лялек, шчодра надзяляюць іх светлай душой і энергіяй.

Карэліцкім раённым Домам рамёстваў кіруе Наталля Мамкевіч.

— Вы паглядзіце, якая колькасць нашых вырабаў, ім так цесна. А мастацтва вольнае, як неба, — паэтычна выдала Наталля Анатольеўна. — Нам патрэбна ўжо свая школа і выставачная зала.

Работы Кацярыны Мантуш пранікнёныя боскім духам і энергіяй. Спецыфічна-вобразнай мовай мастацтва ў жанры батыка выявіла свой светапогляд Галіна Лагута. Скарбонкі Марыі Палуян з характэрным менавіта для яе почыркам можна ўпэўнена аднесці да свежых наватарскіх знаходак. Вонкавая прыгажосць прадметаў — яркі прыклад увасаблення задумы: прывабіць позірк наведвальніка, схіліць яго да светлага з чыстымі думкамі, бо як мы думаем, так і жывём.

— Памятаю, — працягвае размову Н. Мамкевіч, — да нас завітала з дзіцячага садка Аксана Веткіна. Яе лялькі — гэта сапраўдныя творы мастацтва, выкананыя па-майстэрску з розных матэрыялаў, з усяго таго, чым багата наша прырода. Яе вырабы радуюць гледачоў, з удзячнасцю ўспрымаюцца людзьмі і заўсёды ў пашане. А гэта галоўная задача для творцы: стварыць у душы чалавека радасны настрой, свята на кожны дзень. Блукаючы па лесе, майстар шукае патрэбнае, ён умее бачыць, што перад ім не проста галінка, пянёк ці корч, а пакінутая спецыяльна для мастака прыгажосць.

Кожны чалавек, незалежна ад таго, якое ён займае месца, пакідае след у сваім жыцці, а жыццё наша — не бясконцае, і толькі мастацтва — вечнае.

Мікола БУСЬКО

На здымках: дырэктар ярэміцкага Дома рамёстваў Алена Тучкова; работы мясцовых майстроў.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Спектакль “Жанчыны Бергмана” паводле п’есы Міхася Рудкоўскага ідзе на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі без малога 10 гадоў. У чым прычына яго сцэнічнага даўгалецця і стабільнага глядацкага поспеху? Што прываблівае публіку: інтрыга, закладзеная ў самой назве? Рэжысура Валерыя Анісенкі? Акцёрскі ансамбль, у якім нечакана раскрываюцца творчыя індывідуальнасці Таццяны Мархель ды Людмілы Сідаркевіч? Наколькі слушным было рашэнне вылучыць чыннікаў спектакля-доўгажыхара на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі за 2009 год? Пра гэта разважае знаны тэатральны крытык, доктар філалагічных навук Таццяна Арлова.

З глыбінкі

## Натхненне ў Вялікім Сяле

Зачароўваюць сваёй прыгажосцю краявіды Міншчыны, апетыя многімі паэтамі і ўслаўленыя выдатнымі мастакамі-жывапісцамі. Таму невыпадкова, што на працягу шасці гадоў запар у вёску Вялікае Сяло, што на Дзяржыншчыне, на летнія мастацкія пленэры пад назвай “R+Я” прыязджалі з Гомеля таленавітыя глухія дзеці на чале з гомельскім выдатным мастаком-педагогам, глухім з дзяцінства, Васілём Сідарэнкам. Дапамагала вучням і па-мацярынску клапацілася аб іх мастак-педагог, дырэктар Дома народнай творчасці, што месціцца ў Вялікім Сяле, Наталля Ермаловіч. А сёлета на працягу двух тыдняў, удзельнікамі сёмага мастацкага пленэру “R+Я” былі ўжо дарослыя прафесійныя глухія мастакі з Расіі.

Мне пашанцавала пазнаёміцца з імі. Аляксей Гладкоў жыве і працуе ў Маскве, а Анатоль Мікляеў і Міхаіл Гаруноў — жыхары Маскоўскай вобласці (гарады Хімкі і Электрасталь). Усе яны ў свой час скончылі прэстыжнае Вышэйшае мастацкае вучылішча імя Васілія Сурыкава. Чацвёрты іхні калега, Сяргей Вішнякоў, прыехаў з Санкт-Пецярбурга, ён — выпускнік Паўлаўскага палітэхнікума, скончыў мастацка-афарміцельскае аддзяленне. Менавіта творчасць, талент гэтых абдзеленых на слых людзей дапамаглі ім знайсці сваё месца ў жыцці, вызначыцца сваімі работамі.

Зачароўваюць рэалістычныя, класічныя пейзажы, створаныя на пленэры. Цудоўна выкананы малюнак магутнага, у тры абхваты, дрэва, якое расце на адной з вуліц Вялікага Сяла, лазні на ўскраіне сялянскай сядзібы, ахутанага дымкаю далягляда і многіх іншых краявідаў.

Мастакі азнаёміліся з Мінскам, з цікавымі і памятнымі мясцінамі Дзяржыншчыны і Стаўбцоўшчыны. Наведалі яны таксама і Дзяржынскую мастацкую школу, дзе іх шчыра сустрэў вядомы мастак-педагог Уладзімір Шчарбін. Пакідаючы Беларусь, паважаныя госці падарылі Вялікасельскай сярэдняй школе і Дому народнай творчасці створаныя падчас пленэру карціны і пакінулі прасякнутае глыбокімі пачуццямі пісьмо, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: “Наша адзіная думка: вёска Вялікае Сяло, яе ваколіцы і маляўнічыя месцы — ідэальныя для творчага пленэру. Непаўторная прыгажосць беларускай прыроды і мірныя, добрыя і душэўныя мясцовыя жыхары пакінулі ў нас вялікае ўражанне”.

Лявон ЦЕЛЕШ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2904
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 22.07.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3506
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686